УДК 821.161.3

Бабіна, Н.

Крыві не павідна быць відна / Наталка Бабіна. — Мінск: І. П. Логвінаў, 2007. — 220 с. — (Кнігарня «Наша Ніва»)

ISBN 978-985-6800-59-9.

У кнігу ўвайшлі шчырыя і сьмешныя, філязофскія і жыццёвыя апавяданні й дэтэктыўная аповесьць Наталкі Бабінай — самай адчайнай і надзвычай таленавітай пісьменьніцы нашаніўскай жаночай лігі. Захапляльнае чытво для ўсіх, хто шукае сапраўдную Беларусь і сваё ў ёй месца.

УДК 821.161.3
ББК 84 (4Бей)

ISBN 978-985-6800-59-9

## Рэчаіснае з ірэальным

З імем Наталкі Бабінай я ўпершыню сутыкнуўся ў 1998 годзе, калі ў першым нумары новага часопісу з назвай «ARCHE» прачытаў апавяданне «Баль», хоць для «літаратаркі родам зь Берасьцейшчыны, якая піша па-беларуску і па-ўкраінску» (такія біяграфічныя зьвесткі суправаджалі тэкст апавядання) гэта была ўжо ня першая публікацыя. Побач з «Балем» у тым «ARCHE» — згустку нетрывіяльнай літаратуры і якаснай аналітыкі — былі зьмешчаны творы пераважна новых для мяне аўтарак: Марыі Роўды, Евы Вежнавец, Вольгі Караткевіч. Першае ўражаньне ад такой канцэнтрацыі выдатных тэкстаў неўзабаве сьцьвердзіла мяне ў перакананьні, што нарэшце ў нашай літаратуры будзе пераадолена засільле празаікаў-мужчын. Перакананьне засталося: у беларускую літаратуру прыходзяць усё новыя і новыя аўтаркі, шкада толькі, што ні Вежнавец, ні Роўды, ні Караткевіч як літаратарак даўнавата не чуваць. Затое чуваць Бабіну.

Тым ня менш, зусім ня варта разглядаць яе творчасьць у вельмі звужаным гендэрным рэчышчы, як гэта часам робіцца. Наталка Бабіна — не фэміністычная і не фэмінная пісьменніца, таму што яе «мэтавая група» — не жанчыны, а чытачы без увагі на пол. У яе цудоўна атрымліваецца перадаць унутраны свет, чаканьні й спадзевы жаночых персанажаў, якія ў яе творах і пераважаюць; таксама глыбока прапісваць мужчынскія вобразы Бабіна не імкнецца (зрэшты, тут я, можа, трохі крывадушнічаю: дужа калярытнымі выйшлі, напрыклад, вобразы Збышака Янавіча і Анупрыя Іванавіча з “Пасткі для крата»). Безумоўна, найперш праз жаночую псыхалёгію і бачаньне сьвету, жаночымі вачыма мы ўспрымаем актуальнае дзеяньне ў яе творах. Было б дзіўна, кал і б гэта было ня так. Але на гэтым гендэрнасьць і заканчваецца. Далей — агульначалавечыя каштоўнасці, тэмы й матывы: патрыятызм, любоў і каханьне, здрада й сумленнасьць, вайна і сьмерць, простае жыцьцёвае шчасце…

Наталка Бабіна ходзіць пратаптанымі або мала ходжанымі ў нашай літаратуры сьцежкамі. Яна сьмела пераносіць дзеяньне ў самыя аддаленыя куткі зямной кулі, дзе сама магла ніколі ня быць (Курдыстан, Босьнія, Эквадор, Чачэнія), пры гэтым не баіцца, калі нешта прагучыць ня надта праўдападобна — часы чыстага рэалізму даўно мінулі. Не цураецца ня дужа папулярны ў нас жанр дэтэктыву насычаць сацыяльна-палітычнымі рэаліямі сёньняшняга жыцьця. У творах, дзеяньне якіх адбываецца пераважна ў Менску, яна робіць усё смялейшыя крокі па стварэньні новае ўрбаністычнае міталёгіі, прымушаючы дзеяньне ад-бывацца ў абсалютна канкрэтных і вядомых усім менчукам мясьцінах (Палітэхніка, Камароўка, Старажоўка, кавярня «На ростанях»…). Такая канкрэтыка, пазнавальнасць робіць творы жывейшымі. Прыгадваю, зь якім захапленьнем я некалі прачытаў праскі гатычны раман Мілаша Урбана «Сем храмаў», а потым выправіўся на прагулку па Празе і радасна

пазнаваў: ага, вось на гэтым мосьце вісеў труп бабулькі, а на прыступках гэтага касьцёла быў знойдзены мужчына з нажом у сьпіне. Асабіста я ніколі ня быў у менскай Палітэхнікі, але, далібог, некалі выпраўлюся паглядзець, дзе ж гэта ў Яніну страляў Андрэй Накрый-Мяне-Андаракам з «Пасткі для крата». Перакананы: пісаць так і трэба каб экскурсаводы некалі маглі распавядаць турыстам: гэты дом (вуліцу, раён, кавярню...) апяяў у сваім вядомым творы беларускі пісьменьнік/-ца...

Трохі парадаксальна, але пры ўсім тым Наталка Бабіна застаецца сёньня найбольш яскравай берасьцейскай пісьменніцай ці, яшчэ дакладней, пісьменніцай берасьцейскіх ваколіцаў. Гэта засведчылі і тэксты, уключаныя ў гэты зборнік («Баль», дыптых «Словы, якіх я чакаю»), а яшчэ ў большай ступені пакуль ня выдадзены раман «Рыбін горад», зь якім мне пашчасціла пазнаёміцца ў рукапісе. Берасцейшчына, Заходняе Палессе — гэта памежжа трох краінаў (Беларусі, Украіны і Польшчы), тэрыторыя непаўторнага культурнага, моўнага, сацыяльна-гістарычнага фэномэну, які недаравальна заставаўся па-за ўвагай нашых творцаў. Нізкі паклон Наталцы Бабінай, якая сваімі «берасьцейскімі» творамі, кажучы па-сучаснаму, спрыяе дывэрсыфікацыі часта напаўжывой літаратуршчыны і прыўносіць у нашае пісьменства струмень аўтэнтыкі.

Кароткія апавяданні Наталкі Бабінай «Баль», «Крыві не павідна быць відна» або «Зроблена рукамі Альбіны Юдчыц» нечым нагадваюць «Трапізмы» Наталі Сарот: плаўная апісальнасць, поўная адсутнасьць публіцыстычнасці, лёзунгавасьці, проста канстатацыя дзеяньняў ці ўспамінаў. І праз гэта ўсё праступае настраёвасьць, настальгічнасць, лірычнасць.

Іншым аповедам — наадварот — уласьціва амаль журналісцкая расстаноўка акцэнтаў, эсэістычнасьць, роздумнасьць, праблемнасьць. Яшчэ — замілаванасць і заклапочанасьць пры падачы гісторыяў вясковых мадоннаў («Сучасная назва Мідылі», «Шкельцы, шкельцы»...). А як выдатна ў Бабінай атрымліваецца спалучаць рэчаіснае з ірэальным — так, што часам не зразумела, ці гэта ўжо пачалася фантастыка, ці мы патрапілі ў палон інтэнсіўнай мэтафорыкі («Калі прарэзваюцца рожкі»).

Мэтафорыка, каларытная экспрэсіўная мова — канёк і візытоўка Наталкі Бабінай. Яна ўмее напісаць так, што апавяданьне засмоктвае і не адпускае зь першае фразы.

*Сяргей Сматрычэнка*

## Калі прарэзваюцца рожкі

Ледзьве стрываўшы, каб не застагнаць, я адарвала галаву ад падушкі, села на ложку і сама сабе жахнулася: жаданьне зараз жа скончыць гэтае паскуднае жыцьцё дамінавала над усімі астатнімі. Пакуль я курчылася над ракавінай, пакуль, трымаючыся за галаву, грэбалася ў скрыні зь лекамі, пакуль мяне, як хацела, трэсла ліхаманка, жаданьне ператварылася ў цьвёрды намер. Са скамечанай насоўкай у адной руцэ і жменяй таблетак у другой, гаротная, дашчэнту прастуджаная, я напрасткі шыбавала да той мяжы, дзе няма ні памежнікаў, ні парушальнікаў і, па чутках, толькі адзін мытнік. Тым часам выразны радыёголас зь вялікім задавальненнем паведаміў, што «ноччу да мінус дзесяці». І кірунак маіх думак рэзка зьмяніўся. Я не магла пакінуць без апекі свае артышокі. Сорт «Дон Анунцыё Сісаль» — гэта такі абсалют, што перад ім адступае нават горыч апошніх хвілін. Але ён зусім не пераносіць раптоўнага пахаладання. Мяжа, што была ўжо блізка, зноў адплыла да далягляду. Я выправілася ратаваць абсалют.

На прыпынку супраць Камароўкі было надзіва мала народу: некалькі чырванатварых цётак, зграйка летуценніц са скрыпкамі ў футаралах, тып у плашчы з паднятым каўняром (прыцягнуў, багема, гіпсавага каня зь сябе ростам і ўсталяваў на лавачцы) ды зух — мэтар з кепкай на высокіх абцасах. Я, жэрдка ў паліто амаль аднаго з сабой веку, у бурках «бывай, маладосць» і шэрай хустцы, прыкрываючы твар ад ветру высакапробным скепсісам трыццацігадовай незамужняй жанчыны, стала воддаль.

Каб зразумець, што бацькі гораду па завядзёнцы пусьцілі патрэбны мне аўтобус па іншым маршруце, я мусіла ў костку зьмерзнуць. Толькі пасля гэтага я ўспомніла, што, сапраўды, бачыла абвестку ў газэце. Нячысты, і ніхто другі, пад'юдзіў мяне перайсьці на суседні прыпынак дарогай праз двары. Кінуўшы разьвітальны позірк уздоўж вуліцы, я шмыганула ў арку і... аслупянела. Божухны, гэта ж ня Менск! Вільня, Прага, Пітэр Брэйгель-старэйшы! З-пад ног уніз — стромкі горны адхон і дамкі, дамкі, дамкі... Падмурак аднаго лепіцца да даху другога, каменныя агароджы, стогадовыя дрэвы, сумёты ды на паўнеба палае халодным агнём чысты захад. Я працерла вочы. Які захад, не гаворачы пра пэйзаж? Я ж выйшла з дому ў дзевяць гадзін раніцы, і зь неба сеялася імжа... Ды і скуль бы такая панарама ў раўнінным і ўраўнаважаным горадзе?

Уніз вілася сьцежка, ці то, лепш сказаць, раскатаная дзецьмі коўзанка. Рыпнуў сьнег, і побач са мною апынуўся той самы зух на абцасах, што таміўся на прыпынку.

— Ну што, — кажа, — паненка (я вылупіла вочы), — праедземся зь ветрыкам?

Вусы ў нітачку, нос — а-ля шляхта засьцянкова, а ўжо абцасы, абцасы!

— Праедземся, — адказваю, адшукаўшы, нарэшце, голас, — чаму не? Стартуй першы, лавіць бэндзеш, кавалер!

Кавалер бліснуў зубамі, шматзначна падміргнуў (о халера, праводзіць да вакзала, самае меншае!), страпянуўся, схамянуўся, пашыбаваў да коўзанкі і раптам — трах! бах! — спатыкнуўся, грымнуўся ды замест таго, каб плаўненька скаціцца па коўзанцы, бліскавіцай зьляцеў па амаль адвесным адхоне, ліха скочыў з падгону і прызямліўся роўненька на вострую жалезную агароджу. Галава па адзін бок, ногі — па другі. І стогне. Няголасна, але пранікнёна. Нешта накшталт «вой-вой-вой» з пэрыядычнасьцю сыгнала дакладнага часу.

Села я, прабачце, на паліто і асьцярожна, каб, крый Божа, не зваліцца сьледам за зухам, пасунулася ўніз. Коўзанка, раз-другі лягла ў віраж і выкінула мяне на пустынную вуліцу. Ускочыўшы на ногі, я кінулася на стогны і прырасла да сьнегу.

Насустрач мне шпацыравалі пяцёра. Морды — не для апісання. Што ж, думаю, торбы сваёй я ім усё адно не аддам. Прыціснула яе да, зноў жа выбачайце, грудзей і, утаропіўшыся ў зямлю, панеслася наперад. Натуральна, уперлася рыхтык у самую морду. Я ўправа — яшчэ адна, такая самая. Я ўлева — а там другая, шмат горшая. Стаю. А яны задумлівым паўколам адцясняюць мяне да высокага, пад два мэтры, муру. Адцяснілі. Разглядаюць.

— А ну, — лагодна кажа адзін, — прадэманструйце, Галуба, што ў вас у торбачцы? — і ў сваю чаргу рухам добрай волі дэманструе мне нож.

— Сьцеражы-ы-ся!!! — раўнуў зь нябёс трубны голас. — Кідаю!

Бандыты сыпанулі ў розныя бакі. Я ледзьве пасьпела адскочыць, як гіпсавы конь грымнуўся аб зямлю і разьляцеўся на дробныя кавалкі. За шэдэўрам скульптурнага мастацтва з плоту саскочыў яго ўладальнік — багема з паднятым каўняром.

Пакуль я выбіралася з сумёту, куды трапіла, ратуючыся ад скакуна, бандыты ўжо абкружылі прыбылага. Але той не сумеўся, каго — праз галаву, каго — аб калена, і вось перад ім толькі двое. Што праўда, з нажамі. І цiснуць яго да плоту, як за хвіліну мяне. Ну, мяркую сабе, надышла пара ўсё ж такі прадэманстраваць, што ў

торбе. Не марнуючы часу, падляцела ды прыгаломшыла абодвух малатком. Зьбіраючыся на дачу да артышока, я, бачыце, прыхапіла тое-сёе з інструмэнтаў, каб адчыніць, калі што, навалоглыя дзьверы.

Бамбізы з нажамі маляўніча працягнуліся ля маіх бурак. Чорная кроў лілася ў Свіслач. Хтосьці крануў мяне за плячо, я адрухова павярнулася і, зьбітая з ног страшэнным хукам, праляцела добрых тры мэтры ды спаўзла па сьценцы: гэта мяне прывітаў адзін з тых, каго багема з самага пачатку паклаў у снег. Праз хвілю бандыт ізноў апынуўся ў сьнезе й заціх. Багема памог мне ўзьняцца. Вочы мае засьціў крывавы дым, у вушах гуло нешта сярэдняе паміж прыбоем і бэнзапілкай.

— Там! — я з цяжкасьцю разьляпіла вусны. — Зух на плоце, «хуткую дапамогу» выклікаць трэба!

Я паматала галавой і трохі ачуняла. І што ж пабачыла, калі ружовы туман збольшага рассеяўся? Зух, які, як я думала, аддаваў канцы на вострых жалезных прутах агароджы, цэлы і здаровы, расьцьвітаючы чароўнай усьмешкай, дэфілюе цераз вуліцу, разьвітальна робіць ручкай і зьнікае за рогам!

Налётчыкі ў сьнезе заварушыліся.

— Ведаеце што, — далікатна .звярнуўся да мяне багема. — Калі вы зможаце, то нам лепш адсюль уцячы.

Адзін з бандытаў узьняўся на кукішкі.

Як мы беглі! Сьвісцеў-гуў у вушах вецер, адляталі назад камяніцы і ліхтары, палаў захад... Раптам вуліца рэзка павярнула, і раззлаваны трамвай, пад колы якога мы ледзь ня трапілі, вылаяўся званком. Я ашалела азірнулася. «Хлеб, малако», «Белая вежа», людзі, аўтобусы і ніякіх прыкметаў Брэйгеля-старэйшага.

— Скончылася! — узрадавалася я. — Уфф!

— Прапаную па кілішку каньяку, — хуценька адазваўся мой выратавальнік. — «На ростанях». Заслужылі. І, дарэчы, дазвольце назваць сябе, — пратарахцеў чарговы трамвай, і імя я не пачула. — Паводле роду занятку — скульптар.

Швэйцар «На ростанях», пабачыўшы нас, адхіснуўся ад дзьвярэй, а шатніца, прымаючы паліто, зьбялела з твару. Люстэрка засведчыла, што гэта цалкам мая заслуга. Скульптар выглядаў зусім нядрэнна, невялікія драпкі нават рабілі яго няправільныя, але прывабныя рысы больш выразнымі. А вось што да мяне... Перапэцканыя нейкім мазутам штаны разарваліся ў бойцы, патлы зьбіліся ў каўтун, калодай распухла рассечаная губа, а пад левым вокам пераліваўся вясёлкай вялізны сіняк. У дамскім пакоі я прывяла сябе ў блізкі да чалавечага выгляд: ліквідавала дзірку, захінула стары швэдар больш

маляўнічай хусткай, зрабіла прымочкі для губы і сіняка. І цьвёрда вырашыла ўцячы.

Але скульптар чакаў у вэстыбюлі і бяз доўгіх размоваў павёў мяне ў залю, дзе пры нашым зьяўленьні запанавала глыбокая цішыня. Нейкі юнак, тонкая душа, ускрыкнуў і паспрабаваў схавацца за парт'еру. Забіўшыся ў куток, за самы дальні столік, я назірала, як багема размаўляе ля стойкі з бармэнам, і са скрухай думала, што калі зараз ён прынясе гэтак званы жульен у садысцкіх глячках памерам з напарстак — узвыю. Такога выпрабаваным сялянская душа мая ўжо ня вынесе. Але не, гляджу — валачэ паднос, на якім зыходзяць смачнай парай дзьве прыстойныя талеркі, а паміж імі красуе пляшка «Белавескай». У мяне нават на душы цяплей стала. А пасьля кілішка духмянай гарэлкі стала цёпла і целу. І вельмі захацелася расплакацца. І есьці захацелася. Ад першага я зь цяжкасьцю, праўда, але ўстрымалася, затое дала сабе волі ў другім: калі жывеш адна, гатуеш вельмі рэдка. Умінаю і бульбу, і мяса за абедзьве пысы, падымаю вочы і сустракаю такі позірк... Я ажно папярхнулася.

— Вы, — кажу, — так на мяне не глядзіце, я да ўвагі не прывыкла, ад зьбянтэжанасьці магу нешта ня тое ляпнуць і сапсаваць вечар.

— Ну што вы, — супакоіў ён, не адводзячы вачэй, — хіба вы здольная нешта сапсаваць?

Тут я заўважыла, што «На ростанях» — даволі ўтульнае месьцейка: музыка ўперамешку з пасмамі тытунёвага дыму, ліхтарыкі на сценах...

— У вас такія вочы... — ён узяў мяне за руку.

— Вочы вачыма, — нязломна адказваю, але ўсё астатняе флірту не спрыяе: праца ў тры зьмены і поўная адсутнасьць ілюзій аб вечным каханьні.

— А хто тут гаворыць пра флірт? — зьдзівіўся ён. — Давайце гаварыць аб жыцьці, — ён дастаў цыгарэту і спытаў: — Вы ня супраць?

— Ня супраць тытуню, але супраць размовы.

— Чаму? — зноў зьдзівіўся ён.

— А навошта тая размова? Што агульнага паміж вамі, вольным майстрам-авангардыстам, і мной, маёй працай у цэху, надбаўкай за шкоднасць і клопатамі аб пляне выпуску жалезак? Гэта намаганьнямі такіх, як я, трымаецца ва ўмовах разрыву эканамічных сувязяў абарона на франтах народнай гаспадаркі — і, як і раней, струменіцца атрута ў рэкі і ў неба... — і раптам, нечакана для самой, у мяне вырвалася: — Але калі б хто ведаў, як мне хочацца дэзэртыраваць з гэтага фронту, наладзіўшы прыканцы ладную такую дыверсію...

— Людзі — нявольнікі часу, — сказаў ён мякка.

— І яго каты адначасова, — змрочна дадала я.

— Пра гэта можна будзе меркаваць толькі потым.

Замільгалі ліхтарыкі — бар зачыняўся на самым цікавым месцы гутаркі.

Ён паглядзеў на мяне запытальна. Я смыкнула плячыма.

— Што ж, можна і да мяне, толькі, папярэджваю, гэта зусім не палац. І ў кухні бялізна разьвешана, сохне.

* * *

Я павярнула галаву. Ён, не прачынаючыся, мацней прыціснуў мяне да сябе. «Ну, не чалавек, — падумала я і зь пяшчотай пагладзіла растрапаную шавялюру, адчуваючы пад пальцамі маленькія, схаваныя валасамі рожкі. — Ну, асьпід, ну, чорт рагаты... Родны і мілы! Лепшы за ўсіх! І за што мне, Божа, такое шчасце?!» — і я асьцярожна памацала рожкі на сваёй галаве.

...У нядзелю мой родны завод узьляцеў у паветра. Ні адной ахвяры, а монстар у руінах. Зрабіць гэта было няцяжка, хоць і запатрабавала досыць доўгай падрыхтоўкі. Складанасьцяў не ўзнікала і ні з адным з наступных аб'ектаў, нават з ваеннымі базамі. Рабочая сіла, што вызвалілася, занялася, нарэшце, карыснай працай, і вельмі хутка гэтая зямля зноў зазьзяла. Што ж, я вельмі рада, але ў мяне зноўку праблемы. Бачыце, ёсьць вельмі шмат кніжак пра тое, як выхоўваць дзяцей, але ніхто ня піша, як выхоўваць маленькіх істотаў з рожкамі, і гэтыя двайняты, далібог, вось-вось насядаюць нам з татам на галовы.

*1996*

## Чакай, чакай...

А можа, гэта ўсё з-за празрыстага паветра першай восені, у халоднай роснай цішыні... Восені, што ходзіць прадмесцямі, прыхарошвае юлёвыя галоўкі размаю, лічыць качанят... Восені, што чакае.

Настройцеся на гісторыю каханьня. Банальнага, апальнага, кранальнага, трыюмфальнага. Сьпіс кожны вольны працягнуць на свой густ. Жанчыны налева: скандальнага, пастаральнага, амаральнага... Мужчыны направа: аральна-генітальнага, ідэальнага, штоквартальнага. Азначэнні можна беспакарана ператасоўваць — сума глядзіць на маніпуляцыі са складнікамі звысоку.

— І калі, Глеб Рыгоравіч, на наступную плянёрку зноў зьявісься зь перасорціцай, зважай — рукі абарвем.

— Ды й ня толькі рукі...

Снапы сонечных промняў праз светлыя фіранкі, грукат крэслаў, занатоўнікі, жарты, сінія халаты, праблемы: вялікія, малыя, высмактаныя з пальца, разьдзьмутыя ў элефанта, ад іх пухне галава, калі толькі дазволіць ім гэную галаву забіць.

Вярнуўшыся ў свой кабінэт, Глеб запаліў цыгарэту. Сёння нават нарада ў дырэктара — падрабязныя справаздачы, намыльванне каркаў, чарговая порцыя допінгу — не змагла прывесці яго ў звычны працоўны настрой салдата Яго Вялікасці Завода, дробнага шрубчыка ў сьценах раскошнага палаца Як Усе, нястомнага барацьбіта за вялікую ідэю Павелічэння Выхаду Прыдатных Мікрасхемаў. Сёньня ён не адчуваў сябе ні салдатам, ні шрубчыкам, ні барацьбітом. І добра разумеў чаму. Запаліў яшчэ адну цыгарэту, павярнуўся да шкляной сьцяны, што выходзіла на кветнікі прадмесця. Восень... Цёмныя ружы, пульхныя шапкі крыжанак ды цыній, заплаканыя корчыкі хрызантэмаў... Гэта восень.

Пэўная ў сваім праве, яна зноў прыйдзе праз год — з чыстым халодным паветрам, позьнімі аксамітавымі ружамі, заплаканымі дробнымі хрызантэмамі, пажухлымі бульбянікамі, качанятамі, што так падрасьлі за лета. Яна зноў прыйдзе, і Глеб, пэўна, зноў пабачыць праз год яе посьмех ў кветніках прадмесьця. А можа, і не пабачыць, скурчаны пад купай папер, заклапочаны новымі тэхналёгіямі, збоямі ў рабоце абсталявання, газетамі, гарэлкай, пакупкай новай кашулі, гарнітура, лядоўні, чырвонай цэглы для катэджа, а-ва-ўсіх-тваіх-сяброў-ужо-ёсьць ды намордніка для матулінага мопса. Стаміўшыся чакаць унукаў, маці абавязкова набудзе сабе калматую вычвару на крывых лапах... Рэдка, вельмі рэдка выпадалі хвіліны, калі, як цяпер, Глеба агортвала пачуцьцё нейкай неакрэсьленай агіды да ўсяго на

сьвеце, а так добра наладжанае, прастуючае ўгару жыцьцё здавалася смешным ды горкім. Ён замкнуў дзверы, вярнуўся да стала і апусьціў галаву на рукі. Перад вачыма імгненна ўзьнік яе твар...

...Да начных дзяжурстваў ніхто ня ставіўся сур'ёзна. Жартавалі, што цяпер, пасьля таго, як галоўным сацыялістам перадалі абавязкі вартаўнікоў, лагічна было б абцяжарыць іх і працай прыбіральшчыц. Тым ня менш, ад дзяжурстваў было не адвярцецца, і вось настала чарга Глебу ісьці апусцелымі калідорамі ды шарпаць клямкі — усе запар. Гарэлі жоўтым лямпачкі сігналізацыі ды пахла тонка і непрыемна — лінолеўмам ды выцертым пылам. Сьвятло ў лябараторыі Глеб заўважыў здалёк — яркі простакутнік шкляных дзьвярэй. У долю імгнення зразумеў — гэта яна. І ўзяўся за клямку.

Яна падняла вочы, агонь зялёны шугануў зь іх загадкавай глыбіні, і Глеб спачатку нават ня мог зразумець па яе твары, што няўлоўна зьмяніўся, узрадавалася яна ці спалохалася.

— Што так доўга? — спытаў ён, падыходзячы.

— Вера Васілеўна прасіла скончыць разьлікі да заўтра, — зьзяньне яе вачэй з кожнай хвілінай рабілася ўсё ярчэйшым і цяплейшым, і, сядаючы на краёчак суседняга стала, Глеб ужо бачыў: узрадавалася.

Амаль нічога Глеб ня ведаў пра гэтую дзяўчыну. Ня ведаў нават, як яе завуць. Ды ёй неяк і не пасавала ні адно зь вядомых яму імёнаў. На заводзе ўсе называлі яе Мадмуазэль; яна і сапраўды моцна паходзіла на тую француженку, якую таксама ўсе так называлі паўстагоддзя таму. У сьвеце вытворчай дысцыпліны і стэрыльнасці яна выглядала нязвычна. Зграбная пастава, адкрыты твар, чыстыя фарбы скуры, бліскучыя вочы, ядвабныя блюзкі, тонкі пах сьледам па калідоры... Пра яе плявузгалі жанчыны, пра яе гаварылі мужчыны, а сама яна, стрыманая і маўклівая, была з усімі роўная ды халаднаватая. Ільдзінка ўваччу раставала адно тады, калі яна глядзела на Глеба. Але Глеб ваяваў зь перасорціцай ды дэфэктамі вакуўмнага напыленьня і, правёўшы Мадмуазэль доўгім позіркам ды пацёршы лоб, — пра што гэта трэба ўспомніць? — зноў заглыбляўся ў паперы. А яна ў які раз думала, што, відаць, талай вадзе ня суджана змыць сумёты таго, што падаецца яму важным, а значыць, ёй, бездакорнай мадмуазэль інжынэру, зноў і зноў глядзець у змрок, спрабуючы забыцца на тое, што здаецца важным ёй...

— А няважнае ў вас тут, аднак, асьвятленьне, — заўважыў Глеб.

— Але, — падхапіла яна, — і, галоўнае, бжучаць гэтыя лямпы так мярзотна, ад гэтага чамусьці прыгадваюцца прусакі, як яны паўзуць са шчылін. Бр-р,— яна перасмыкнула плячыма.

— Падсвядомасць, страшная рэч, — рассмяяўся Глеб, з задавальненнем адзначыўшы, як празьзяў у адказ яе твар. — Пэўна, успамінаецца Рэмарк, тое месца, дзе... Памятаеце?

— Памятаю, але. Я наагул заўважала, асацыяцыі рэдка бываюць рэальнымі. Ну, можа, толькі ад пахаў. А сітуацыі, словы часьцей асацыююцца зь літаратурнымі калізіямі...

— Гэта ад таго, можа, што ў кнігах заўжды адбываюцца значныя падзеі. Ці, лепш сказаць, шматзначныя. А значнасьць ці шматзначнасьць рэальнага жыцьця так ці інакш застанецца для нас сумнеўнай.

Яна энэргічна заківала, і Глеб бачыў, што яна разумее ня толькі тое, што ён сказаў, але й тое, што хацеў сказаць, і што яна прыймае і падтрымвае гэта. Футарал прытворства — адзеньне на кожны дзень — зь ёй быў недарэчны. Глеб адчуваў дзіўную сувязь, што мацнела між імі: у іх размове словы сталіся толькі неабавязковым атачэннем чагосьці нашмат больш істотнага. Яны размаўлялі, нібыта яблыкі зрывалі з галін, не даючы ім упасці ды разьбіцца аб цьвёрдую зямлю. Гэта было цудоўна і страшна. Але Глебу раптам зрабілася страшна: ён пабачыў, як хвіліны напаўняюцца сэнсам, набрыньваюць ім, бы крывёй. Яму міжволі захацелася адмахнуцца, пайсці адсюль, забыцца пра ўсё: пра неакрэсьленае прыцягненне, пра доўгія позіркі ўсьлед, пра сёньняшнюю размову, пра тое, што казалася бяз словаў, паміж словамі, над словамі.

Дзяўчына з усьмешкай штосьці тлумачыла, але ён чуў толькі трымценне сваёй крыві, што сачылася з драбнюсенькіх пораў. Крыві, якой набрыняў час. Ён ня мог адвесці вачэй ад яе рук: яны, што птушкі на галінах, трошкі падрыгвалі на лісьце ватмана.

— Ведаеш што, пойдзем да мяне,— глуха, нечакана для сябе самога сказаў ён.

Дзяўчына ўскінула павекі, але, як падалося Глебу, ніколькі не зьдзівілася і адразу ўстала.

У калідоры ён ўзяў яе за руку. Яна трошкі павярнула далонь і таксама сціснула яго руку тонкімі доўгімі пальцамі. Ці пяшчота пакідае на вуснах саланаваты прысмак? А жаданьне?

Смуга ночы, цяпло мяккай скуры, словы, такія шчырыя, што падаюцца пацеркамі, што пасыпаліся з разарванай ніткі... Калі яна, паклаўшы галаву яму на плячо, спала, ён гладзіў яе валасы, глядзеў у шэрасць вакна і думаў: «Вось як, значыць, бываюць шчаслівымі...»

У прыймовым пакоі затраскацеў тэлефон: дырэктар меў мілую звычку на першым золку даведацца ў дзяжурнага, ці добра спаўпачываў флагман айчыннай мікраэлектронікі. Прачнуўшыся, яна

мякка пацягнулася, працерла вочы далонькамі і з усмешкай падштурхнула Глеба: ну што ж ты, ідзі... Хуценька супакоіўшы Татачку, ён вярнуўся. У пакоі нікога не было. Адрухова Глеб ірвануўся да дзьвярэй, але спыніўся і, вярнуўшыся да канапы, сеў. Зрэшты, толькі адна ноч. Гэта слабая процівага, калі на другой шалі — трыццаць гадоў жыцьця.

Аддаючы вахцёрцы пропуск, яна ўжо ведала, што больш ня вернецца сюды, не дакранецца больш да плястыкавай карткі, што мела прэтэнзію стаць сутнасцю і знакам жанчыны. Падняўшыся да сябе ў пакой, яна нават засьмяялася ад радасці. Не! Больш гэтага ня будзе. Сьцёрла макіяж, лак з пазногцяў, гладка прычасалася — і амаль што не пазнала сябе ў люстэрку. «Мадмуазэль, — падумала, пасьміхнуўшыся. — Ну, досыць, мадмуазэль Пелагея. Дамоў».

Любіць маці — гэта проста, калі маці проста любіць цябе, і яе зялёныя вочы блішчаць, але пытанняў ты ня чуеш. Кінуўшы ў кут вялізную торбу, што бачыла Варшаву ды Стамбул, Поля пераапранулася ды пайшла ў поле, дзе ракатала пяцітонка і куды маці наказала бегчы як хутчэй. Усе дзесяць кабет-суседак, дзесяць гаспадыняў, завіхаліся тут. Каб прыняць жыцьцё і перастаць думаць пра яго, дастаткова пачуць, як падаюць у кодаб грузавіка — тук-тук-тук, бах, тум-тук — гэтыя вялізныя буракі... Пальцы, гадзіну таму дагледжаныя ды далікатныя, пакрыліся тонкай земляной скарынкай, пад пазногці забіліся чорныя пясчынкі. Малады шафёр, што кружляў, звужваючы кругі, вакол машыны, нарэшце рашыўся і, прымасціўшыся ля Полі, узяўся дапамагаць жанчынам. Гэта трохі сапсавала ёй настрой, бо сімпатычны юнак, што макам пачырванеў ад шматлікіх жартаў, нагадаў пра яго, а Полі не хацелася ўспамінаць. Не хацелася думаць, не хацелася губляць пачуцьцё поўнага жыцьця.

Калі грузавік пратрэсься па полі і вывярнуў на грунтоўку, Поля падсьцяліла куфайку і лягла на зямлю воддаль ад суседак, што ў чаканьні наступнай машыны паселі кружком ля бураковай купы. Восеньскія промні і вецер былі такімі пяшчотнымі — не, не як яго рукі, а як... так, няхай, як яго рукі. Няхай. Яна ня будзе з-за гэтага смуткаваць. Няхай. Яна не пашкадуе пра тое, што было, — дзякуючы таму, што было, яна тут, і ёй добра, і туга пайшла ад яе. І яна не шкадуе, што ўсё прайшло — таму што ня хоча больш фальшу. У яго свой шлях, у яе — свой, і няхай усё будзе так, як будзе.

З заплюшчанымі вачыма яна пацягнулася, паклала далоні пад галаву, і струмені паветра адарвалі яе ад зямлі і плаўна панеслі ўгору. Засталіся ўнізе верхавіны дубоў на ўскрайку поля, яна бачыла сьветлую палоску грунтоўкі, шашу, на якую вырульваў грузавік, насустрач

яму ішоў цёмны легкавічок, і сонечны прамень адблісквaў ад даванага капоту. Поля лунала ўсё вышэй: збоку зьявіліся дахі дамоў вёсачкі, нязвычна выглядаў зьверху лес, паблісквала рака... Сюды даносіліся толькі пахі печанай бульбы — дзеці распалілі вогнішча на суседнім полі — ды сырой халоднай зямлі. Магутныя паветраныя патокі выяўлялі шлях, па якім спускаюцца на зямлю душы, што хочуць наведаць былы дом свой.

— А гэта хто ж прыехаў? Нешта не пазнаю...

Пелагея расплюшчыла вочы, прысела. Бразнуўшы дзьверкай цёмнага бээмвэ, да яе ішоў Глеб — у куфайцы, сьмешнай круглай шапачцы і кірзавых чобатах...

— Я падумаў, можа, спатрэблюся: прынясьці-аднясьці, пагрузіць-разгрузіць... Карацей, ці мала на што на палявых работах спатрэбіцца грубая мужчынская сіла? — сказаў ён, пасміхаючыся вачыма.

Яна паднялася і пайшла яму насустрач.

Два крылатыя хлопцы, што назіралі за імі зь лістоты найбліжэйшага дуба, пераглянуліся.

— Бадай што, цяпер мы можам сабе дазволіць перакуліць па чарцы, — сказаў адзін.

— Бадай, — пагадзіўся другі. — Аднак чакай, чакай, — ён яшчэ раз рассунуў лісьце і ўважліва паглядзеў на поле. — Лепш усё ж такі вярнуцца як мага хутчэй. За гэнымі людзьмі трэба пільнаваць і пільнаваць.

І яны зьняліся з галіны.

*1996*

## Сучасная назва Мідзілі

Я амаль заўсёды прачынаюся пад трэці заклік муэдзіна. Не таму, што ён мяне будзіць — праз сон я амаль заўжды чую і першыя два, — а проста таму, што трэці голас з недалёкай вежкі здаецца мне замежкам паміж сном і днём. У вакно я бачу мора — амаль заўжды спакойнае. На жаль, раніцай вецер з гораў, і пах мора, які я так люблю, не далятае.

Я выбіраю сукенку — толькі шаўковыя і толькі зялёных адценняў — і выходжу на тэрасу, каб зварыць каву. Вуглі паступова разгараюцца, пясок у жароўні становіцца цёплым, потым гарачым, пена ў джэзьве расьце... З кубачкам у руках я сяджу пад разрослымі данельга кірказонамі і, назіраючы за берагам, за першымі купальшчыкамі, думаю, чым заняць новы дзень. Калі ўвечары або ноччу быў шторм, то ў гэты час звычайна ўздоўж пабярэжжа павольна плыве рыбацкая маторка, і той з рыбакоў, што малодшы, мэлядычна гукае:

— Рыба! Залата, срэбна рыба! Сьвежа рыба!

Бывае, я ўзмахваю рукой у адказ, і тады маторка кіруецца да невялічкага прычалу, і рыбак прыносіць мне латок з рыбай — гэта заўсёды кефаль, і яна заўсёды, і сапраўды, залатая і срэбная. Я выбіраю рыбіну і плачу за яе ўдвая больш, чым запрошвае рыбак. Мне падабаецца, як ён пасьміхаецца, атрымаўшы грошы. Пасьля я яшчэ прашу аднесьці рыбіну ў садок у двары, і рыбак, кланяючыся, адыходзіць.

Сонца паднімаецца высока, але на тэрасе заўжды халадок. Людзей на пляжы большае — хутка будзе ўжо натоўп.

Цяпер пайсці ў горад — выбраць.

...Выбраць у вулічных гандляроў чарговую зялёную сукенку, мяккую і далікатную, пальцы сьлізгаюць па тканіне, яе хопіць на тры разы апрануць. Потым паблякне колер і пасыплюцца швы, і яна паляціць у сметніцу. Яна не паспее надакучыць мне, а гэта нямала.

...Выбраць нешта ў маленькіх крамах, дзе прадаюцца срэбныя пярсьцёнкі з волава, шкляныя рубіны ды сапфіры-стразы. Дзе-калі сярод развалаў шкляных рознакаляровых каменьчыкаў мільгне змрочнае вока сапраўднага смарагду ў аправе зь белага ці зялёнага золата або чарнёны бранзалет зь сямі сланоў, стары, як сам гэты горад. А то яшчэ тумановы агат або, невядома адкуль, крыжык з кітайскага жадаіду... Або залацісты тапаз, вялікі, як яйка перапёлкі, і трошкі-трошкі мутнаваты, або блакітны аквамарын, які хавае зялёнае глыбока-глыбока ў душы...

Калі я не купляю нічога ў лаўках ювеліраў, то іду на базар. Адсюль ужо немагчыма пайсці без нічога, бо, у адрозьненьне ад рубінаў і сапфіраў, усё тут сапраўднае. Амаль чорныя смоквы, памідоры, нібы ракеты ў мініятуры, і тлустыя, сакавітыя пабегі партуляку, якія агрэсіўна тапырацца на прылаўку безьліччу лістоў. Ігрушы, салодкія перцы, слівы. Гронкі вінаграду, якія адной рукой не падняць, персікі пульхнатыя і гладкія, яркая салата. Кавуны, разрэзаныя надвое дыні, абрыкосы. Маладое лісьце вінаграду, далікатная бамія, артышокі. Салодкая бульба, салодкая цыбуля, яшчэ цыбуля, пранізьлівага вострага смаку. Агуркі як коні і маленькія, сьвежая пекінская капуста, Часнык, такі й мочаны... Першы з гандляроў кавай, да якога я падыходжу, дае мне калёнскай вады, каб я асвяжыла рукі і твар, выбавілася пахаў базару — каву трэба выбіраць «на чысты нос»...

Калі мне ня хочацца ў горад, я еду горнай дарогай, куды прывядзе. У мяне невялікі пэжо, канешне, пэрламутрава-зялёны. Дарога заўсёды прыводзіць мяне ў адно месца. Да пераваду неба бясхмарнае, але варта падняцца на яго, як пачынаюць наплываць аблокі. Мора адсюль, з вышыні, здаецца сінім-сінім, толькі ля берагу, там, дзе праз слой вады бачныя камяні старога, яшчэ элінскіх часоў, порту, вада смарагдава-зялёная. Камяні аблепленыя марскімі вожыкамі. Зусім блізка адсюль востраў Мідзілі — так цяпер мы называем Лесбас, — ён трошкі зацягнуты смугой, але ўсё адно добра відаць маленькія дамкі з чырвонымі стрэхамі і купкі дрэў. Усё так, як і тут, у Бахрамкале, але тутэйшыя дамкі с чырвонымі стрэхамі стаяць пустыя — тут жылі грэкі, яны даўно паўцякалі адсюль, і правільна зрабілі, і цяпер тут пустынна, і вецер вее так моцна, быццам хоча сагнаць з гары ўніз, у мора, і пустыя дамы, і пыльныя камяні, і мяне. Я адпускаю тормаз, і пэжо, падагнаны ветрам, пачынае каціцца ўніз. Калі-нікалі я еду абачліва і асцярожна, амаль не зьнімаючы нагу з пэдалю тормаза, а калі-нікалі пру вельмі хутка, звонка смеючыся на крутых заваротах, на якіх сустрэчныя машыны, што едуць на перавал, прыціскаюцца да скалаў. Як бы я ні ехала, урэшце дарога выносіць мяне ў маленькае мястэчка, абы-якія дамкі тут, штогод іх засыпае каменьне з гары, якая аж вісіць над самымі дахамі.

Я купаюся. Калі ехала павольна, то плаваю ўздоўж берагу, апусціўшы вочы ў ваду, і разглядаю рыбаў. Тут няма кефалі. Жоўтыя сумныя рыбіны, стракатыя вясёлыя, ружовыя задуменныя. Вусатыя. Надзьмутыя. Рыбы, што спяшаюцца па справах. Калі ехала хутка, то, кінуўшыся ў ваду, плыву да Мідзілі. Зацята плыву, аж пакуль ня пойдзе напярэймы памежны катэр. Тады павяртаю назад.

Аднойчы, не даяжджаючы да перавалу, я зьвярнула з шашы на прачышчаную бульдозэрам дарогу — такія дарогі ў гарах зазвычай вядуць да гранітных кар'ераў або да вялікіх аліўкавых плантацыяў. Гэтая, абвіўшы некалькі невысокіх вяршыняў, вывяла да жытла.

Белая хата, збудаваная яшчэ за часам імпэрыі, у высахлай ушчэнт седлавіне. Сям-там алівы, старыя камлі, маладыя галіны. Зялёна-шэрая лістота над пажоўклай травой, усё астатняе спяклася на сонцы. Пануры восьлік паміж алівамі, тры пужлівыя авечкі. На ганак выйшла старая. Яна круціла галавой, азіраючыся, але не прыкрывала вачэй ад сонца. Яна выйшла на шум матору, але машыны ня бачыла. Я націснула на газ, матор зароў, і старая нарэшце сфакусавала позірк. Я заглушыла рухавік і выйшла, бразнуўшы дзьверкай, і пару разоў пакланілася, як вымагае звычай.

— А хто то? — спыталася яна.

— Мяне завуць Нэйбахат, — адказала я.

Я разглядала старую, вырашаючы, што сказаць, як растлумачыць ёй свой прыезд.

— Пабачыла дарогу і трапіла да вас.

— А хто то? — паўтарыла старая.

Тады я сказала:

— Мяне прыслаў мула з Бахрамкале. Ён пытаецца, ці ня трэба вам чаго падвезьці — прадуктаў, вопраткі, можа, трохі грошай? І казаў, што ў вас можна купіць алею.

— Нэйбі? — перапытала старая. — То ты? Які мула?

Старая, пэўна, спачатку прыняла мяне за родзічку ці знаёмую. Мне падалося, што з ёй ужо нельга гаварыць, але праз хвіліну задуменнасьці яна прамармытала:

— А, мула, барані яго алах... — і зноў замоўкла, няўцямна разглядаючы мяне чорнымі вачыма, адно зь якіх амаль цалкам, а другое напалову зацягнутыя бяльмамі.

Проці звычаю, яна не спяшалася запрасіць мяне ў дом. Сонца пякло мне галаву, у седлавіне ветру зусім не было. Пот — вадкасць, якая плыве з чалавека тонкімі струменьчыкамі проці ягонай волі.

— Хадзем, уцягнеш мне нітку ў голку, — нарэшце сказала старая.

Я пайшла за ёй, уцягнула нітку ў іголку, не адрываючы яе ад катушкі, — так запатрабавала старая. Потым я прыяжджала яшчэ пару разоў.

На ёй заўсёды было адно: чорная хустка, цёмная сукенка, чорныя шаравары. Яна, мабыць, так і спала. Ад яе патыхала цьвільлю,

мочам, авечым гноем. Старая не абувалася нават у самую спёку, калі я не магла дакрануцца да пяску. Босай хадзіла на агарод і па ваду.

Бачыць яна амаль ніц ня бачыла, але дзякуючы звычцы ўпраўлялася вобмацкам.

Павесіўшы на бакі панурага восьліка два аплеценыя пыльнай лазой вялікія бутлі і пачапіўшы на локаць вядро, яна выходзіла з дому у самую спёку — чым ясьней сьвяціла сонца, тым лепш яна бачыла — і па незаўважнай у камянях і пыле сцежцы ішла да крыніцы — струменьчыка, што выцякаў проста з каменю. Ісьці трэ было спачатку ўгору, потым уніз — з гадзіну. Доўга цюрчэў струменьчык, пакуль напаўняліся бутлі. Восьлік дзе-калі падыходзіў і піў, перахопваючы яго. Тут, ля вадапою, восьлік трохі ажыўляўся і пачынаў скубсьці траву, якая расла паблізу вады. Травы было мала, і восьлік пераходзіў на поле, на агурочнік. Калі бутлі былі поўныя, старая бралася за паліванне. Доўга-доўга струменьчык напаўняў вядро. Кожнай расьліне — па кубку, усім пароўну, незалежна ад тога, гурок гэта, памідор ці бульба. Нічога іншага старая не садзіла. Старая сказала мне, што кожны раз яна паспявае паліць толькі палову поля — трэба ісьці назад, пакуль не зьвечарэла. Яна баялася цемры. Таму на другі дзень яна палівала другую палову поля — усярэдзіне корчыкі выглядалі лепш, іх, выходзіць, палівалі часьцей, і восьлік сюды не дабіраўся. Я не магла дапамагчы старой паліць усё — загваздка была ў крынічцы, якая занадта марудна жаўрэла...

Старая была вельмі маўклівая. Яна ні пра што мяне не пыталася й не адказвала.

Аднойчы адвязаліся і згубіліся авечкі. Калі, абышоўшы вакол хаты, старая гэта зразумела, яна заплакала, закрычала і ўпала на зямлю. Праз паўгадзіны я, спатнелая і задыханая, прыгнала трох худых жывёлінаў, а яна таксама ляжала на пыльных камянях і плакала.

— Ана, устаньце, гляньце, вось яны, я іх знайшла! — крыкнула я.

Яна села на зямлі і стала аглядацца з тым самым выглядам, як тады, калі пачула шум маёй машыны.

— Вось яны! — крычала я, запыняючы бяздумных авечак і папіхаючы іх каленьмі бліжэй да старой. — Усе тутака! Ня плачце!

Адзінай ежай старой было авечае малако і сыр зь яго, ну і яшчэ аліўкі. На бульбу і агуркі ў гэтым пекле разлічваць не прыходзілася.

Старая, дрыжучы, углядалася перад сабой. Мы загналі авечак у хлеў, і, поўзаючы ў гноі на каленях, старая яшчэ доўга мацала авечак, лічыла.

Потым старая ўпершыню пачаставала мяне. Я ела сухаваты салёны кавалак сыру, трохі забруджаны яе рукамі, старая ела свой

кавалак побач са мной, ёй цяжка было есьці цьвёрды сыр трыма пянькамі, што засталіся ў роце, крошка сыру прыляпілася да шчакі, а кавалачкі гною — да пальцаў, і я падумала, што старая хутка памрэ.

Я вырашыла, што заўтра паспрабую прывезьці ёй смажаную залатую кефаль. Раней, што б я ні прывозіла, ёй нічога не смакавала, ежай яна цяпер лічыла толькі сыр ды аліўкі, а ўсё астатняе клала назад у торбу і засоўвала мне ў руку. Мярцьвяцкі пах стаяў у хаце, калі я прыехала наступным разам.

Старая ляжала, непазнавальная, на сьпіне, вочы яе былі закрыты, а сківіца адвалілася. Сухія рукі са скурчанымі пальцамі ляжалі ўздоўж цела. З-пад пляскатай падушкі выступаў краёк іконкі. Я і ня ведала, што яна была грэчанкай. Калі тут рэзалі грэкаў, яна, значыцца, была зусім дзяўчом.

Я выйшла з хаты, выпусціла з хлеву авечак, якія неспакойна турзаліся па загоне, выпусціла і напёрла восыпка, які, аднак, адразу зноў вярнуўся пад хату.

Дома, пад кірказонамі, я вырашыла забіць Марыда. Ах, я ж яшчэ не казала, хто такі Марыд! Я яго ўтрыманка. Ён прыязджае сюды раз на тыдзень. Дзень я праводжу зь ім, а астатнія шэсць — так, як хачу. Гэта прымальная плата — мне ня трэба, як многім іншым жанчынам, бачыць свайго ўтрымальніка кожны дзень і ноччу, пакуль не заснеш. Мне не прыходзіцца штодзённа працаваць, каб два разы на месяц атрымліваць жалю вартую купку грошай, якіх усё роўна заўсёды бракуе. Як ён пнецца выглядаць значным, і, халера, гэтае валасатае пуза... Поры на носе, пах парфумы ад вусоў. Тэк-с.

Забіць мужчыну, які агідны.

Я схадзіла за пісталетам і навярнула на ствол глушыльнік. Заўтра ён прыедзе, і я яго заб'ю.

*1996*

## Грошы ёсьць дакумэнт

Не памятаю, як выйшла, як дайшла. Што пад машыну ня трапіла — цуд. Ачомалася толькі на лаўцы ў сквэрыку, і то трохі: і скверык, і трамваі, і людзі круціліся ў мяне перад вачыма вясёлкавым, зь перавагаю блакітнага, колам.

Гэта ад неспадзяванкі. Я даўно ўжо ня маю надзей, але пляны яшчэ сную. І вось гэтыя пляны абваліліся, а руіны прыдушылі мяне такім цяжарам, што з-пад іх мне ня выбрацца. Кола круцілася ўсё хутчэй, туман перад вачыма гусьцеў, гусцеў, аж пакуль не згусцеў у папяровы кубачак з халоднай мінералкай. Зь цяжкасьцю сфакусаваўшы погляд на кубачку, тады на руцэ, што яго трымала, тады на тулаве, да якога рука мацавалася, тады на галаве над тулавам, я зьдзівілася настолькі, што мне нават стала лепш. Запамінальны выгляд у мужыка, які мяне паіў: худы да сухасьці, касцісты, вакол касаватага вока — шнар ад брыва да гарбатага носу, на другой шчацэ — пляма апёку. Пусты кубачак мужык кінуў у вялізны зашмуляны заплечнік і выхапіў стуль пунцовую ружачку з кропелькамі вады на пялёстках.

— Табе.

Я далонню ацерла з ілба халодны пот — сьлед мінулае непрытомнасці. Вопратка бамжацкая, зьбітыя боты. Рукі запэцканыя. Ружачка ў заплечніку... Мужык сеў побач, заплечнік прымасціў ля ног, скасавурыў на мяне і без таго касое вока і задаў няўцямнае пытаньне, якое, аднак, я выдатна зразумела:

— Ты чаго?

Калі цяля з лысінкай нарадзілася, з лысінкай яго і ваўкі зьядуць. Так і я. Вось толькі што жыцьцё — у каторы гэта раз! — тыцнула мяне носам і выразна сказала: «Людзям ня вер!», а я гляджу на шахвараста ў расхрыстанай куртцы, напэўна ж, прайдзісвета і махляра, і мне хочацца ўсё яму расказаць, бо такія ў яго прыгожыя, рэдкага фіялкавага колеру вочы, хай сабе й касое.

Ну, я і расказала.

...Калі ты настаўніца, у цябе трое дзяцей і жывеш ты, скажам, у Маладэчне, сточваць канцы з канцамі няпроста. Муж не памочнік. Як так выйшла, што вясёлы стройны хлопец, ад погляду якога трымцела маё сэрца васямнаццаць гадоў таму, ператварыўся ў азызлага чырванатварага барацьбіта зь зялёным зьмеем, я ня ведаю. У барацьбе, вядома, перамагае зьмей, і ў тыя рэдкія гадзіны, калі муж ня п'е, у яго адно жаданьне — напіцца. А дзяцей трое. Ратуе тое, што я добра

шыю. Да мяне і паліто прыносяць шыць, і гарнітуры. А аднойчы наша дырэктарка прынесла і вывернула на канапу гару норкавых скурак.

— Пашыеш мне футра, — сказала яна патрабавальна. — Добры вечар!

Я пашыла. А куды падзенешся? Вочы баяцца, а рукі робяць. Дырэктарка была ў захапленьні.

— У цябе талент! — вяшчала яна перад люстрам. — Прыроджаныя здольнасьці мадэльера!

Футра гэтае яна паперла на выставу народных промыслаў у Менск. Мяне запрасілі на адкрыцьцё, і я тулялася паміж тканых капаў і вышыванак, дурэючы ад тлуму. Мардатая, адзін у аднаго, дэлегацыя дзелавых колаў Масквы трохі пагалёкала каля майго футра, а ўжо пры канцы дня да мяне рыссю падбегла дырэктарка.

— Казіміраўна, пашанцавала! — горача зашаптала яна мне ў вуха. — Не прадзешаві! Пагаджайся! Грошы я пазычу! З нэндзы выберашся!

Нічога не разумеючы, я вылупіла на яе вочы.

— Нэла Казіміраўна, — загаварыла дырэктарка ўжо ўголас, перабольшана-ласкава. — Вашае футра зьвярнула на сябе ўвагу аднаго з нашых шаноўных гасьцей з Масквы. Прадстаўніца ягонай фірмы ў Менску, — яна велічна павяла рукой у бок маладзіцы з цыцкамі і плятынавымі валасамі, — праводзіць вас. Магчыма, вас зацікавіць яго прапанова.

Маскоўскі госьць Іван Іванавіч чакаў мяне ў нейкім службовым пакоі. Пасьля непрацяглых, але ўзьнёслых камплімэнтаў мне (самародак, народны талент, рэдкае майстэрства) ён разгарнуў перад мною часопіс.

Там, на глянцавай старонцы, прыгожая незямной, адсутнай прыгажосцю жанчына хуталася ў доўгую, да кітак, футравую сімфонію. Ані намёку на фальш, аніводнай ноты дысанансу: срабрыста-чорны вадаспад ліецца, пераліваецца ў чорна-срабрысты, лашчыць вока. Мяккі каўнер, шырокае крысо, якое прыгажуня прытрымлівае рукою.

— Зможаце пашыць такое? — пачула я голас маскоўца.

Ах, дык наш шаноўны госьць хоча скарыстацца з таннай беларускай працоўнай сілы? Але колькі ж такая цаца будзе каштаваць у Маскве? Халера яе ведае. Дый не пашыю я такога, заскладана, занадта вытанчана. Дырэктарчына норка была ўся аднолькавая, цёмненькая, а колькі я пакутавала, пакуль дапасоўвала адну да адной... Не, не змагу, вырашыла я, і раптам адчула знаёмы сьверб у кончыках пальцаў. Хвалі цудоўнага аксамітнага футра... Адчуць іх пад рукамі,

адчуць, як каштоўныя скуркі ператвараюцца ў неацэнную дасканаласць, даць ім новае жыццё, каб прымусіць забыцца пра тое жыццё, якое аднялі ў зьвяркоў, каб цяпло новай дасканаласці прымусіла забыцца пра холад асвежаваных тушак...

— Гэта шыншыла. Тут спатрэбяцца вельмі адмысловыя скуркі.

— Я давяраю вам і вашаму густу. Калі мы з вамі будзем супрацоўнічаць, вы атрымаеце заказ «пад ключ» — ад набыцьця скурак да пашыву. Давайце дамовімся так: я аплачваю вашыя выдаткі на матэрыялы і плачу за работу дзвесьце даляраў.

Я пасля доўга ганарылася тым, што сказала ў адказ «ня можа быць нават мовы» і зрабіла спробу выйсці.

— Колькі б вы хацелі? — спытаў ён адразу.

— Дзесяць тысяч.

— Ну, вы ж ведаеце — за такія грошы можна пашыць у Парыжы. Давайце будзем імкнуцца да ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва. А то вы будзеце мець — пагадзіцеся — вельмі добрую працу, а дзе ж мой інтарэс? Тысяча.

— Дзевяць з паловай.

— Гэта несур'ёзна!

Сур'ёзна аказалася — пяць тысяч. Мы ўдарылі па руках і падпісалі дамову.

Мая няўрымслівая дырэктарка даведалася, што такая работа ў Маскве будзе каштаваць дзесяць-пятнаццаць тысяч, але пагадзілася, што і пяць — больш чым добра. Ого, пяць кавалкаў зялёных! З такімі грашыма мне ня страшная ні зіма, ні выпускны баль у наступным годзе, і нават фары маленькага «Форду» заблішчэлі недзе ў тумане будучыні...

Дырэктарка, сапраўды, пазычыла мне грошы, і я прывезла ад пана Караля з-пад Беластоку купу мяккіх пераліўчатых скурачак. Ацаніць іх і зьняць мерку да мяне прыехала з Масквы мымра, для якой шылася футра. Яна адразу аддала мне тое, што я патраціла ў Польшчы, і я разьлічылася з дырэктаркай.

Шыла я толькі рукамі. Сотні тысяч раўнюткіх шыўкоў, напарстак прырос да сярэдняга пальца... Мымра прыяжджала колькі разоў, цьвіла і пахла з кожным разам усё мацней. У апошні свой візыт яна прынесла мне неабмерную каробку цукерак, сказала, што я цуд, што грошы я ў любы час магу забраць у прадстаўніцтве фірмы мужа ў Менску, расцалавала мяне, упакавала футра і зьнікла. Назаўтра — то бок сёньня — я прыехала ў Менск.

Плятынавая дамачка ў прадстаўніцтве выклала перад мной дзьвесьце баксаў.

— А рэшта?

— Якая рэшта?

— Яшчэ чатыры тысячы васемсот.

Яна працягнула слухаўку радыётэлефону. Іван Іванавіч са мной не цырымоніўся. Ад крыўды, ад хваляваньня, ад яго агідных словаў кроў спачатку прыліпа да шчокаў, а потым затахкала ў скронях... Вось так, абражаная, амаль непрытомная, без жаданьня жыць далей я і апынулася на лаўцы ў сквэрыку. Так, у мяне трое дзяцей, якіх трэба падняць, але ж, бачыць Бог, ёсьць мяжа і маім сілам...

— Ясна, — кіўнуў бомж. — Грошы, грошы, грошы. Грошы ёсьць дакументам, які сведчыць, што твая праца запатрабаваная ня толькі чалавекам, які табе плаціць, але і ўсімі тымі людзьмі, праз якіх грошы прайшлі раней. Бачу толькі адзін шлях: трэба ехаць у Маскву. Вярнуць табе твае дакументы.

Галава мая зноў, як карусель у парку, пaціху пайшла кругам. Вось так, згопалу, у Маскву? Зь невядомым чалавекам? І як жа ж мы здабудзем тыя грошы? Адрас у мяне ёсьць, але што з таго? А ў торбачцы ж у мяне дзьвесьце даляраў, я даўно не трымала ў руках такіх грошай, а ну як падмане і абярэ? А зь іншага боку, што мне губляць? Дзьвесьце даляраў зь нявыкруткі мяне ня выведуць... Дзеці цяпер у бэпээсэмаўскім лягеры (начальнікам там адзін актывіст БНФ, дапамог уладкаваць, каб трохі ад'еліся), а мужу да лямпачкі, хоць бы я і на месяц адляцела, а ня толькі ў Маскву.

— А чым ён займаецца, гэты твой Іван Іванавіч?

— Кніжкі выдае. А цябе як зваць?

— Мяне зваць перарваць, хвамілія лопнуць. Фабіян я. Ну, што, рашылася?

Якія ўсё ж такі прыгожыя ў гэтага абарванца вочы!..

— То хадзем на вакзал.

— З вакзалу ў Маскву езьдзіць эліта, багема і бабулі з унучкамі. Сярэдняя ж кляса — ён стукнуў сябе ў худую грудзіну — дабіраецца таньней і зручней.

Фабіян устаў, закінуў за плечы рукзак і працягнуў мне руку.

* * *

Праз гадзіну мы ляцелі на ўсход у вялікай фуры, нагружанай печывам заводу «Слодыч», і ў шчылінах тэнту пасвіствалі вецер, роспач і страх. Куды ты прэшся, Саламея Круцяльніцкая? Дзеці, школа, гарод, гарод, дзеці, школа — вось тваё жыццё, па-іншаму ты жыць ня ўмееш. Куды ж ты ляціш?

— І вартае ж жыцьцё, няма чаго сказаць, — нечакана прамовіў унутраны голас. — Даў Бог плёну. Муж — адна назва, жылы цягнеш, як бэльгійская кабыла, сьвету за капейкай ня бачыш. Дзеці, лічы, сіроты пры жывых бацьках.

— Но-но! — страпянулася я. — Дзяцей я люблю, і яны мяне любяць.

— А калі ты ў апошні раз купляла ім марозіва, пяшчотная матуля? — пацікавіўся голас. — Ці вазіла ў Горадню ў заапарк? А па душах калі з каторым апошні раз гаварыла? Толькі і ведаеш, што высалапіўшы язык працаваць, палоць, паліваць, парэчкі дзерці. Бульбу пад лік абіраеш, каб на ўсю зіму хапіла. І ў лягер на тры зьмены!

Крыць няма чым. Што я хапалася за ўсялякую работу, што працавала і працавала, гэта ўсё так, але праўда ў тым, што прасьвету не было відаць. І што з чалавека я ператварылася ў аўтамат па здабыванні сродкаў існавання — гэта таксама праўда. І праўда, што ўсё часьцей прыходзіла думка: як жа я стамілася жыць, прыбяры мяне, Госпадзе, і нават тое, што ў мяне трое дзяцей, не адганяла гэтай думкі...

Фабіян, які, здаецца, драмаў, паварушыўся і выглянуў у шчыліну.

— Расея!.. Можна і падсілкавацца.

Я звычайна ня ем чужога, у горла ня лезе, але ад акура тных бутэрбродаў зь селядцамі не адмовілася.

Дык ты, значыцца, з Маладэчна, — кінуў мне памідор Фабіян. — Я там у вас гадоў з восем працаваў. Што ты зьдзіўляешся? На будоўлі, я ж інжынэр-будаўнік. Ты думаеш, я бомж? Не, я бадзяга. А гэта вельмі розныя рэчы. Сумную паэзію жыцьця заўважаюць толькі бадзягі ды некаторыя маці, а не разумее ўвогуле ніхто. А калі канкрэтна, я зьбег ад жонкі.

— Навошта ж жаніцца з такой, ад якой потым уцякаць?

— Пытаньне не да мяне... Колькі сябе помню, кахаў суседзкую дзяўчыну. Яшчэ з тае пары, як разам у пяску сядзелі, потым у школе вучыліся. Вырашылі пажаніцца, як толькі скончым школу. Рыхтаваліся да вясельля. Вечарам вёз я сваю Гэлю ў клюб на танцы на матацыкле. Яна нахінулася, каб паправіць раменьчык на басаножку, а я якраз павяртаў, і яна далася галавой аб каменны слуп. Бяз шлему ехала... Ты мо й чула пра гэты выпадак. У нас у Радашкавічах тады толькі і мовы пра тое было. А мяне ад сьмерці выратавала турма. Мяне ж пасадзілі. Каб застаўся дома, то зрабіў бы сабе нешта, бо перад вачыма ўсё стаяла відовішча: яе расколатая галава і паўшар'і мазгоў... А ў турме памерці не дадуць, — ён міжволі крануў шнар на

твары. — Так што на пахаваньні мяне не было, ляжаў у турэмным шпіталі. Словам, яна памерла, а я — не. З дому зьехаў, працаваў у Менску на будоўлі, потым у інстытут паступіў. А з Гэляй адзін час нават размаўляў, яна прыходзіла, голас яе чуў. Потым мінулася... А як інстытут скончыў, пайшоў працаваць, маці пачала чапляцца — жаніся ды жаніся, я хутка памру, а ты адзін прападзеш, як муха. Эма была вельмі непадобная да Гэлі, непрыгожая, нягеглая, старалася ўдаваць зь сябе дзелавую, а ў твары, у вачах штосьці такое няшчаснае. Але пасьля шлюбу яна перамянілася. У сілу ўвайшла. Закруціла ўсё пасвойму: тры гады, што мы пражылі разам, былі трыма гадамі грошай. Грошы, грошы, грошы. Кожная капейчына на ўліку, кожная павінна прыносіць прыбытак, і ня дай Бог купіць, прыкладам, газету — бо гэта ж немаведама якая трата...

— А дзеці ў цябе ёсьць?

— Дзяцей яна не хацела, казала, што няма чаго пладзіць жабракоў. Карацей, я зьбег. І я вельмі Эме ўдзячны.

— Удзячны?

— Каб не яна, я ня стаў бы бадзягам. Многага тады не адбылося б. Прыкладам, я не дапамог бы табе вярнуць твае тысячы.

— Дык ты пакуль і не дапамог. Не кажы «гоп». Я наагул не ўяўляю, як гэта можна зрабіць.

— Я табе зараз нешта пакажу, толькі ты не палохайся і не крычы.

Зь нетраў заплечніка Фабіян, пакорпаўшыся, дастаў агромністы чорны пісталет.

— Ты не баісься цягаць з сабой зброю? — зьдзівілася я. — А міліцыя?

— А што міліцыя? Думаеш, яны кожнага стрэчнага-папярэчнага грабуць? Атнюць, як кажуць у Маскве. Дый наагул, гэта не пісталет, а муляж. А вось гэта не муляж.

Фабіян дастаў з заплечніка вялікую, шчыльна сплеценую з дроту скрынку, адкінуў накрыўку. Я закрычала і адскочыла. Тоўстая, з мэтар дваццаць даўжынёй зьмяюка, якую ён моцна ўхапіў ля галавы, зьвівалася кольцамі, сычэла і застрашальна расчыняла зубатую пашчу.

— Асьпідус аўрэльянус, рэкамэндую. Нават не драпежны. Усяедны.

— Але чалавечынай ты яго ня корміш? — спытала я, адшукаўшы голас.

Фабіян задаволена засьмяяўся.

Машына сьцішыла хаду і стала.

— Дзяўчынкі налева, хлопчыкі направа. Стаянка сем хвілінаў, — паведаміў кіроўца.

Фабіян пусьціў зьмяюку назад у клетку. Вечарэла. Наперадзе віднеліся дамы нейкага места. Спускаючыся ў кювет, я падумала: яшчэ ня позна ўцячы. Бог зь імі, з гэтымі тысячамі, усё адно я іх, мусіць, больш не пабачу. Корчыкамі, корчыкамі, і да гораду, а адтуль — дадому. Але ж не, не ўцяку. Проста цікава. Што будзе далей, што яшчэ знойдзецца ў заплечніку Фабіяна, адкуль ён ужо дастаў ружу, хлеб і зьмяю?..

* * *

У рукзаку знайшлася мапа Масквы, а на ёй — патрэбная нам вуліца. «Эмір-Прэс» месьціўся ў шыкоўным будынку з мармуровай падлогай і фантанам у холе. Ліфт (зь люстрам і пазалотай) падняў нас на сямнаццаты паверх. Вось, праз калідор, засланы дыванам, — дзьверы дырэктарскага кабінэту. Не чакаючы ані сэкунды, Фабіян тарганўў іх, і мы апынуліся ў прыёмнай.

— У вас прызначаная сустрэча? — сакратарка падняла бровы. — Хто вы?

— Аўтары. Зь Цюменскай вобласці. Хочам прапанаваць рукапіс.

— З рукапісамі — да галоўнага рэдактара.

— Мы ўсё ж хацелі б пагаварыць перш з дырэктарам.

— Пачакайце хвіліну, — дзяўчына зьнікла ў дырэктарскім кабінэце, а праз колькі часу выйшла.

— Праходзьце.

Фабіян прайшоў першым. Спачатку ён дастаў пісталет, пасьля асьпіда, які актыўна выступаў з сольным нумарам. Зьбялелы Іван Іванавіч задраў ўверх ня толькі рукі, але чамусьці й ногі.

— Калі ласка, грошы, якія вы вінныя гэтай даме. Ці мне пакласьці зьмяю вам на калені?

Асьпід пагрозьліва стукнуў хвастом аб бюро і засычэў з асаблівай злосьцю.

Не апускаючы ног, Іван Іванавіч крутануўся да адчыненага сэйфу, выняў стуль пачак грошай і паклаў на стол. Я адлічыла, што трэба, рэшту пакінула. Моцным скотчам прымацавала Івана да крэсла і заляпіла яму рот.

Праз дзесяць хвілінаў мы былі ўжо далёка.

Мяне перапаўняла радасьць. Такое шчасьце, такое поўнае адчуваньне цуду жыцьця бывала са мной толькі ў першыя гадзіны пасьля нараджэння дзяцей. Гучала музыка, шумеў высокі лес, сьпявала душа. Каб не Фабіян, які моцна трымаў мяне за руку, я ляцела б.

Значыцца, ёсьць на сьвеце справядлівасьць! Лёгкасьць, зь якой мы забралі грошы, яскрава сведчыла пра гэта. Я зьзяла.

Фабіяну трэ было адысцi, і ён пакінуў мяне, трыюмфатарку, на рагу дзьвюх вуліцаў, наказаўшы стаяць як стаяла і не сыходзіць зь месца. Я і стаяла. Побач працаваў абменьнік. Я дастала гаманец, каб памяняць дзясятку на гасцінцы дзецям. Тут жа справа бліснула лязо, а ў наступны момант я адчула вастрыё пад рабрынай.

— Аддай гаманец, — ціха сказаў адзін з каўкаскім акцэнтам. — Аддай, а то зарэжу.

Я тарганулася ад болю і адчула, як пад блюзкай па целу цурчыць кроў. І зарэжуць жа, і не пашкадуюць, гэта ж Масква! І я спалохалася. То ў Бога сьмерці прасіла, а тут спалохалася бандытаў. Толькі я аддала ім гаманец, яны зьніклі. Расчыніліся ў бясконцым маскоўскім натоўпе. Нічога не зьмянілася: шумелі машыны, адчыняліся і зачыняліся дзьверы супэрмаркету — толькі ў мяне ўжо не было грошай. Сьлёзы падалі на брудны маскоўскі асфальт, як боб у каструлю.

— Што з табой? Што здарылася? — трос мяне за плечы Фабіян.

— У мяне забралі грошы!

І я адняла ад боку чырвоную ад крыві далонь.

Памаўчаўшы, Фабіян сказаў:

— Прыкрый пляму торбачкай. Едзьма на вакзал. На цягнік, я буду бабай, ты — унучкай.

— А грошы? Можа, у міліцыю? Можа, дагнаць іх?

— Забудзь пра іх, іх ужо і сьлед прапаў. Паехалі, — адрэзаў Фабіян.

* * *

У вагоне я ўзьлезла на верхнюю паліцу і адвярнулася да сьцяны. Сёньняшняя катастрофа ня выклікала ў мяне такой рэакцыі, як учарашняя. Прынамсі, прытомнасці я ня страціла. Прывыкаю?

На Фабіяна ўсё, што адбылося, здаецца, наагул не зрабіла вялікага ўражаньня. Ён тачыў лясы з папутнымі крутымі маладзёнамі, што ехалі ў Вільню. Пляшкі паступова перамяшчаліся са століка на падлогу. Маё здранцьвеньне плыло сярод ляскату, грукату, успышак сьвятла, брыдкаслоўя Фабіянавых суразмоўцаў. Пэўна, так выглядае пекла. Гутаркі, што даносіліся да мяне зьнізу, рабіліся чым далей, тым агіднейшымі. Нарэшце я заснула.

Фабіян штурхаў мяне і шаптаў: «Уставай, хадзем хутчэй». Цягнік стаяў. За вокнамі ледзьве-ледзьве шарэла. Мы выйшлі на пусты пэрон. Помнік падпольшчыку Заслонаву. Ворша. Я нічога не разумела.

Фабіян цягнуў мяне ўпрочкі ад вакзалу. Поезд адышоў, грукат ягоных колаў сьціх. Фабіян дастаў з-за пазухі пачак зялёных і працягнуў мне:

— Трымай.

Я разгублена глядзела на яго.

— Бяры. Мне яны непатрэбныя, а гэныя сабе яшчэ накрадуць.

У Воршы мы з Фабіянам разьвіталіся: я паехала дамоў, а ён застаўся бадзяцца па сьвеце.

* * *

За акном аўтобуса праплывалі жнівеньскія краявіды: гарбатыя хаты і багатыя катэджы, пушчы і бары, коні ў вазах і вэлясыпэдысты ў гумовых ботах, босая дзяўчынка зь дзіцячым вазком, буслы ў канаве... Простыя малюнкі жыцьця.

Чаму ж мне так цяжка на іх глядзець, чаму няма ў іх спакою, а толькі панылае чаканьне?

Раптам я пачула адказ: бо гэтая зямля неблаславёная.

Нічога не атрымаецца ні ў тых, хто жыве ў гарбатых хатах, ні ў тых, хто ў катэджах, ані ў дзяўчынкі не атрымаецца, ані ў малечы. Бо мы жывем на неблаславёнай зямлі.

...Вычарпаная, прачнулася я на наступную раніцу. Пуста на душы, пуста ў доме, муж пачаў прапіваць ня толькі хатнія рэчы, але й прадукты. Нікога ў хаце, цішыня, халодна.

Я села за стол, дастала з торбы і расклала на дзесяць частак неблаславёныя грошы. Потым сабрала і схавала, дзе знала. Гэта было маё першае рацыянальнае дзеяньне ў новым жыцьці. Потым пайшла ў краму.

...Ён чакаў мяне ў двары на лавачцы, абапіраючыся на свой вялікі заплечнік. Гледзячы, як ён уздымаецца мне насустрач, я думала: а мо мне толькі падалося, што зямля неблаславёная? Можа, насамрэч, трэба толькі пашукаць, і знойдзецца на ёй блаславёнае месца і для мяне, і для Фабіяна, і для маіх дзяцей, і для босай дзяўчынкі, і для вэлясыпэдыстаў у гумовых ботах?

Ягоныя дужыя худыя рукі моцна абдымалі мяне. Залацісты асьпідус грацыёзна зьвярнуўся васьмёркамі на тоўстай галіне яблыні й мірна паглядаў на нас адтуль.

*Жнівень 2001, Заказанка*

## Босьнія і Герцагавіна, або Эўропа вялікіх фараонаў

«Вядома, я тлустая. Якой яшчэ маю быць, нарадзіўшы пяцёра дзяцей? Ясна, ня Твігі! І няма чаго мне пра гэта лішні раз нагадваць, — раздражнёна думала я, чапляючы на нос сонечныя акуляры і адгортваючы старонкі. — Яшчэ прапанаваў бы на дыету сесьці! Не прапануе, ведае, што ня сяду».

Раптоўна, як і завялася, я супакоілася. Пятнаццаць гадоў разам! Гэта супакойвае, нават калі муж раніцай скажа, што ў цябе тлустая сьпіна. Зараз мужава галава (ня тлустая) віднелася недзе ля далягляду, амаль там, дзе зьліваліся Адрыятычнае мора і неба. Пяцёра дзяцей зь віскатам гулялі ў бэрыка — марскога, наколькі я разумела. А я чытала.

«У цары Эгіпту, — звычка перакладала я французскія словы, адразу выстройваючы іх паводле правілаў беларускай мовы, — боская і чалавечая сутнасьці зьліліся ў непаўторную асабістасьць, у вобраз цывілізацыі, якая праіснавала некалькі тысячагодзьдзяў. Давайце ж выправімся ў вандроўку і адкрыем іх сьвет. Давайце ўшануем памяць фараонаў Эгіпту і адкрыем для сябе адну з найвялікшых старажытных цывілізацыяў, якая паўстане перад нашым зачараваным позіркам».

Я зьняла акуляры і пацерла пераносьсе. Нешта перашкаджала засяродзіцца. Няўжо гэтая недарэчная, але абсалютна не зламысная заўвага мужа?

Мы ведалі адно аднаго са школы. Аднойчы ў трэцяй клясе я спісала ў яго раўнаньне на кантрольнай — мабыць, з гэтага моманту трэба адлічваць пачатак нашага сяброўства. Сяброўства дзіўнага, якое з плянэтарыю ў парку Горкага і коўзанкі ля магазыну «Электроніка», гэтых неабходных атрыбутаў менскага маленства, плаўна перацякло ў бесталковае юнацтва, што разьвяло нас у розныя бакі, каб потым зноў зьвесці ў час, цяжкі для абаіх. Пажаніліся мы, супраць волі яго і маіх бацькоў, калі я чакала дзіця — і не ад яго. Ён жа на тую пару меў непрыемнасці — настолькі ж натуральныя для маладога мужчыны, як цяжарнасьць натуральная для маладой жанчыны. Мая фраза гучыць таямніча і двухсэнсоўна, а ўсё было вельмі проста: яго даставаў КДБ. Каго ў тыя часы не даставаў КДБ! Сукурсьнік Зьмітра, хлопец, які яго залажыў, якраз і быў бацькам майго маючага нарадзіцца дзіцяці.

У нас са Зьмітром не было прыціркі. Абцерліся мы адно аб аднаго раней, за сем гадоў вучобы ў школе. З таго моманту, калі сталі жыць разам, скончылася бесталковае юнацтва.

Пад гарачую руку я, бывала, папракала Зьмітра рознымі ўяўнымі і рэальнымі яго грахамі. Ён ніколі ня тыцнуў мне маім першынцам і тым, што было да шлюбу. З таго самага часу, калі на сьвет зьявілася Югася, ён ставіўся да яе так пяшчотна, як толькі можа бацька ставіцца да вельмі любімага дзіцяці.

Да трэцяга дзіцяці я працавала. Адмыслова наймала няньку, а сама пісала бухгальтарскія праграмы на замовы розных фірмаў. Круцілася, як трэска ў палонцы. І прыкладна з тым самым вынікам. Аднойчы ў адной паўлегальнай фірмачцы мне заказалі распрацоўку поўнага пакету праграмнага забесьпячэньня — вельмі тэрмінова і вельмі дорага. Калі я прынесла сваю працу, усталявала і навучыла пэрсанал карыстацца, дырэктар, ясна гледзячы мне ў вочы, сказаў, што сітуацыя памянялася і ён ня можа заплаціць мне так, як мы дамаўляліся. А можа — у дзесяць разоў меней.

Дома, адчыніўшы дзьверы, я пабачыла: нянька на кухні палудные разам са сваёй дачкой, якая прыходзіла з маткай з нагоды канікулаў, а мае падшыванцы, самі сабою, займаліся ў сваім пакоі і выбеглі мне насустрач, перапэцканыя шмінкай.

Плюнуўшы і расцёршы, я выгнала няньку разам зь яе дачкой, выкінула ў сметнік звараны ёю палудзень, выпіла кавы, зьела хлеба з маслам і адмыла дзяцей ад касмэтыкі. Заплаціла аднаму хлапцу з той фірмачкі, каб ён запароў усё, што я настварала, у гаманцы засталося тры зубры, два зайцы і вавёрка, а таксама прасцірадлы рознакаляровых візытовак...

Маё рашэньне пакінуць працу было для Зьмітра штуршком, стрэлам стартавага пісталета, дазволам на выезд. Ён пакінуў завод і заняўся продажам вазонаў. Аказалася, з продажу хатніх кветак у Беларусі можна жыць.

Даволі хутка мы купілі дом у сельгаспасёлку, і тут, у нетрах старога Менску, сярод вішнёвых садоў, сабак, шынамантажоў і бэнзакалёнак, лазьняў, вербаў, катэджаў, што выдаюць на баптысцкія малельныя дамы, каля рэзыдэнцыі індыйскага пасла, уніяцкай парафіі сьвятога Язэпа і гуртовага базару сланечнікавых семак, так хутка, як гэта дазволіла прырода, зьявіліся на сьвет яшчэ двое нашых дзяцей.

Чым было маё жыцьцё ў гэтым віры?

Не квактаннем над седалам, гэта напэўна. Калі аднойчы, накрываючы на стол, паўжартам я сказала: «Ды я ж ідэальная жанчына, у якой вячэра заўсёды гатовая а палове на сёмую!» — Зьміцер адазваўся цалкам сур'ёзна: «Няма жанчыны, больш далёкай ад ідэалу, чым ты!» Я думаю, ён, як заўжды, меў рацыю.

Не чарадой аднастайных хатніх справаў.

Не піцьцём бясконцай гарбаты за бясконцымі плёткамі зь бясконцымі сяброўкамі — у мяне проста няма сяброўак.

Тады чым?

Які таямнічы сэнс асьвячае ўсё гэта: бруднае месіва на лістападаўскіх вуліцах, «Ікарусы» з партрэтамі Пугачовай у салёнах, задачкі за першую-другую-трэцюю клясы, банальную кулінарыю на Крапоткіна, цыгарэту штовечар, якую з выхаваўчых меркаваньняў я дазваляю сабе толькі тады, калі ўся мая пяцёрка моцна сьпіць? Што я кладу дзецям у ранцы разам з канапкамі для перакусу, наліваю ў кубкі разам з ранішняй какаваю, запускаю ў сэрца машыны разам з запальнай сумессю, у той час, калі фары сьвецяць праз ноч, а дзень настае толькі намінальна?

Які няўлоўны дух, які Бог хаваецца сярод натоўпаў тлустых жанчынаў, у кіёсках «Белсаюздруку», у прасмярдзелых залях аэробікі, у пыле над сцэнай Купалаўскага? Яму ахвяра — кантэйнэры рытуальных яек на паліцах крамаў пад Новы год. Але мне, жанчыне з тлустай сьпінай, ён ня дасьць сябе пабачыць, аж пакуль не зацягнуся тлушчам з усіх бакоў.

— Мама!

Я падняла вочы і адрухова зажмурылася — Тараска, гуляючы, сыпануў мне жменю пяску ў вочы. Як ні старалася, я не магла іх расплюшчыць. Да таго часу, як падбег выкліканы з мора тата, я ўжо плакала крывавымі (літаральна) сьлязьмі, а двое малодшых, нягледзячы на мае ўгаворы, вылі.

Муж адвёз мяне ў акруговую вольніцу, дзе з-пад павек дасталі некалькі малюпасенькіх асколачкаў шкла, што аказаліся сярод пясчынак. Доктар настояў, каб я хоць бы на суткі засталася ў больніцы. Я ня вельмі і працівілася. За дзяцей я не хвалявалася: у гатэлі будзе добры догляд.

На вочы мне налажылі павязкі-куліскі. Неўзабаве ў маю палату прывезьлі яшчэ нейкую жанчыну. Мэдсястра сказала, што гэта пажылая пані, якой выдалілі катаракту, і што яна пэўны час прабудзе разам са мной.

Калі ў вас ёсьць грошы, дык апэрацыя на катаракту ў харвацкай вольніцы адбываецца так, што праз гадзіну вы можаце ісьці дадому. Калі з грашыма горай, вам давядзецца нейкі час правесці ў больніцы. Але і ў гэтым выпадку ня трэба ляжаць суткі нерухома, як гэта патрабуецца ў нас.

Лежачы ў сваіх павязках, як у шорах, я чула, як мая суседка варушыцца, уздыхае, нарэшце пытаецца:

— А хто тут?

Ня ведаючы, што адказаць, я маўчала.

— А хто тут, халера ясная?

Я засьмяялася і падняла адну куліску, каб пабачыць сваю суседку.

І яна спрабавала разгледзець мяне старэчым выцьвілым вокам. Была яна вельмі ў гадах, худая, чыстая, смуглявая , як усе тут, у бальнічным сінім халаце.

— Вам нельга падымаць павязку! — запратэставала я. — Вы ж толькі па аперацыі!

— Гэта ня тое вока, здаровае, — адказала яна. — Ты з чужога краю?

— Але.

Старая, апусціўшы павязку на вока, абмацвала коўдру вакол сябе, парэнчы, тумбачку, сцяну. Намацаўшы радыё, уключыла яго:

О, Мариана!
Сладко спишь ты, Мариана!
Мне жаль будить тебя,
Я стану ждать...

Салодкія словы расейскай песні, салодкі голас з дынаміку. Мабыць, прывыкла, каб радыё было заўсёды ўключанае.

— Гэтую песню спявалі жаўнеры, калі стаялі ў нас у вёсцы па вайне, — сказала старая. — Антэ прадаваў ім авечкі.

— Па якой вайне? — перапытала я.

— Па тамтой, зь немцамі, — адказала старая. — У жаўнераў можна было браць лупіны — прыходзь, абірай бульбу ў такія вялікія чыгуны, а лушпайкі можаш забіраць сабе. Пакуль дзеці ў мяне дзяржава не забрала ў інтэрнат, я іх тымі лупінамі і карміла. Добра, што іх забралі, — там і апраналі, і вучылі. Так і выгадаваліся яны не каля мяне.

Сашко, апошні, рос ужо са мной. Ён нарадзіўся позна, старэйшыя былі ўжо па школе, я думала, у мяне скончылася на сарочцы, але ж на табе, маеш — пуза расце! Кінулася да дактароў — рабеце аборт, а яны кажуць — позна, дзіцё ўжо вялікае. Чаго я ні рабіла: і з вышыні скакала, аж сэрца заходзілася, і цяжкое варочала, і падпярэзваліся моцна — анічога не дапамагло. От і нарадзіла. Хаты тады не было, мы ў аўчарні жылі. Сашко вельмі прыгожанькі быў. Як там мая братавая казала? «Правільныя рысы твару, правільныя рысы твару!»

— Чаму ж вы жылі ў аўчарні?

— А раскідалі нашу хату. Мяжу тады цягнулі. Сказалі, ня можна, каб на мяжы жыць, вось і расцягнулі. Мы тады ня тут жылі, а на поўначы, далёка, у гарах каля возера Бледна. Мая зямля, мой пасаг, засталася ў Герцагавіне, а аўчарня аказалася ў Харватыі. Праўда, за

зямлю нам трошкі сплацілі. Дык за тыя грошы потым мала што не забілі!

Доктар, спрактыкаваны да аўтаматызму, рухаючыся настолькі ж хутка, наколькі бясшумна, зьявіўся ў палаце, каб закапаць мне вочы і зьняць павязкі, а старой зрабіць ін'екцыю пад павека, і прапаў. Старая нават не зразумела, што адбылося, толькі твар яе раптам стаў разгубленым, і яна, перарваўшыся на паўслове, спыталася:

— А што гэта было?

— Гэта доктар прыходзіў, зрабіў вам... — я не магла ўспомніць, як будзе па-харвацку гэтае слова, і сказала па-польску — zastrzyk.

— Укол? — здагадалася старая. — Не, ня цяжкая агораныя, магу ўсім казаць, каб толькі Бог даў дапамагло.

Яна памаўчала, але ўзбуджанасьць з-за нязвыклых абставін ды ад прыроды энэргічная натура патрабавалі калі ня дзеяння, дык хоць словаў. Старая відавочна была з тых, хто гаворыць тады, калі хоча, і пра тое, аб чым думае.

— Я, мілая пані, у жыцьці не ляжала ў больніцах, гэта ўперша. І дзеці нарадзіла бяз больніц... Па Сашку месца доўга не выходзіла, Антэ выклікаў доктара. Той зрабіў мне нейкі ўкол, сеў у куточку і паглядае — то на руку на гадзіннік, то на мяне, а то на авечкі.

Такая калатнеча тады была! Раз узімку трэ было ехаць па дровы празь мяжу, у Босьнію, бо там быў лес. Сашку, мусіць, тады гады з тры было. Пасадзіла яго на запечак, каб цяплей, — а мы ў аўчарні печачку зладзілі. Дала гароху ды дзьве скрыначкі, каб перасыпаў, і паехалі. А мароз! Еду, а як шпары зойдуць у пазногці — саскочу з санкаў ды бягу, каб сагрэцца. А душа не на месцы — як там малы ўдома сам, ці ня ўлез куды, ці не замерз — бо зімой шэрань са сьценаў ня сходзіла. А Антэ і зьлезці ня мог — толькі пакіхікваў ды горбіўся на санках. Астма ў яго была, усё жыцьцё хварэў, праз тое і да Ціта яго не забралі...

— А чаму вы па дровы езьдзілі зімой? Чаму ня летам?

— Дык за ракою лес быў, летам броду не было. Зімой, як лёд стане, то ўжо і па дровы ўсе едуць. А лес нельга высякаць. Дык скрадаешся і аглядаешся, каб лясьнік дзе ня выйшаў, пянькі сьвежыя сьнегам прысыпаеш, каб не сьвяцілі.

І вось той раз я ўвалілася ў палонку. Бягу, за аглоблю ўхапіўшыся, ды плачу, бо холадна. Ажно выскокваюць з-за купы на дарогу гранічары. Я думала, яны будуць нас ганіць, што празь мяжу едзем, а яны адразу да Антэ сiганулiся шукаць грошы — знаўлі, што нам сплацілі за зямлю, думалі, што грошы з сабой возім, бо ў аўчарні схаваць

няма дзе. Адзін кажа: давай грошы, а то зараз застрэлю, скажу, што ўцякаў.

А я стаю і думаю: хай бы, і праўда, яго застрэлілі, яму ўсе адно не жыццё зь яго экзэмаю ды астмаю, і мне ад яго ніякай дапамогі. Толькі кармі, а працаваць ня можа. Я і дровы рубаю, і за плугам сама хаджу. Антэ ж сваё цьвердзіць: няма грошай, аддалі за пазыкі. А той гранічар кажа: ну, дык маліся, Антэ, бо зараз табе канец будзе — і стрэльбу падводзіць.

Але, мусіць, Бог яго стрымаў. Апусціў ён стрэльбу, рукой толькі махнуў. А другі ўжо каня выпрагае — такі закон быў, што калі празь мяжу канём едзеш ды зловяць, дык каня забіраюць.

Я як бухну на калені і ў лямант: прашу, малю на прамілы Бог, каб толькі каня пакінулі. Бо як без каня?! Вясна прыйдзе — як безь яго?! Як дровы без каня дацягнуць? А тапіць жа няма чым, замерзьнем, дзіця замерзьне!

Але хіба іх умоліш? Той, што стрэльбай палохаў, кажа: бачыш, Антэ, якая ў цябе баба, за цябе не прасіла, а за каня просіць. І пайшлі сабе, і каня нашага павялі.

А ў Антэ з таго ўсяго прыступ стаў. Паваліўся ён, бедны, на дровы і ротам дух ловіць, аж ссінеў. Што рабіць? Узялася я за аглоблі, дый пацягнула і сані, і дровы, і Антэ. Добра, што трошкі з гары было. Цягну воз, а адзеньне на мне зьвініць, спадніца па нагах б'е — усё чыста лёдам пакрылася.

Дабраліся дадому — я перш-наперш да акенца, паглядзець, ці хоць з Сашком усё добра. Бачу, сядзіць на запечку, іграецца. Апусцілася я на прызбу, адчуваю, ня ўстану. Але ж трэба — Антэ ўсярэдзіну завесьці, затапіць, пераапрануцца.

Цягну Антэ, толькі дзьверы прычыніла, а Сашко з радасці да мяне як кінецца:

— Мацінка, мацінка!

Які нячысты дух мяне пад руку вадзіў! Пхнула я яго ад сябе, каб пад нагамі не матаўся, не перашкаджаў бацьку весьці. Ён упаў ды, мусіць, пашкодзіў сабе што. З таго дня ў яго стаў расьці горбік.

...Паслухай, ты можаш завіць мне хустку, во тут яна, пад падушкаю?

Я знайшла лёгкую жоўценькую хусьціну і завіла старую, завязаўшы канцы пад падбародзьдзем. Сьляпая, у павязках на вачах, яна ляжала на сьпіне, выцягнуўшы ўздоўж цела худыя рукі зь вялікімі далонямі.

Увайшла санітарка, пажылая і спакойная, і спыталася ў старой, ці не патрэбная пані вутка.

— Давай!

Трошкі пасьля санітарка прынесла старой вячэру. Старая ела з апэтытам, якога я ад яе не чакала, а кавалак хлеба працягнула санітарцы:

— Рэшту аднясі назад, мо каму не хапіла, дык дасі.

Адразу пасьля вячэры, перахрысціўшыся і памаліўшыся, старая заснула.

Хутка, як заўжды на поўдні, сьцямнела. Я глядзела ў вакно сьвежапралечанымі вачыма. Унізе, пад гарой, блішчэла пад месяцам мора — чорная прорва, поўная рыбаў і пачвар. Блішчэла і гара: шматлікія агеньчыкі ліхтароў і вокан, цуг аўтамабільных фараў на дарозе. «О, Мариана, — круцілася ў галаве. — Сладко спишь ты, Мариана! Мне жаль будить тебя, я стану ждать...»

*1997*

## Шкельцы, шкельцы...

Мая жонка звар'яцела. Гучыць, як назва калодыі, праўда? Але не да сьмеху мне было, калі гэта здарылася.

У адказ на пытаньне доктаркі: «Ну, бачыце, каго нарадзілі, мамаша?» — Яня прамармытала нешта кшталту «шкельцы, шкельцы...», выцягнулася і аціхла.

Прыгаломшаны, я сядзеў у паўцёмным калідоры й марна ўглядаўся ў напаўпразрыстыя дзьверы радзалі, ня ведаючы, радавацца мне ці баяцца, мацаючы ў кішэні скрыначку са смарагдавымі завушніцамі, якія, насуперак звычаю, купіў да родаў, каб падараваць жонцы адразу, як яна падорыць мне сына. І раптам мяне працяў востры страх — я сурочыў.

Неўзабаве выйшла доктарка і выразна, з дакладнымі доктарскімі інтанацыямі, патлумачыла, што роды прайшлі без складанасьцяў, хлопчык нарадзіўся абсалютна здаровы, ягоны стан, як і фізычны стан парадзіхі, у норме. Адно што мая жонка згубіла прытомнасьць і вярнуць яе да змыслаў пакуль не ўдалося. Такое часам здараецца. Хвалявацца ня трэба, жонку перавядуць у пасьляродавую палату, дзе да яе будзе прыстаўлены пост, а я змагу даведацца пра яе стан па тэлефоне. Заўтра можна дзела. Пад расшпіленай казённай кашуляй у Яні праглядаліся бінты.

— Малако прыбыло, — патлумачыла доктарка ў адказ на мой запытальны позірк. — Пачаўся мастыт, давялося ўскрыць гнайнік. Мы зрабілі тугую перавязку, каб спыніць лактацыю.

— Хто вырашае пытаньне аб выпісцы?

— Загадчык аддзялення, але вашу жонку нельга выпісваць. Ня можа быць і мовы.

На працягу ўсёй маёй тырады загадчык аддзялення не ўзьнімаў вачэй ад стала. Гранічна адсутны чалавек, якому гранічна надакучыла кожны дзень чуць і гаварыць адно і тое. Ён толькі адмоўна пахітаў галавой. Яшчэ хвіліна — і, каб зьвярнуць на сябе ўвагу, я шпульну яму ў галаву... ну, хоць бы гэты стос тэчак.

Загадчык аддзялення ўважліва паглядзеў на тэчкі.

— Вы не разумееце, што вас чакае. Вашай жонцы патрэбна лячэньне і прафэсійны догляд.

— Палатная доктарка сказала, што верагоднасць адужаньня мізэрная. Дык пра якое лекаванне вы гаворыце?

— Яна вар'ятка. Яе трэба паўстрымваць.

— Выпісвайце!

Яню выпісалі па загадзе галоўнага доктара клінікі. Яе везьлі на шпітальнай машыне, я ехаў спераду, паказваючы дарогу, і размаўляў праз мабільнік зь Лідай. Ліда ня выказала ніякіх эмоцыяў, толькі сказала, каб я не хваляваўся. Яна, Ліда, усё зробіць.

Калі Яню на насілках уносілі ў пад'езд, з таксоўкі выйшла сядзелка. Дома яна перш-наперш памыла рукі ды пераапранулася, а потым, адхіліўшы мае прапановы дапамагчы, узялася парадкаваць Яню.

Ліда знайшла сапраўдную прафесіяналку. Пра гэта сведчылі і габарыты, і каменны выраз твару. Сядзелка зьняла перавязку зь Яніных цыцак. Адна зь іх, вялікая, зь сінімі жылкамі, пырскала малаком, а другую, невялічкую, наўскасяк перакрэслівала агіднае шво. Хутка і зграбна сядзелка абмыла й пераапранула Яню. А калі тая раптам з крыкам ускінулася з ложка, брывом не варухнуўшы перахапіла яе і трымала, пакуль тая не зваліласе бязь сілаў. Потым жанчына прывязала Яню да ложку рамянямі, якія прынесла з сабой.

Цяпер трэ было бестэрмінова адпрасіцца з працы і забраць дадому хлопчыка.

Я быў настроены пры патрэбе наагул звольніцца, але ніяк не чакаў, што шэф — гэты скнара, які за рубель шашу носам прапора, а справай гонару лічыць хоць на даляр абдурыць кожнага кліента, — выйдзе з-за стала і працягне мне кагорту:

— Займайся, колькі будзе трэба. Дапамогу ў памеры месячнага заробку будзеш мець штомесяц. Трымайся, і віншую з сынам!

— Чаму вы не купілі дзіцячай сумесі? — спыталася сядзелка, калі я прынёс дадому скрутак пялюшак і коўдрачак, у якім паварушваўся хлопчык.

— Бо яго будзе карміць мама.

— Вашай жонцы прызначаныя лекі. Яны пашкодзяць маленькаму.

— Мы ня будзем даваць ёй лекаў. Яня будзе карміць сына, пакуль будзе малако.

— Вы самі вар'ят, — сказала мне сядзелка. — Кармленьне цыцкай супрацьпаказанае пры псіхічным захворванні. Вы мусіце зважаць на правілы.

— Я вас наймаў не для таго, каб вы крытыкавалі мае паводзіны.

Яна памаўчала.

— Мяне завуць пані Алімпія. Зараз я сцаджу малако вашай жонкі — пасьля лекаў гэта неабходна. Пакуль хлопчык сьпіць, паежце. Я згатавала амлет.

Пані Алімпія зьнікла.

Я сеў каля дзіцячага ложачка, узіраючыся ў маленькі тварык. Мой хлопчык, мае чатыры кілі вагі, ты пачынаеш сваё праўдзівае існаваньне, перавярнуўшы маё жыццё, а я нават ня ведаю, якія эпітэты прыдатныя, каб яго акрэсьліць. Я ня ведаю, як дапамагчы тваёй маме, і навобмацак, у цемры іду там, дзе можна насьмерць забіцца і пры поўным сьвятле. Але я іду, і ты, маленькі, дапаможаш мне... Бомкнуў званок. Вярнулася са школы Паўлінка.

* * *

Паступова жыццё ўвайшло ў каляіну. Пані Алімпія пераехала да нас. Я навучыўся спавіваць малога і выціскаць сок зь яблыка. А мая дзевяцігадовая Паўлінка зьдзіўляе мяне ўсё больш і больш: такой пяшчоты, такой сапраўднай любові да Даніка я ад яе і не чакаў. Яна лёгка супакойвае малога, калі ў мяне нічога не выходзіць. Прыемна глядзець, як Данік пасьміхаецца, махае ручкамі-ножкамі і ўсімі сіламі выказвае задавальненне, калі Паўлінка падыходзіць да ягонага ложачка. Да маці Паўлінка не падыходзіць, ніколі пра яе не гаворыць, нават не набліжаецца да дзьвярэй пакою, дзе тая ляжыць, — абарончая рэакцыя на незразумелае, непераноснае для дзіцяці гора.

А Яня ў тым самым пер'і. Стабільна. Колькі разоў у яе былі гэтыя прыпадкі шаленства, калі яна некуды ірвецца, б'ецца, крычыць. Я з парога — пані Алімпія катэгарычна не падпускае мяне ў такія часы да жонкі — услухоўваюся ў яе трызьненьне, марна імкнуся адшукаць у ім сэнс. Рэшту часу яна абыякава, адстаронена, моўчкі сядзіць або ляжыць, і погляд яе скіраваны ў нікуды, а часам — быццам усярэдзіну, у сябе. У такія хвіліны я пачынаю спадзявацца, што яна ўсё ж адужае. Але такія моманты нячастыя.

* * *

А яшчэ я не магу есьці тое, што тут ядуць. Мы зь Віцькам, як былі малыя, чапляліся да бабулі: «Бабо, мы есьці хочам!» Яна, бывала, занятая, стомленая, са злосьці кідала.: «Насяру вам у горла!» Дык і гэта было б смачней за тое, чым тут жывяцца і за што аддаюць грошы.

Яны тут мыюцца па тры разы па дзень ды пудраць дупы, а самі з бруду не вылазяць. Купкі сабачага ды чалавечага гаўна скрозь — такая сталіца. Плююць і ў модных ботах ходзяць па напляваным. Труны павапненыя. Як і гэтая Ліда.

Нядаўна я прысьніла бабулю. На зіхоткім вечаровым полі яна падышла да мяне і, пакланіўшыся, бы нейкаму аграному, запытала, ці пара ўжо жаць жыта. І працягнула мне тры каласкі. Нічога страшнага

не было ў гэтым сьне, наадварот, твар бабулі быў такі чысты і лагодны, якім ніколі не бываў пры жыцьці, але сэрца маё закалацілася ад страху.

Калі б бабуля зь дзедам усталі, яны не пазналі б гэтага сьвету, бо нічога іхнага не засталося. Ня так гавораць, не такую ежу ядуць, надвор'е іншае, зямля адмянілася. Няма мяжы, дзе была мяжа; няма зімы, дзе была зіма. Няма хаты, няма царквы. Яны не зразумелі б, пра што гавораць, ніхто не зразумеў бы іх. Драты, машыны, людзі, якіх стала так многа, што немагчыма запамятаць іх імёны... Апошнія магікане — гэта яны. Мы — ужо чужынскага племені. Ня ведаем замоваў, насмяяліся з прымхаў, а цяпер яны будуць сьмяяцца з нас, перастрэўшы ноччу на брукаванцы, пад старой яблыняй, дзе быў хутар ля балота...

Але што я тут раблю? Не адкрываю рота, не кірую сабой. Позіркі, якімі мяне акідваюць, драпаюць мне скуру. Навошта мне гэта? Навошта я друзьвею тут, а час хуценька-хуценька плыве з пальцаў, калюжыны яго перасыхаюць, пакідаючы спарахнелы пыл... Час паскараецца, і я не пасьпяваю за ім, падаю. І толькі выпіўшы тры чаркі, перастаю заўважаць, як круціцца зямля, а разам зь ёю — будаўнічы кран у акне. Я перастаю чуць агідную мэлёдыю гораду, але я забылася і на ціхую мэлёдыю ісьляндзкага моху ды шчырага пяску, і хутка мяне пачынае ванітаваць...

Мой позірк затрымліваецца на негабляваных дошках плоту вакол новае будоўлі, на трэсачках і камячках бруду, і, пакуль тралейбус кружляе вакол плошчы, я адчуваю, як па чарзе адмаўляюцца слухацца сэрца, ныркі, вантробы, паддышша, лёгкія, цяглiцы, ставы... Урэшце пачынае бунтавацца дзіця, варушыцца і варушыцца ў бруху, я чую ягоныя стогны — стогны істоты, якая ня можа выпрастацца, якую я нараджу невядома для чаго, невядома для каго... Апошняй мяне пакідае душа, і перш чым адысьці, яна жаліцца: «А гэтая Ліда? Яна так многа гаворыць, а я нават не магу адкрыць рота, бо не хачу, каб зь мяне смяяліся. А я ж намнога прыгажэйшая за яе!..»

* * *

Гуляючы з Дашкам або падперазаўшыся хвартушком у кухні, ля піяніна з Паўлінкай або за кавай з пані Алімпіяй, я ўвесь час думаў пра Яню. Толькі цяпер, калі яе і чалавекам можна было назваць даволі ўмоўна, я зразумеў, што яна для мяне значыць. Праз нашу кватэру прайшлі тлумы псыхатэрапэўтаў, іглакалольнікаў, гамэапатаў, прафэсараў і дацэнтаў. Часта, калі ніхто ня бачыў, я падоўгу ўглядаўся ў абыякавы да непранікнівасьці Янін твар. Ці хавалася там, за ім, у

чырвонай цемры цела, незаўважная субстанцыя духу? Ці жыў ён таемна там, закуты хваробай, ці пакінуў яе? А калі жыў, што цяпер бачыла перад сабой мая жонка?

Ня ведаю, што мяне падштурхнула патэлефанаваць. Можа, тое, што ў паўсядзённасці прынята называць «лёсам» або «богам», а можа, што іншае. Так ці інакш, я набраў 8-гудок-01522253143, і Віцькаў басісты голас адказаў «Слухаю!», а назаўтра швагер званіў у нашыя дзьверы.

Час ня быў літасцівы і да Віцькі. Сам ён азызнуў, твар стаў шырокі, голас — глухі. Аднак, пачуўшы гэты голас, Яня павярнула на яго галаву, а такога не было ўжо многа месяцаў.

Цяпер я ведаю: калі розум вяртаецца да чалавека, гэта падобна да таго, як хмара спаўзае з сонца.

Віцька, заўважна хвалюючыся, зайшоў у пакой.

— Яня, глянь на мяне, — сказаў ён.

— Віцька.

І гэта было пачаткам выздараўленьня. Амаль адразу Яня папрасілася «дадому», у вёску, і квола ўсьміхнулася. Я не пасьпеў стрымаць Паўлінкі, якая зь енкам кінулася да маці і гучна заплакала. Упершыню за гэты час заплакала і Яня — а толькі што ж пасміхалася, таксама ўперша... Мы пераглянуліся з Алімпіяй, і ў выразе яе твару я пабачыў... Пабачыў тое, што можна было пабачыць. Пасьля доўгіх дзён і бясконцых гадзінаў шаленства, калі жылы на лобе хворай напіналіся ад напругі так, што здавалася — лопнуць, пасьля тупой зацятай маўчанкі Яня зноў вярталася да нас. І самае дзіўнае — як імкліва гэта адбывалася.

Мяне яна таксама пазнала.

«Гэта добра, так і трэба», — нібы замову, паўтарала пані Алімпія.

Я павёў Віцьку вячэраць.

— Ясна, — шаптаў мне Віцька ў кухні, — ясна, яе трэба адвезьці да нас! Хата вялікая, — Віцька расчырванеўся і раз-пораз абціраўся сіняй насоўкай, заўважна радуючыся, што яна ў яго ёсць, — хочаце — у нас жывіце, хочаце — у старых. Ясна, трэба ехаць, пра што мова! — ён ніяк ня мог вярнуцца да раўнавагі пасьля пабачанага і інстынктыўна намагаўся спрасьціць усё, каб дайсьці да ладу. — Вельмі проста! Пажывеце на свежым паветры, вясна ідзе, цёпла, сырадою пап'еце, карысна ж і ёй, і дзецям.

Я добра разумеў: насамрэч гэта ня вельмі проста і нават вельмі няпроста. Як мы перанясем гэтае дзікае жыцьцё з заўсёды бруднымі рукамі і празьмерным сонечным апраменьваньнем? Але быў пэўны,

што ехаць трэба. Чаму быў пэўны? Ну, як сказаць... Хутчэй за ўсё, таму, што кахаў жонку.

Позна ноччу, калі ўсе, акрамя бяссоннай Алімпіі, спалі, я выйшаў з дому. Ледзьве не сказаў «з хаты», але пакуль што гэта не адпавядала праўдзе жыцьця. Гэтая самая праўда жыцьця пагнала мяне праз горад да Ліды — я мусіў прасіць прабачэньня. На зваротным шляху прыпыніўся на мосьце і выйшаў з машыны. Пад чорнай вадой, якая адблісквала начнымі агнямі, ня бачна было тоўстага слою мулу на дне, але ён там быў. Туды, у мул, да невынішчальных сьвіслацкіх рыбаў, жабацiньня і найпрасцейшых, я кінуў спачатку адну, пасьля другую завушніцу са смарагдамі — шкельцы, тандэта, фэтыш, ня варты назвы. Туды ж паляцеў і футаральчык.

Я заводзіў машыну і пасьміхаўся, як дурань, уяўляючы сябе за стырном трактару.

Дома было ціха. Алімпія заснула, а Яня, выпрастаўшыся на ложку, ня спала — чакала мяне.

*1998*

## Баль

У яго была трохі сьмешная, нязграбная хада: здавалася, ногі ягоныя гнуцца, як дрот алюмініевы. Заграбаючы дзюбкамі парэпаных бальных пантофляў, ён прадэфіляваў праз залю. Лысаваты, гнуткі, з дробнымі рысамі твару, ён выглядаў амаль сьмешна — зрэшты, больш-менш смешны выгляд тыповы для клясных выканаўцаў бальнага танцу. А яны клясныя танцоры — ён і яго жонка. На гэтым дзіцячым навагоднім сьвяце яныігралі ролі прынца й прынцэсы. Яна чакала яго на другім канцы вялікай залі, і ён, заграбаючы парэпанымі бальнымі пантофлямі, прадэфіляваў да яе, і далоні яго звыкла адчулі яе руку і талію, і яны засьлізгалі па выцертым паркеце. Дынамікі вылі невыносна. Нізкія гукі чуліся на два тоны ніжэй, а высокія — выклікалі з чорных нетраў скавытанне і сьвіст. Пад падэшвамі прынца й прынцэсы курэў пыл.

Блізка сябе ён бачыў яе скуру з дробнымі порамі й валасы, ля каранёў цёмныя. Дзеці стаялі каля елкі шчыльна, і яму даводзілася раз-пораз павяртаць партнёрку, бо месца было мала. Зрэшты, яна й сама ўсё разумела, і нават цяжка было сказаць, хто каго вёў у гэтай пары, — яны адчувалі адно аднога ды згодна перабіралі нагамі. Чырвоная з бліскаўкамі сукенка кранала рукі, або станы, або ногі гледачоў першага раду. Гледачы-хлопчыкі былі апрануты ў сінія формавыя гарнітуры й сінія кашулі. Дзяўчаткі — ня ў форме, пастрыжаныя «пад сэсун» або «пад гарсон». Большыя нафарбаваныя, да незадавальнення настаўнікаў.

На сярэдзіне танцу грузчыкі Дому культуры вывезьлі ў залю кантэйнэры з падарункамі. Як толькі гэта адбылося, дзеці кінуліся туды, а настаўнікі за імі, каб арганізаваць чаргу. Танцоры спыніліся — танцаваць больш ня мела сэнсу. Першыя з дзяцей, атрымаўшы падарункі — папяровыя скрыначкі з ласункамі (конфеты «Пилот» — 45 г, конфеты «Яблоневый цвет» — 45 г, конфеты «Золотой ключик» — 90 г і такое іншае), — навыперадкі беглі да гардэробу.

Ён і яна пайшлі ў грымэрную.

На прыпынку яны моўчкі падзяліліся — ён меўся паехаць у кантору філярмоніі па грошы, ёй трэ было да доктара.

На Маскоўскай ён выйшаў. Неба было ярка-сінім, а дрэвы ў сквэры — у шэрані. Ён павярнуў на Савецкую. Над двухпавярховымі камяніцамі, будаванымі за часам санацыі, курэў дым. Раз у два гады, падчас рамонту, на іх праяўляліся, як плямы на сінебародаўскім ключы, надпісы:

GALANTERIA DAMSKA I MĘSKA,

LEW GINZBURG
ADWOCATURA
KAWA, HERBATA, CUKIER I INNE TOWARY KOLONIALNE

Надпісы замалёўвалі, і яны прападалі — на два гады. На рагу з Арджанікідзе ён зноў павярнуў.

Адстаяўшы невялікую чаргу, атрымаў грошы — 78 руб. 50 кап. Адсюль недалёка да дому.

Дачкі дома не было. Яна стрыгла валасы «пад сэсун», а зараз, пэўна, пайшла да сяброўкі. З нагоды атрымання грошай ён выпіў трохі гарэлкі і неўзабаве заснуў.

Яго жонка ў гэты час уваходзіла ў доктарскі кабінэт. З нагоды навагодніх сьвятаў у кансультацыі чэргаў не было. Яна й сама не пайшла б, каб ёй не балела. Боль трываў і трываў у левым баку, цягнуўся і ўжо адбіваўся шэрасьцю і прышчамі на скуры твару, і цёмнымі кольцамі ля вачэй, і раздражнёнасцю, і спалохам. Доктар націснула з аднаго боку, з другога, яна трохі тарганулася і скрывілася, і доктар перапытала:

— Тут баліт? — і зноў націснула.

Яна кіўнула.

Злазячы з крэсла, яна бачыла, як доктар сцягае з рукі і шпурляе ў вядро гумовую пальчатку.

Перш чым пайсьці з кансультацыі, яна зайшла ў туалет, каб выпаліць цыгарэту. Тут пахла мокрай анучкай і хлёркай, у адной з кабінак цурчэла вада. Рэзкі пах «Космасу» пасаваў да пахаў прыбіральні.

Дома было ціха. Муж спаў. Цікава, ці атрымаў ён ганарар? На вячэру можна паесьці салаты аліўе, што засталася з Новага году. Яна падышла да вакна. Падаюць святочныя сняжынкі. Пад вокнамі, па Леніна, адна за адной шумяць машыны. Яны раскоўзалі дарогу, і брукаванка схавалася пад ільдзяной скуркай. Іхны дом стаіць у прыгожым месцы: насупраць парк, а побач, на Міцкевіча, расьце пірамідальны дуб. Гэта славутасьць. Калі да іх прыяжджаюць госьці з Вялікіх Лукаў, муж вядзе іх да дуба, каб агледзелі крону. Прыводзяць сюды і дзяцей са школаў. Каб агледзелі крону. А госьці любяць прыяжджаць у горад над Бугам адно шкада, што гэты самы Буг можна пабачыць толькі з аднаго месца ў Брэсцкай крэпасці, ды й то здалёк — сорак мэтраў хуткай плыні і карчы на тым беразе. Але пра Брэст толькі так і гавораць — горад над Бугам. Заходнія вароты краіны. Ад Брэсту да Курылаў.

Яна прыслухоўвалася да боку. Здаецца, заціхае? Цішэе? Альбо не? Зручны дом. Дом-гастраном. Дом з гастраномам унізе.

Унізе шкандыбала старая, накіроўваючыся ў краму. На ёй чорны плюш, а на галаве завіта цёплая хустка.

Старая праехала дызэлем трыццаць кіламэтраў, каб купіць чаго на Каляду й Раздво. Сёньня з раніцы, калі яшчэ не разьвіднела добра, старая рашуча гукнула цёмнай постаці на суседзкім падвор'і («Манё!» — «Агоў!» — «Я до міста за сільодкою...» — «Ой, Гандзічко, і мені...»).

Добра бралася на мароз. Куры ня выйшлі з курніка, а котка, ходзячы за старой па ўтаптаным падвор'і, па чарзе падціскала лапы, грэючыся.

Старая была сама сабе задаволеная. У горад едзе. Перад сьвятамі. Шчэ сіла е. Было ёй гадоў якіх восемдзесят, як і суседцы Мані, зь якой у іх было негалоснае спаборніцтва. Старая ўдовавала гадоў з сорак і заўсёды казала, што лепш будзе кланяцца сваёй дуне, абы не чужой галаве. Так і рабіла. А Маня аўдавела толькі нядаўна і вельмі ўжо скардзілася на долю ды шукала, як лягчэй. «Ой, Гандзічко, і мені...»

З-за катарашкі на вочах (так яна казала) яна кепска разьбірала кошты на цэтліках. Яна купіла селядцоў — вялікую бляшанку на дзьвюх з Маняй і геркулесу. Хусцінку з грашыма ў брунатных, разьбітых работай пальцах з чорнымі пазногцямі яна заціскала. Наагул, старая не зьбіралася купляць мяса, але электрычнае сьвятло і блісканне маленькіх елачак спакусілі яе, у моцным сэрцы выявілася слабіна, і ёй захацелася. Але мясныя прылаўкі былі зусім пустыя. Зусім. Старая пільна агледзела дзяўчыну-прадаўшчыцу за пустым прылаўкам. Прадаўшчыца была вельмі маладою, да кучаравых ад хімзавіўкі валасоў быў прычэплены малюпасенькі карункавы каптурок. Твар ружовы, прыгожы, а шыя смуглява-жоўтая. На сваю адзежу яна налажыла белы халат, а на халат — душагрэйку аўчынай наверх. Мяса не было, а прадаўшчыца стаяла.

Едучы ўжо ў дызэлі, старая лавіла нейкую думку. А думка кружляла, адыходзіла, вярталася — не давалася. Яна трымала торбачку з харчамі на апошні пост і думала... Пра што? Ня знаю.

Старая Гандзя памерла на лаўцы ў дызэлі між станцыямі Бярнарды і Прылукі. Раней-раней Бярнарды належалі берасьцейскім бэрнардынам, а Прылукі берасьцейскім езуітам. Каго Бог ня любіць, тыя паміраюць ня так.

Старая Гандзя памерла. На мурах кляштараў, перабудаваных у руіны Брэсцкай крэпасьці, асыпаўся тынк. Ішоў 1978 год. Ніхто пра гэта ня думаў.

*1999*

## Крыві не павідна быць відна

Так казаў той доктар, што лячыў ейную маці. Поўны, з пышнымі белымі вусамі, ён выправіў усіх на двор, але яна, чатырохгадовая дзяўчынка, вырвалася з бацькавых рук і ўцякла. За рогам яна ўзьбілася на прызбу і бачыла ўсё праз акно. Доктар адкінуў старую капу, якой была накрытая маці. Нават праз маленечкае акенца было відаць, якая вялікая цёмная пляма крыві распаўзлася пад ёю, рухі доктара былі асцярожныя і спакойныя, ён пагладзіў маці па руцэ, нешта сказаў ёй, бяссілай, распластанай. Доктар згінаў маці ногі ў каленях і прытрымліваў іх адной рукой, пакуль другой, абцягнутай, як аблітай, пальчаткай, нешта мацаў. Потым ён мыў акрываўленую пальчатку на двары, а бацька паліваў яму з конаўкі.

«Крыві не павідна быць відна, — казаў доктар. — Ці з горла, ці з вуха, ці з дупы кроў пакажацца, ці то з носа ідзе часьцяком — трэ ехаць да доктара. Каб вы адразу мяне паклікалі, то, можа, у больніцы… А так… Пасьляродавае запаленне — гэта, ведаеце…»

Бацька павёз возам пана доктара назад у Берасце, а цётка Ганна, якую бацька паклікаў пасядзець з хворай і дзецьмі, пакарміла іх з братам. От цікава, пакуль цётка Ганна жыла ня зь імі, яна давала ім есьці, а пасьля, калі бацька зь ёй ажаніўся, — не. Пры маці ім з братам заўсёды можна было адрэзаць лусту ад бохана, што ляжаў на стале, а цётка Ганна робіць на хлебе значкі і так увівае ў настольнік, каб яны не маглі цішком узяць. Толькі сваім дзецям дае. Бацька прывёў іх — цётку Ганну і трох ейных хлопчыкаў — месяцы праз тры пасьля сьмерці маці, якраз перад жнівом. А маленькі брацік таксама памёр. Бацька жаваў яму мякіш, увіваў у чысценькую шматачку, мачыў у малацэ і так даваў смактаць, але брацік памёр. Труну з маці несьлі шасьцёра, а труну з хлопчыкам дзядзька Іван трымаў пад пахай… На наступны дзень пасьля пахаваньня яна намовіла брата пайсьці на могілкі і разгарнуць матчыну магілу. Трэба разгарнуць, адарваць вечка труны, гаварыла яна, хай маці ўстане, хай ідзе дадому, бо ім, малым, немагчыма безь яе…. Тады яна нічога не баялася, ні могілак, ні мёртвых. Цяпер ведае, чаго трэба, баяцца — нячыстай сілы і ліхіх людзей… Старая Саўчыха, да якой за гэтыя гады яна ўтаптала чорную дарогу, навучыла яе, што трэба казаць, калі з-за грэблі раптам выскачыць супраць цябе чорт, і калі кліча ў жыта русалка, і калі сутыкнешся дзе зь целам без душы, што блукае па зямлі… «А супраць ліхіх людзей няма нагавору, — казала Саўчыха. — Ні нагавору, ні малітвы. Трэба толькі Бога прасіць, каб трымаў ліхіх людзей ад нас далей…»

…А сёньня першы раз упаў белы мароз. Сьцежка цьвёрдая і халодная-халодная. Босыя ногі замерзьлі, аж шпары ў пальцы зайшлі. Яна ідзе хутка, подбегам, вось ужо і купа ракіты, за якой сцежка павяртае да Буга.

«Бабы, каханыя, нясіце анучы засраныя, сем год ня праныя», — так крычыць старызьнік, калі едзе ўздоўж вёскі. Чаму гэта ўспомнілася? Яна ж свае анучы якраз будзе праць.

Нізкія хмары паўзуць з-за Буга. Яны падымаюцца яшчэ больш цёмнымі ад таго, што на іх тле трымцяць чырвоныя асіны і зьзяюць залатыя ясакары. Пэўна, будзе сьнег. Хутка Пакроў.

На беразе яна, не затрымліваючыся, падабрала спадніцу, расчапіла шпільку, якой была сашчэпленая сарочка, выхапіла з-пад сябе складзеную ўчацьвёра анучачку і, зручней падабраўшы спадніцу і сарочку, з разьбегу скокнула ў рэчку. Ад халоднай вады, што даходзіла да клубоў, спачатку заняло дух, а потым стала цёпла. Яна засмяялася і прысела.

Яна поўнілася маладосьцю, як поўніцца сілай жолуд увосень, як поўніцца вадой рака ўвесну. Балелі рукі і сьпіна, бо ўчора яны з бацькам цэлы дзень малацілі, цягнула ў нізе жывата, бо сёньня першы дзень на сарочцы, але і гэты боль, і адчуванне чысціні, якое зьявілася, калі яна выбралася на бераг ды абцерла ногі ручніком, і гусіныя лапкі на скуры, і драпінка на далоні, што запякла ў вадзе, — усё гаварыла: я жывая, я моцная, я шчаслівая, я чакаю… Яна ўпарадкавалася з чыстай анучачкай, а запэцканую крывёй прысела памыць. Чорная, з ночы, кроў па краях, сьвежая, яскрава-чырвоная, пасярэдзіне. Анучачка плыве па вадзе, цягнуцца ад яе дымныя пісягі, у халоднай вадзе чырванеюць пальцы. Крыві не павідна быць відна. Калі зь яе палілося першы раз, яна спалохалася, бо падумала, што цяпер памрэ, як тады маці, але зараз яна ўжо ведае, што той доктар казаў недакладна: калі ты дзяўчына — штомесяц ліецца зь цябе кроў, як з рукава, а табе хоць бы што. Управіўшыся, яна заціснула мокрую анучачку ў руцэ, каб ніхто ня бачыў, і пабегла дадому.

Вецер, замешаны зь сінімі пасмамі часу, падпіхваў яе ў сыпну, забегшы наперад, павяваў у твар, а то забіваўся пад спадніцу. Яна бегла. Яна чакала.

Яна ня ведала, што прыйдзе час — і мужчына скажа ёй: «Ты маё сэрца», — але гэта будзе няпраўда. Ня ведала, што прыйдзе час — і іншы мужчына скажа ёй: «Ты сука», — але і гэта будзе няпраўда. Ня ведала, што жыцьцё скіруе да яе ліхіх людзей, і праз грахі і правіны вольныя і нявольныя правядзе яе ад сілы да слабасьці, да старасьці. І ледзяная, бязьмежная, сьмяротная адзінота гэтай зямлі адаб'ецца ў ейных вачах.

*2000*

## Дамачкі сярэдніх гадоў

Мы прыйшлі першыя. Цырк маўчаў, засяродзіўшыся на сабе перад пачаткам нашэсця. Нашыя паліто адзінока пагойдваліся ў гардэробе. Ні ў вэстыбюлі, ні на лесвіцы, ні ў буфеце мы не сустрэлі нікога.

Я замовіла сабе каньяку, а дзецям — ліманаду і пірожных.

— Мама, а можна папрасіць марозіва?

— Папрасіць можна, але я не куплю. У малога катар.

Малы, ужо перапэцканы ў белы крэм, раптам падняў галаву, прыслухаўся, што там пра яго кажуць, і абвясціў:

— Хачу какаць!

— Варта ўхвалы! Павал!

Мы з Паўлам выкінулі на пальцах «камень — нажніцы — папера», і выпала весьці малога яму.

— Я пасьцерагу вашыя пірожныя.

Дзеці зьніклі — сярэдні пабег за кампанію.

Яна паднялася, аднекуль зь цёмнага кутка, з-за дальняга століка, падышла. Калі я зразумела, што гэта яна, у мяне закалацілася сэрца, я трохі разгубілася і адчула, што гэта відаць па маім твары.

— У вас цудоўныя дзеці.

Дык вось, значыцца, як яна выглядае. Занадта старанна зробленая прычоска, занадта худыя ногі, занадта бездакорны макіяж. Дробненькая. Тэатральны крытык. Крытыкеса.

— Здаецца, трэба пагаварыць, — сказала яна.

— Няма пра што. Калі ласка, ідзіце адсюль.

Гэта прагучала недалікатна, але не таму, што я

хацела яе абразіць, мне проста здрадзіў голас.

Ейны тварык здрыгануўся, аднак, памарудзіўшы, яна перасмыкнула плячыма і, не сказаўшы больш нічога, выйшла — вельмі простая сьпіна, трошкі крывалапіць.

Апусціць бы зараз галаву на рукі і пасядзець так нерухома, бяз думак, пакуль не адальe кроў ад шчок... Але ў буфэт паціху нацякае народ, вясёлыя гаманкія гледачы цырку. Я дастала цыгарэту, запальнічкі, вядома, няма. Бармэн, што пераціраў шклянкі, выйшаў з-за стойкі і паднёс мне агню. Дзякуючы, я сустрэлася зь ягоным позіркам і зразумела, што гэты незнаёмы чалавек ведае, хто я і хто яна. Ён прафэсійна ўсміхнуўся і паставіў на стол папяльнічку.

Цудоўныя дзеці. Безгустоўна падыходзіць з такімі словамі да жанчыны, у якой ты зьвяла бацьку гэтых самых дзяцей! І гэты яе анёльскі касцюм, такі недарэчны ў цырку. Тэатральная крытыкеса бяз густу. Дый не я на адабрала ў мяне мужа: я сама, сваімі рукамі

штосілы пхала яго прэч. Але не, ізноў ня так. Я проста паціснула плячыма ды адвярнулася. І ён сышоў.

Хапае ж у яе ідыятызму гаварыць банальныя фразы пра цудоўных дзяцей!

Я выпіла свой каньяк адным глытком. Малапрыемна, затое адразу супакойвае.

З бліскучымі вачыма зьявілася мая тройца, абвясціла, што яны ідуць фатаграфавацца з сланом, і, хуценька прыканчыўшы пірожныя, ізноў зьнікла. Спадзяюся, сапраўды да слана. Я цьвёрда дамовілася з старэйшымі, што да бацькі ў грымерную яны ня нойдуць. Можа, пасьля шоу..

Сёньня роўна год, як мы зь Янам разьвяліся. Да гадавіны быў прымеркаваны й культпаход.

Я затушыла цыгарэту і пайшла ў залю.

Пакуль не пачалося шоў, гледачы маглі паспрабаваць катапультавацца з сур'ёзнага выгляду катапульты. Двое гімнастаў, зарабляючы грошы для цырку і для сябе, якраз запраўлялі ў рамяні дзяўчыну. Яна прыціскала рукі да грудзей, і выраз твару казаў: не забаюся. Сьмялячка ўзьляцела высока і доўга круцілася пад купалам. У залі пляскалі.

Вочы сыноў, якія пасьпелі ўжо прыйсьці на месцы, ізноў загарэліся.

— Каб не малы, дазволіла б, — папярэджваючы просьбы, сказала я. — А так — не. Ён жа ўзьніме крык, каб і яго ўзялі, — купал абваліцца.

Катапульту прыбралі. Вялікае святло згасла, агеньчыкі па сцэнах успыхнулі ў такт дырыжорскай палачцы. Ніколі ня думала, што буду так хвалявацца. Я ведала, што клоўны выйдуць на арэну адразу пасьля параду-але. Зараз пабачу былога мужа.

Ён не перамяніўся за год — гэта відаць, нягледзячы на грым. Моцныя худыя рукі, рыжая чупрына... Клоўн, зь якім я пражыла дванаццаць гадоў.

Старэйшыя з захапленьнем глядзелі выступ бацькі, малы яго не пазнаў.

Сюжэт рэпрызы просты: Саўка ды Грышка ладзяць дуду. У працэсе гэтага яны сварацца, дурэюць, уцягваюць у спаборніцтва гледачоў... Заля сьмяялася як адзін чалавек, але ў гэтай весялосьці было й трошачкі суму, бо ў тых простых калізіях бачыліся і гумар, і шчасьце, і сапраўдная невымерная адзінота дзяцінства, памяць аб якой застаецца ў кожнага дарослага...

Ян вёў, гэта адчувалася. Нешта незаўважна-адметнае зьявілася ў ягонай ігры, як душа ў целе. Няўжо дзякуючы ёй? Я пашукала яе, і мы сустрэліся вачыма. Трыюмфу ў позірку не было.

Авацыя была заслужаная. На паклонах Ян нас, здаецца, заўважыў.

Месца, дзе сядзела яго крытыкеса, апусцела — мабыць, пайшла да яго за кулісы.

Шоў захапіла дзяцей, нават меншага. Зьмененыя музыкай, блікамі белага сьвятла, вопраткай, на перакрыжаванні тысячы позіркаў, пад купалам луналі тыя самыя гімнасты, што былі пры катапульце. З усіх гледачоў толькі я не назірала за іх палётам — зьмененая музыкай, блікамі белага сьвятла, каньяком, які ціха зьмяшаўся з крывёю, я назірала за палётам сваіх успамінаў, заглыбленая ў сябе.

...Фаіна часта казала мне, што я ня ўмею «трымаць удар». Звычайная хвароба каторага зь дзяцей выбівае мяне з каляіны. Ледзьве слупок тэрмомэтра падымаецца вышэй за 37, у маёй душы ўтвараецца хаос, які хутка паглынае ўвесь дом. Справы валяцца з рук, я не кармлю іншых і ня ем сама, не хаджу на працу. Зануранае ў адну думку, не магу адарвацца ад кволага гарачага цельца, сяджу зь ім на руках цэлы дзень, і ад страшэнных сцэнаў, намаляваных уяўленнем (тэмпэратура — сутаргі — рэанімацыя; боль у жываце — апэндыцыт — рэанімацыя; сып — мэнінгіт — рэанімацыя), мяне адцягвае толькі неабходнасьць даць дзіцяці парашок, зрабіць кампрэс... Але карысці ад яго ніякай — ні дзіцяці, ні мне. І Ян ніколі і нічым не мог нам дапамагчы. Часьцей за ўсё яго проста не было дома, а калі й быў, дык паводзіўся яшчэ больш бездапаможна, чым я. Соваўся па пакоі, кудлаціў рудыя валасы й паўтараў як заведзены: «Трэба нешта рабіць, трэба нешта рабіць». А рабіць ня ўмеў нічога, і менш за ўсё ўмеў лячыць дзяцей. І кашмар нагрувашчваўся і гусцеў, як хмара, аж пакуль пасьля працы не прыходзіла Фаіна.

Во дзе быў эскуляп!

Энергічная і спакойная, яна забірала ад мяне хворага хлопчыка, цалавала ў лоб і падкідала да столі:

— Няма ніякай тэмпэратуры, мама зноў напрыдумляла жахаў! Вясёленькі хлопчык, як мае быць, няма чаго панікаваць, — і, во дзіва, безнадзейнае дагэтуль дзіця сапраўды пасміхалася, лекі пачыналі дзейнічаць, панос пераставаў, боль сьціхаў, зьяўляўся апэтыт...

Фаіна гатавала дыетычную вячэру, карміла маіх, мыла посуд і канчаткова прыводзіла мяне ў змыслы, ставячы перада мной каву і нібыта мімаходзь заўважаючы:

— Лысы вітаў.

Гэтай магічнай фразы было дастаткова. Прыроджанае пачуцьцё адказнасьці брала верх над слабасьцю натуры. Лысы, або Лысенка, — наш загадчык, на якога ўсе мы молімся. Ён умудраецца даставаць нам замовы ня толькі ў Маскве, што нікога ўжо ня дзівіць, але і ў Бэрліне ды Боне.

Менавіта ён у бурлівым дзевяноста першым ня даў пайсьці ў чаўнакі і рыэлтары тым, каго лічыў касьцяком нашага аддзелу, рашуча адпачываў ад інстытуцкага монстру мабільнае архітэктурна-будаўнічае бюро і прымусіў нас працаваць так, каб заробкаў хапала ня толькі на пражыцьцё, але і на нашае асабістае капітальнае будаўніцтва. Маленечкі, плюгавенькі і сапраўды лысы, геніяльны інжынер і мэнэджэр, ён кіруе жалезнай рукой, і проста немагчыма ўявіць, што будзе, калі раптам хто ня зробіць сваёй часткі праекту ў вызначаны ім сьціслы тэрмін і падвядзе тым самым увесь калектыў. Мне ён падсыпае самыя складаныя задачкі.

— Пянёк ты, душа мая, — звычайна кажа Лысы, праглядаючы мае красьлюнкі, — гэта ж трэба было выйсьці замуж за клоўна і настругаць траіх дзяцей! Ды з тваёй галавой, каб ты была адна, даўно ўжо ў якім Нью-Ёрку грошы заграбала б! — Лысы размашыста падпісваў чарцяжы і соваў мне чарговае тэхзаданьне. — Ідзі, мазгуй! Архітэктары тут разгарнуліся...

Гэтыя майстры разгарнуцца. Ім фантазіі будзіць ня трэба, яна ў іх цьвіце пышнай квеценню й магутна, гучна мкне. Мая ж задача — скіраваць гэтую глыбокую плынь у рэчышча дакладных разьлікаў, каб пабудаваная паводле нашага праекту будыніна не паваліласе ад ветру. Гэта забірае ўсе думкі, увесь час, а рашэнне часам выплывае з падсьвядомасьці зусім нечакана — калі стаіш на чырвонае, закупляешся на Камароўцы, чакаеш чаргі да зубнога... Калі я працую, забываюся на ўсё, толькі не на дзяцей — варта катораму трошкі прыхварэць, і мяне перамыкае. Я не магу думаць. Лысы ведае пра гэта, таму дапамог мне знайсці надзейную няньку і пэрыядычна перадае прывітанні праз Фаіну.

З Фаінай мы сябравалі з інстытуцкіх часоў. Абедзьве мінчанкі, толькі я — зь Сельгаспасёлку, а яна — з Цаглянага. Існуе такі тып карэнных мяшчанак — жанчын з правільнымі фігуркамі і нфправільнымі рысамі твару, узгадаваных на каштоўнасцях дваровай супольнасьці. Мы абедзьве такія. Толькі Фаіна нашмат больш эфектная: медна-рудыя густыя валасы і фіялкавыя вочы — такіх я ні ў кога больш ня бачыла. Як аквамарыны. Рэдкая прыгажосць. Але яна не прынесла Фаіне «шчасця, долі».

Бо за белай ядвабнай скурай, за спраўнымі, тугімі мускуламі хаваўся дэфэкт — Фая не магла вынасіць дзіця. Чатыры разы спрабавала — і чатыры разы справа канчалася больніцай. Выкідышы. Самаадвольныя аборты. Сіняе скурчанае скрываўленае цельца, танюткія пальчыкі, якія яна пабачыла, перш чым страціць прытомнасць на аперацыйным стале, усё жыцьцё стаялі ў яе перад вачыма.

Але яна ўдар трымаць умела. Да пары.

Як добра яна жартавала і сьмяялася! На «адхадняку», пасьля здачы якога асабліва складанага праекту, яна, дасканала капіюючы мэлёдыю, тэмбр і стыль Мэладзэ ды дзяржаўную трасянку, выводзіла:

— Дамачкам сярэдняга возраста
Трудна ізьбяжаць адзіночаства...

Мы, добра надпітыя, рагаталі.

А адзіноты пазьбегнуць яна не змагла.

Першы зь яе трох мужоў плакаў, калі яна сыходзіла ад яго, а калі сыходзіў апошні — хоць бы яна хліпнула. Затое дала сабе волю, калі дзьверы за ім замкнуліся. І нейкая струна ў ёй аслабела. Упершыню камяні, якія яна насіла ў завушніцах, зьзялі мацней за яе вочы.

Я прывыкла да таго, што Фая магла патэлефанаваць а пятай раніцы, каб паведаміць пра якую Агату Крыстоф, якую яна вось толькі прачытала, або расказаць пра чарговую прыгоду ў бары, або раптам выцягнуць нас куды ў Ратамку «на свята квітнення вішні»... Я не заўважыла, калі гэта раптам скончылася. Занураная ў разьлікі чарговых бэлек, задачкі па арытмэтыцы ды баршчы, прапусціла гэты момант.

Калі аднойчы яна не прыйшла на працу і не падняла слухаўкі, Лысы, па завядзёнцы, паслаў мяне перадаць ёй прывітанне. Адмыкаючы дзьверы сваім ключом, я рыхтавалася пажартаваць, як гэта звычайна рабіла яна. Абсалютна не чакала таго, што пабачыла, і па інерцыі працягвала пасміхацца.

Яна павесілася. Старанна ўбралася на смерць: на ёй была яе найлепшая, вельмі дарагая сукенка і новыя модныя туфлікі, адзін зваліўся. Сьмерць зжэрла яе прыгажосць і страшна зьмяніла пасінелы ўжо твар. Калі, крычучы ад жаху, я абрэзала вяроўку, халоднае цела абрынулася на мяне. Я паслізнулася ў калюжцы, што нацякла пад яе нагамі, і мы абедзьве грымнуліся на падлогу — дамачкі сярэдняга веку, кумы, такія падобныя ў многім і розныя толькі ў адным: адна — жывая, другая — мёртвая.

Я заўжды памятаю: гэта я вінаватая ў самагубстве Фаі. Сьмерць, гэтая ўвасобленая адзінота, ціхенька паклікала яе — а я ня чула. І

вось цяпер сьмерць забрала яе з сабой, адвяла ў свой двор і вярнулася, хаваючыся да пары за рогам, — па наступнага...

...Ізноў нумар Яна. З агромністага меха дастае талеркі, пральныя дошкі, рондалі, і вось ужо заля ўяўляе зь сябе хор і аркестар імя Вяроўкі... Крытыкеса зноў на сваім месцы, але глядзіць ужо не на нас, а на яго. Цяпер ён працуе крыху ня так, нервуецца. За год, што мінуў, я не развучылася разумець яго настрой. Употайкі ён пазірае ў наш бок. Воплескі доўга не сціхаюць — аж пакуль не пачынаецца наступны нумар і я зноў не занураюся ў свае думкі.

...Колькі ўсяго трымалася на ёй, на маёй Файцы. Лысенка так і ня змог падшукаць ёй вартую замену.

Дзьве сарокі, мы з Фаяй і на рабоце трашчалі на гаворцы нашага дзяцінства, і пакупова яна запанавала ў бюро. Беларуская мова была такой самай адметнай яго рысай, як лягатып і шыльда. Калі Фая памерла, я анямела. Не хацела гаварыць па-расейску і ня здолела пабеларуску. Адняло мову. Я не магла больш гаварыць, як, бывала, гаварыла яна: «Што за лямант і енкі? Праблема вырашаецца ўмомант». І праблемаў стала больш.

Але і ня ў гэтым рэч.

Сапраўдную, невымерную адзіноту Менску, дажджу і восені, шэрых і празрыстых дзён, Сельгаспасёлку і Цаглянага, адзіноту, якая тым мацнейшая, чым больш блізкіх людзей навокал, ад якой не схаваесься ў цырку, — ледзяную, як труп, адзіноту жыцьця я не магла больш не заўважаць пасьля яе сьмерці — вось у чым рэч.

Госпадзе, што мы робім з сваім жыцьцём! Хаваем бездапаможнасць за халоднымі сьценамі спарудаў (гэта мае праекты), прыкрываемся дзецьмі (гэта я іх нарадзіла), штодня, як вопратку, нацягваем на сябе новыя і новыя «трэба» — а адзінае, што важна, гэта рудыя валасы ды моцныя рукі чалавека, які лічыць цябе непатрэбным цяжарам.

А менавіта так думаў Ян пра мяне і дзяцей. Ён хацеў жыць у сваім сьвеце, які здаваўся нам прывідным. Мы трымалі яго за крылы. І ён імкнуўся лётаць дзе-небудзь далей ад нас.

Дробненькая крытыкеса, трэба думаць, да зямлі яго ня цягне.

Фая казала, што жаноцкасці ўва мне няма, нягледзячы на субтыльную анатомію: «Ты цяжкавоз-пэршэрон, толькі чамусьці выглядаеш, як поні. Бэльгійская кабыла, словам». Можа, і так.

Усьведамленьне таго, што Ян мяне больш не кахае, прыйшло раптам, як прыходзіла ў галаву патрэбная формула. А хутка прыспела і пацьверджаньне здагадкі.

На вечарыне цыркачоў мяне запрасіў на танец іхны бос — вельмі ўплывовы імпрэсарыё. Па-дзелавому, не абцяжарваючы сябе доў-

гім спічам пра каханьне зь першага погляду ці якімі б там ні было залётамі, ён прапанаваў мне пераспаць, узамен паабяцаўшы ангажэмэнт мужу ў новай праграме. Я падняла вочы на яго абсалютна спакойную фізіяномію і шчыра разрагаталася. Сьмех яшчэ паколваў мяне, калі па дарозе дадому я расказвала Яну пра нахабу, але весялосць мая прапала, калі я пачула:

— Ну і навошта ты хаміла? Ведаеш, як важна, каб мяне ўключылі ў праграму...

У памаранчавым сьвятле ліхтара твар Яна здаўся мне стомленым і пастарэлым, тонкі арліны нос — вастрэйшым, чым звычайна. Рудыя ўскудлачаныя валасы страцілі чырвань. Я выняла руку з-пад яго рукі. Рэшту дарогі мы прайшлі моўчкі, а дома я прапанавала яму разысціся. І ён адразу сышоў.

Дзеці сустракаліся з татам амаль штотыдня, я ж за ўвесь гэты час ня бачыла яго ні разу, затое рэгулярна чытала у газэтах пра творчы узьлет найлепшага клоўна беларускага цырку...

Аднойчы, яшчэ ў пару жаніцтва, я прывяла Яна на месца, дзе стаяў наш дом да зносу. Цяпер гэта скрыжаваньне дзьвюх вуліц, і штохвіліны тут праносіцца мільён машын. Пры нас дзьве сутыкнуліся на тым месцы, дзе была печ. Патрэскванне агню, які штовечар і штораніцу распальвала мама, пачулася мне ў цішы, што ненадоўга запанавала пасьля аварыі. Ян ня чуў сьпеваў агню, якія для мяне заставаліся знакам таго, што са сьветам усё ў парадку. Ён чуў толькі лаянку бурачкаватварых кіроўцаў ды нецярплівы гуд машынаў. Мы зь ім заўжды чулі й бачылі рознае.

І на трынаццатым годзе разышліся.

Але сутыкнула ж нас вышэйшая сіла, нешта ж яна сабе думала? Дзеля чаго занесла мяне ў магазын «Ноты», дзе я гартала нейкі песеньнік, аж пакуль худы рудавалосы хлопец не крануў мяне за плячо... І пасьля разводу я працягвала думаць пра Яна і, нібыта між іншым, кожны раз цікавілася ў дзяцей, ці пытаўся тата пра мяне. Разумненькі мой Павал заўжды казаў, што так, але, можа, ён проста шкадаваў неразумную маму?

...Ян ізноў выйшаў на арэну, дзе зьбіралі некалькі турнікоў для выступу гімнастаў. Сьмешна шлёпаючы нагамі, ён дайшоў да першага, падскочыў, каб падцягнуцца на перакладзіне, — і ўвесь цырк вохнуў. Пэўна, яе кепска замацавалі — перакладзіна адарвалася, Ян з размаху зваліўся, а таўшчэзныя жалезныя стойкі — на яго. Адна — на грудзі, дзьве — на ногі.

Я тыцнула малога Паўлу і, крыкнуўшы «Сядзіце тут», пабегла па праходзе да Яна. Да яго ўжо несьліся доктар і ўніфармісты з насіл-

камі, са свайго месца бегла і крытыкеса. Ян не глядзеў ні на доктара, ні на яе. Павярнуў галаву да мяне, зь цяжкасцю пасьміхнуўся, з куточка рота цурком пабегла кроў, і павекі яго апусціліся.

Свайго крыку я не пачула: рухнуўшы каля яго на калені, страціла прытомнасць. У апошняе імгненне, калі цыркавыя агні кruціліся перад вачыма вар'яцкім колам, а з бакоў чорнай ватай напаўзала цемра, я зразумела, пра што думала вышэйшая сіла, калі сутыкнула нас зь Янам у краме «Ноты»...

* * *

Ян адужваў доўга — рабрыны хутка зрасьліся, а вось раструшчаныя косткі ног ніяк не хацелі складацца правільна, і іх давялося двойчы ламаць наноў. Але зь ліха дабро выходзіць: Ян падрыхтаваў нумар пра жалю вартага калеку, які пры канцы выяўляецца багатыром з мабільнікам і «мэрсэдэсам». Нумар вельмі спадабаўся гледачам, калі Ян вярнуўся ў цырк. Праўда, артыкулаў пра яго цяпер значна паменела: былая каханка-крытыкеса зноў узялася была тэлефанаваць у наш дом, але я наладзіла такі паказальны скандал, што сама сябе адчула стопрацэнтна жаноцкай істотай.

Калі я сказала Лысенку, што чакаю чацьвертае дзіця, ён у роспачы вырваў апошнюю пасму валасоў. Праўда, хутка замірыўся: а куды падзенесься? У радзільню даслаў кветкі і чарговае заданне. Глянуўшы на тэрміны, я пабачыла, што часу на раскачку ён мне не пакінуў. Добра яшчэ, што дзяўчынка была спакойная і дазволіла мне справіцца ў час.

Я пабаялася назваць яе Фаінай. Няхай будзе Ева — яна ж першая дзяўчынка ў нас.

*2001*

## Тры калёны

Я іх бачу штодзень з акна. Цяпер начамі іх падсьвечваюць пражэктары, дзеля чаго яны выглядаюць, як выбеленыя сонцам косьці на тле аспіднага неба. Раней яны бялелі мякчэй, а неба здавалася шаўковым. Мора бухала і тады, і цяпер; цыкады як надрываліся гады, так і надрываюцца; буханьне мора і віскат цыкадаў — нязмоўчныя гукі майго раю. І тры калены, якія я бачу з акна. Парэшткі храму Апалена. Храму, які мае да мяне яшчэ меншае дачыненне, чым да туркаў. Бо я ня турак, я курд.

Бацька памёр у турме, калі мне было дзесяць. Усе ведалі, што яго забілі. Мы жылі з мамай і сястрой. Аднойчы на вуліцы мама, не стрымаўшыся, крыкнула малой: «Асцярожна, павалішся!» — і яе забралі ў турму, бо курдзкая мова была тады забароненай. Да канца школы я навучыўся па турэцку; тут у Анкары нешта шчоўкнула, і нас, хлопчыкаў-курдаў, сталі вучыць за дзяржаўны кошт ва ўнівэрсытэце — паводле праверaных янычарскіх рэцэптаў.

Вельмі хутка мы скантакталіся, нашай мэтай не была помста, мы хацелі незалежнасці. Я ведаў, што наша група — толькі частачка вялікай паўстанцкай арміі, недзе далёка ў гарах быў яе цэнтар, там па-курдзку не баяліся гаварыць, там снаваліся пляцы і назапашвалася зброя. Атрымаўшы адтуль тэлеграму «Прыязджай. Цётка», мы з маім сябрам Ансарам павінны былі прыехаць у пэўнае месца. З гэтым веданнем я вярнуўся з універсітэту да трох калетаў, буханьня мора і віскату цыкадаў. Да белых камянёў. Да старой матулінай вопраткі. Дадому.

У чаканілі тэлеграмы я працаваў гідам і вадзіў да трох калекаў турыстаў, якіх станавілася штораз больш.

І яна была турысткай. З ангельскай групы. Пабачыўшы яе, я падумаў, што вось і знайшоў той калодзеж, зь якога буду чэрпаць усё жыцьцё. Усё глыбей і глыбей. І ніколі не нап'юся. Не наталю смагі.

І ў дзяўчынкі, якая ў нас народзіцца, будуць карыя, а ня чорныя, як у мяне, вочы, і русыя, а не бялявыя, як у Ліём, кудзеркі.

Ліём.

Так яе звалі.

Яна была з Ірляндыі.

Я мог уявіць яе ў сваім сьвеце. Яна прызналася мне, што на радзіме ўдзельнічае ў змаганьні.

Калі я вярнуўся з спатканьня, за вушаком бялела тэлеграма.

Прыбег спалоханы Ансар, які таксама атрымаў дэпэшу.

— Ты паедзеш? — зашаптаў ён. — Слухай, давай не паедзем, а? У мяне вымалёўваецца такі гешэфт... Можна зарабіць купу грошай, купу... Давай разам, а? Аб'яднаем капіталы, хе-хе... Ты не пашкадуеш. Га?

Невялічкі, як усе мы, ён выцягваў доўгую шыю, і прага жыцьця ды прага грошай рабілі яго дробны твар выразным.

Ноччу, пад буханьне мора, я сядзеў ля трох калекаў, якія засталіся ад старога храму, — яшчэ не асветленых пражэктарам. У паласе прыбою бокам насіліся крабы. Па старых камянях нячутна слізгала брунатная начная зьмяя. Моцна пахла бугенвілія, і разагрэты за дзень лаўрус, і дзікі бурачок. Як пад падкладкай, пад гэтымі пахамі хаваўся смурод фэкаліяў.

Не пытайся, што я вырашыў у тую ноч, — зазірні ў сваю душу. Але я раскажу табе, што было далей.

Да Ліём я больш не пайшоў, нават не разьвітаўся. Мы з Ансарам узяліся за гешэфты; у пэўны момант я змог стрымацца і набыў вось гэты магазынчык; Ансар жа ня змог і страціў усе свае шалёныя грошы гэтаксама хутка, як і набыў. Цяпер ён працуе ў адным з гатэляў, што паўсталі на нашым беразе.

А сёньня час зьвіўся ў сувой.

Маладая Ліём увайшла ў мой магазын, а за ёю сьледам — Ліём пастарэлая.

Я адрухова схаваўся ў кут. У маладой Ліём былі ня карыя, а сівыя вочы і ня русыя, а бялявыя кудзеркі. Маці і дачка крутнуліся па забітым турэцкім барахлом пакойчыку — і выйшлі.

Буханьне майго сэрца заглушыла буханьне мора і віскат цыкадаў.

Гэта была ўжо другая кропля.

Першая ж кропля — з тых, што камень точаць, з тых, якімі катуюць, — упала тады, калі я ўбачыў ля трох калегаў жабрачку зь дзецьмі. У хлопчыка была сухая нага, і, навучаны мамай, ён выстаўляў яе наперад. І руку працягваў коўшыкам.

Пакуль не прагналі, жанчына зь дзецьмі сядзела ля трох калегаў і прасіла міласціну ў турыстаў.

Гэта была мая сястра. Зь дзецьмі, як і з паліцэйскімі, яна размаўляла па-турэцку.

У выцьвілай падзёртай абтрапанай хустцы.

У брудных выцьвілых шараварах.

Рука коўшыкам.

Мая сястра.

Па-турэцку.

Вось якія кроплі б'юць мяне ў скроню.

Ласкавая пані, мы, курды, як і туркі, не ўжываем алькаголю. Нам забаронена. Ня думай, што я п'яны.

Але я няварты.

Сорак гадоў мне, і я зразумеў, што я няварты. Як у вас кажуць, смакоўніца бясплодная.

Плёну ад мяне ўжо ня будзе, але я знаю, што зраблю.

Я дачакаюся, калі прарве каналізацыю і пах фэкаліяў вырвецца з-пад падкладкі; тады я зайду ў мора і не вярнуся. Хай мяне потым выкіне на бераг. І хай мяне пабачыць Ансар.

Ён працуе на гатэльным пляжы, зьбірае смецьце, якое выносіць мора. Прага да жыцьця ўжо сьцерлася зь ягонага твару, засталася толькі прага грошай. Хай ён мяне пабачыць.

Хай і мяне вынесе мора. Разам з гаўном. Пад тры калены.

*2002*

# Словы, якіх я чакаю

*Берасцейскія апавяданні*

## 1. Дзе тут Руская вуліца?

Усё чымсьці вяртаецца. Ты жывеш — і жыццё вяртаецца смерцю. Права валодаць вяртаецца абавязкам слухаць бясконцыя скаргі.

У мяне дзьве вёскі — Страдчэ ды Кастамалоты, і кожны раз, кожны раз трэба разьбіраць скаргі.

Цёмна ў лістападзе. Цёмна раніцай, цёмна ўдзень, а як ужо цёмна ноччу... Такой самай парой памёр бацька. Колькі ж часу прайшло? Ну так, тры гады. Ён так і не прыйшоў у змыслы: у бяспамяцтве сарваў з раны павязку, і кроў, што ўжо была запяклася, ізноў пабегла цуркам. А брат памёр яшчэ раней. Нечакана для ўсіх. Я зрабілася спадкаемніцай.

Я атрымала спадчыну — мне пашанцавала. Але ж я і падвоіла яе. Так, я скнара. У мяне няма такіх боцікаў, карункаў і футраў, як у Копцевых дзяўчат, я не замаўляю дарагіх кніг ды іконаў, як войтава пані. Я нават пашкадавала грошай на мілоснае зельле, калі хацела прывярнуць да сябе Бартлуша. Ну і што? Нашу свае сукні і чобаты па пятнаццаць гадоў, ня трачу грошай на хну і ружовае масла — але ж і Бартлуш мой.

«Вы, пані, уваходзіце ў пару росквіту і спеласці», — казаў мне пазаўчора вялебны айцец Васіль аксамітным голасам, але ятку на рынку я яму не аддала. Хай Госпад Бог выбачае, грошы мне патрэбныя ня менш, чым яму.

Дый хітраваў бацюшка. Які тут росквіт! Часам адчуваю сябе зусім зьнясіленай і старой. Зубы хістаюцца ў дзяснах, а пазаўчора выпалі два кутнія. Што дзень, то мацней пячэ ў грудзёх... Дый ніколі не была я прыгажуняй: бацька лічыў, што я «не ў пароду» — беласкурая, з тонкімі губамі, носам з гарбінкай і сівымі вачыма.

У кутняй вежы на самым версе засвяціўся агеньчык. Так дамоўлена. Бартлуш — афіцэр, вартуе замак, а для мяне запальвае паходню. І праз акно я бачу са сваёй пасьцелі агеньчык — адзіны агеньчык у сьвеце аж да раніцы, пакуль не прыкоціцца ў горад досьвітак, пакуль не заваладарыць над Бугам гейнал, пакуль не паўцякаюць у свае цёмныя норы чарты, пакуль не зашамаціць сухая асака на балотах пад светлым ветрам раніцы, пакуль новы дзень ня прыйдзе ў славе, у зьзяньні халоднай зары... А пакуль ноч, і ў пакойчыку на

самым версе вежы цёплы агонь асьвятляе аблічча Бартлуша: белыя валасы, карункавы каўнер, чорныя буфы рукавоў...

Як ён там дае рады з вартавымі, Бог ведае: «Іх бін, дас Іст...». Я яго калі разумею, калі не. Знайшоў сабе кватэру не сярод сваіх на Нямецкай, не ў трывалых камяніцах на Замкавай або Прыёрскай, не сярод прасторных новых садоў на Налозках або Пясках, а на ўскраіне, на далёкай Рускай вуліцы. Але, праўда, там таньней. Там мы і сустрэліся. Бо я таксама хаджу на Рускую — купляю імберац ды перац без нацэнкі магістрату. Гандляры з Рускай бяруць і швайдніцкія паўгрошы, абы ніхто ня бачыў. У Бартлуша швайдніца ёсьць. Наагул, такіх дзіўных манэт, як у яго, у Берасьці няма, мусіць, ні ў кога. Папаезьдзіў па сьвеце, няма што й казаць. Калі ён упершыню прыйшоў у пашу ятку ды выклаў сваё срэбра, мой Начко нават ня здолеў выбраць ніводнай манэты — усе яны былі яму незнаёмыя. Выправіў немца на Гнілую да жыдоў, каб каторы памяняў яму грошы...

Звычайна Бартлуш сыходзіць, калі яшчэ цёмна.

Ля люстра гарыць каганец, Бартлуш стаіць у белай кашулі. Колькі разоў так было? З маёй пасцелі відаць, як ён бярэ ў руку шаблю, спрабуе вастрыню. Каменная падлога халодная, але ён на гэта не зважае, спакойна стаіць босы, як на цёплай зямлі.

Кашуля кароткая, і я бачу, як стройныя моцныя ногі пакрываюцца гусінай скурай. Стройныя моцныя ногі. Нешта сьціскае мне горла. Шабля. Цёплыя моцныя ногі, валаскі стаюць стырма ад холаду. Ён не памрэ сваёй сьмерцю. Бацька не памёр сваёй сьмерцю. І муж мой таксама. Ніхто ў нашых краёх не паміpае сваёй сьмерцю, толькі наглай... Я заўсёды сама праводжу Бартлуша і засоўваю дзьверы.

І сёньня ў доме халодна. Холад залазіць пад пярыну, я падціскаю яе пад сына, які сьпіць побач. Адразу пасьля гейналу Раіна прыходзіць распальваць грубку. Яна асцярожна, каб не пабудзіць нас, апускае на падлогу бярэмя дроў. Але я ня сплю. Разгараецца агеньчык, сьвятлее за замерзлым акном, я ўжо бачу пару ад свайго дыханьня. Пачынаецца бразгат на кухні. Зараз трошкі пацяплее — і я ўстану, падыму і апрану сына, мы сыдзем уніз.

Нітачкі на зрэбным каптанчыку Ляўка, да панчошак прыстала гліна... Такія дні, як сёньня, не канчаюцца дабром — дні, калі я бачу ўсё настолькі падрабязна, што ня бачу нічога цэлым. Трэска на падлозе, камяк бруду, вышчарбленая цагліна, крыжык, выпалены сьвечкай над акном, — сьвет распадаецца ў вачох... Трэба выпіць сьвячонай вады з Пачаева, трэба мацней абняць сына. Нельга гэтаму паддавацца, у мяне многа спраў. Ляўко варушыцца і расплюшчвае ясныя вочкі.

На сьняданак, як звычайна, — ячная каша і невялічкі сом. Рыба паруе на дошцы. Бяру сабе і сыну найлепшы кавалак, і Раіна адносіць дошку на другі стол, дзе сьнедае прыслуга. Сабе яна налівае юшкі. У Берасьці самоў любяць, але мне гэтая рыбіна тхне балотам, і дзеля мяне Раіна ноч вымочвае яе ў воцаце. Я кармлю Ляўка рыбай, вымаю костачкі. А кашу ён вельмі прыгожа есьць сам — трымае лыжку жменяй.

Сёньня мне трэба дзе-куды праехацца. Для ўсіх — у вёскі. Адна толькі Раіна ведае, куды і чаму я паеду адна, без фурмана.

Раіна наагул шмат пра мяне ведае — як і я пра яе. Вялебны айцец Васіль, калі зразумеў, што грошай я яму ня дам, пачаў быў: «У вашым доме жыве гэтая распусніца, з пазашлюбным — гэта ні для кога не таямніца — дзіцем. Як вы можаце такое трываць?..» — «Глядзіце лепш за сваімі папамі, ойча! А то каторы зь іх не адну Жану мае, але і дзьве, і тры. Вось што сапраўды ні для кога не таямніца!» Айцец Васіль надзьмуўся, як рапуха, і хутка сышоў. Цяпер вораг. Знайшоўся мне — вораг! Я апранаюся, сядаю ў вазок і бяру лейцы. Раіна хрысьціць мяне ў дарогу. Ляўко зь ейнай Пяланькай б'юць лёд на калюжах. Ён нават не аглядаецца, калі мама выяжджае за вароты.

А што адна, дык нічога, ня страшна. Гэта пазьней, бліжэй да Калядаў, пацягнуцца па дарогах галодныя, з апухлымі дзецьмі, з памарожанымі тварамі, са скаргамі і енкамі... Тады без фурмана нікуды. А пакуль на дарогах пуста. Але ж весела будзе, калі сёньня выпадзе сьнег. Як я тады дабяруся назад?

Маразы добра высушылі зямлю, на вуліцах і нават на рынкавым пляцы няма бруду. У месьце віруе гандаль. І людзі, і чарты спяшаюцца сюды па зыск, нават калі ёсьць рызыка замест зыску атрымаць сьмерць.

Ля ратушы перад маім вазком вуліцу пераходзіць войтава. Ледзьве хітае галавой у адказ на мой паклон. Старая галагузая курыца! Я ведаю, што яна пра мяне кажа за вочы. Ня знаю яшчэ як і калі, але ж я ёй аддзячу.

Праз рынак, куды толькі сыходзяцца купцы, паўзь Мікалаеўскую царкву, пад Замкам я выяжджаю зь места. Трохі затрымалася на мосьце, дзе бяруць мыта з вазоў, што рыпяць у горад. За мостам ізноў давялося тпрукнуць — насустрач ішлі хаўтуры. Хаваюць пана Копця. З Валынкі яго вязуць у Сімяонаўскі манастыр. Немалыя грошы ахвяраваў ён манахам на шпіталь за тое, каб яго і ягоных нашчадкаў хавалі ў сутарэньнях царквы. За таўшчэзнымі непарушнымі сценамі ў каменных трунах пад вечныя малітвы дачакаюцца памерлыя Копці сурмаў Страшнага Суду. Раіна кажа, што сустрэць хаўтуры — добрая

прыкмета, а маці заўсёды баіла: гэта дрэнна, асабліва калі выпраўляемся ў дарогу. Каму верыць?

Скончыўся горад, за Валынкай дарога матлянулася да Буга і пабегла абалоньню. Хоць я і цёпла апранутая, але ўсё адно прабірае холадам, асабліва па нагах. Пальцы наагул зьмерзьлі, я варушу імі, пастукваю чобатам у чобат.

Можа, не найлепшы дзень я выбрала, але ехаць мусова. Справа ў тым, што я гандлюю півам. Ня я сама, вядома, а стары Начко ў маёй ятцы на рынку прадае піва, якое варыць Раіна. Дазволу рады на гэта ня маю. Калі паны радцы мяне прыловяць, дадуць штрафу. Але пакуль не прылавілі, і гаршчок зь пенязямі, паўгрошамі, шэлегамі і грошамі, поўны, як вока, стаіць пад нагамі. Ёсьць у ім трохі і буйной манэта. Накрыўка ягоная шчыльна абмазаная воскам, каб не зацякла вада. Пакуль шафары не пацягліся ад дзьвярэй да дзьвярэй па падаткі, я хачу адвезьці ды закапаць «піўныя» грошы пад адной такой прыкметнай хваінай. Яна расьце на пагорку, куды не даходзіць вада ў паводку, не пры дарозе, але й ня ў лесе, і, самае галоўнае, пад яе каранямі ўтварылася нара, куды лёгка можна схаваць гаршчок. Калі закрыць гальлём ды ігліцай — і знаку не застанецца. Хай ляжыць тут, гэта надзейней, чым трымаць у доме.

Увесну забяру.

Ружовы межавы камень Вуцявага лесу. Тут. Я прывязваю коней да вольхі. Нідзе нікога. Толькі хвоі шумяць над галавой. На ўстылай зямлі, на моху не застаецца сьлядоў. Раптам сэрца маё абмірае: з-за альшыны выглядае белая жанчына ў высокай намітцы, а на плячы ў яе каса... Але не, гэта толькі гульня халоднага сонца і ценю. Яшчэ раз пільна агледзеўшыся, хаваю гаршчок у нару, закладаю яе гальлём і вяртаюся да коней. Усё, справа зробленая.

Ці не заехаць цяпер у Страдчэ? Паўдарогі ж ужо праехала. Пабачу, што там і як, — лішні раз не зашкодзіць. Ці абмалацілі, як загадала, маё жыта?

Ля страдэцкай царквы — натоўп людзей. Няўжо зноў?! А, халера! От ужо колькі гадоў няма мне спакою, бо ў Кастамалотах служыць дзейны і разумны ўніят Ігнат Гогаль, а ў страдэцкай царкве — такі самы разумны і дзейны схізматык Восіп Балабан. А вёскі — цераз Буг гадзіна хады. І б'юцца, б'юцца бясконца, павяртаюць адзін аднаго ў правільную веру. На тамтыя Гогаты кастамалоцкія так пабілі страдэцкіх, што адзін памёр (а быў здатны работнік). А страдэцкія на Івана загналі кастамалоцкіх у млын і падсеклі палі. Дык сцены паваліліся, і млынарскі струмант пабіўся. Усё на мяне, на мае грошы

растрата. Колькі разоў папярэджвала, каб сціхлі ўжо, — але зноў за сваё! Ну ж, чакайце!

Мяне заўважылі: мужыкі, якія з кіямі ў руках стаялі дзьвюма чорнымі кучамі, паздымалі шапкі і ўкленчылі, а папы заспяшаліся насустрач.

— Міласьцівая пані, — завёў Балабан, — абарані верных ад напасці і гвалту...

Кароткай сваёй пугай сьцебанула я, саскокваючы з фурманкі, і Балабана, і Гогаля. Гэта ў мяне ад бацькі — калі што не па-мойму, я шалею ўмомант.

— Я цябе абараню! Я ня буду глядзець, хто тут уваскрослы Налівайка, а хто па паводзінах купец!

Пуга лётала ва ўсе бакі. Папы кінуліся прэч, а за імі і мужыкі.

— Вы ў мяне навучыцеся маліцца, я вам дам і сымбаль, і догматы!

Мужыкі беглі хавацца. Гогаль пырснуў у кусты, а Балабан, не азіраючыся, подбегам — за плот. Страдэцкі стараста Яраш, добра ведаючы, што я хутка супакойваюся, туляўся воддаль, не ўцякаючы, але й не падыходзячы бліжэй. Ягоныя босыя ногі пачырванелі, а валасы, пастрыжаныя ў скобку, раскудлаціліся. Нос ён падціраў шапкай.

— Яраш, гад халерны! Цэрквы дзеліце? А жыта, што на тым тыдні трэ везьці будзе, змалацілі?

— Усё, пані, змалацілі, заўтра павязём. Жыта ўсё ў сьвірне, як сьляза, чыстае! Не сварыся!

— Ня вартыя міласцівай пані такія паводзіны! Недаравальна падымаць руку на слугу Божага, у прысутнасці паствы тым больш. Я буду скардзіцца ў суд! — вылез з-за плоту Балабан, бачачы, што справа суцішылася.

— Хоць каралю! А калі яшчэ раз збунтуеш сяло, прыеду з вартай, зьдзяру зь цябе порткі і такіх кіёў дам, што дупа запухне! Помні гэта!

* * *

Забавілася я ў Страдчы. Задурылі галаву вучоныя папы. Калі сядала ў фурманку, сонца ўжо стаяла над самым лесам. Яраш насылаўся быў ехаць са мной, але я адмовілася. І неўзабаве пашкадавала. Чырвоны пас за Бугам згасаў. Цемра падымалася ад зямлі да сінезялёнага неба хутчэй, чым беглі стомленыя за дзень коні, белы месяц наліўся золатам, а холад упаў такі, што я ўжо не адчувала пальцаў ні на руках, ні на нагах. Вострыя зоркі замільгалі над сьветам. Зьнямелымі рукамі я ледзь трымала лейцы.

Месяцавае святло заліло дарогу, цень, густы, як пустата, хаваўся пад дрэвамі. Калі да Валынкі было зусім блізка, коні раптам сталі. Не выпускаючы лейцаў з рук, я прыўзьнялася. На ўзбочыне ляжаў чалавек. Здаецца, наш шафар Марцін. Здаецца, мёртвы. Мне падалося, што на шэрым паўкаптане Марціна я бачу чорныя плямы крыві. Зьлезьці паглядзець, мо жывы яшчэ? Але коні неспакойныя, хрыпяць, ірвуцца.

Марцін нібыта варухнуўся... Мы зь ім страшна пацапаліся летась: я не хацела плаціць падатку. Занятак у шафараў такі, што сварацца яны з усімі і ўсе зь імі... Дазьбіраўся. Пэўна, вяртаўся з падаткамі з Жукоў. Цяпер, у галодныя гады, ні за шэлег зарэжуць... А мо забойца не пасьпеў уцячы і цікуе мяне? Сэрца маё захаланула. І тут раптам ля дарогі, па левую руку, завыў воўк.

Коні рванулiся так, што я павалiлася на лаву. Жах сьмерцi гнаў iх. Выцьце пачулася яшчэ i справа, i трохi наперадзе, i зьлева. Здавалася, ваўкi вылi па ўсiм лесе пад кожным дрэвам. Раптам усё змоўкла. Я ведала, што гэта азначае: зараз зграя нападзе. Шэрыя камякi з вогненнымi вачыма i вострымi iкламi аблепяць коней... З маёй пугай ды сякеркай мне зь iмi ня справiцца. Памерцi, адчуваючы, як iклы рвуць тваё мяса!.. Загiнуць, так i не паспеўшы дазнацца, навошта жыла i грашыла, так i не зразумеўшы, для чаго Бог дае жыцьцё i чаму яго забiрае! Страх спляжыў мой розум, i сiла пакiнула мяне.

— Там, там для вас пажыва! Там ляжыць чалавек! — закрычала я, тыцкаючы рукой назад. — Туды бяжыце, не чапайце нас! Туды, там ежа!..

Крык прапаў у цемрадзi. Выратаваць мяне мог толькi цуд. Коні ляцелi. Я зноў закрычала. Грукат капытоў, мой крык, маё рыданьне ды ваўкi на залiтай начным сьвятлом дарозе.

## 2. Дождж у маі

Гэта мы. Сьветка Харчанка, Ленка Храмчанка i я, Жэнька Каршалюк, — неразводная тройца з 11-й «А». Бiлеты мы купiлi загадзя. А маглi б не купляць, Алег правёў бы нас i так. Але ж ён ня ведаў, што будзе тут дзяжурыць. I вось, за дваццаць хвiлiнаў да канцэрту, мы дысцыплiнавана селi на свае месцы. Ленка, вядома, пасярэдзiне — яна ў нас лiдэрка, усё самае лепшае — ёй. Алег, стоячы ў праходзе, незаўважна для астатнiх пасмiхаецца Ленцы. Яна прыгожая. На ейным тле губляецца нават вельмi сымпатычненькая Сьветка, а што

ўжо пра мяне казаць з маім гарбатым носам і вуснамі, бы шчыліна ў паштовай скрыні.

Андрэй Каршалюк, які сёньня выступае, мой далёкі сваяк. Дзяды нашыя спалі на адным запечку, бацькі гулялі ў бэрыка на адной вуліцы, а я толькі зрэдку бачыла стрыечнага брата па тэлевізары. Але я лепш заб'юся, чым распавяду сяброўкам пра гэтае сваяцтва. Ленка пачне распытваць, зьдзіўляцца, пацягне за кулісы знаёміцца, запросіць яго да нас у школу...

— Добры дзень, дарагія землякі, — сьпявак старанна вымаўляў загадзя вывучаныя беларускія словы, падкрэсліваючы сваю асаблівую блізкасць да публікі ў залі. — Я вельмі рады сьпяваць сёньня для вас у сваім родным горадзе...

Ён ужо сярэдняга веку. Калі быў маладзейшы, казаў: «Не спрашивайте меня о Бресте. Родным городом для меня стал Ленинград, и я считаю себя ленинградцем. С Брестом меня ничего не связывает».

Сьпявак працаваў. Ён перайшоў на звыклую расейскую, жартаваў, расказаў колькі гісторыяў са свайго жыцьця ў Пецярбургу і Стакгольме, спяваў сваім і не сваім голасам, граў на піяніна. Пот ліўся зь яго ручаямі. Заля раз-пораз выбухала аплядысмэнтамі. Зрабілася душна.

Час ад часу ён не трапляў на верхнія ноты, але гэта яму даравалі:

Оглянуться нельзя, чтоб увидеть свой след...
И зовет меня город, которого нет...

Артыст — праваднік магічных гукаў. Вось чаму нават у нехлямяжых музыкаў натоўпы закаханых прыхільніц. Любяць не артыстаў, а магічныя гукі ў іх... Сьпявак закахаў у сябе залю. Але мне нешта перашкаджала паддацца гэтай магіі. Можа, голас крыві?

Сьціхлі авацыі, мы выйшлі на ганак. На захадзе гадавалася (цьфу-цьфу, каб не сурочыць) доўгачаканая хмара. Алег павёз нас дадому на патрульнай машыне. На новым мосьце мы навярнулі за Мухавец. Шырокая дарога бяжыць тут між пустак, гораў намытага з ракі пяску і хмызоў, дзе бегаюць фазаны; агні гораду адбіваюцца ў люстры ракі. Да мытні стаіць чарга. «Двое сутак стаяць», — сказаў Алег. Ён разьбіраецца, бо часам там дзяжурыць. Ужо каля самай Валынкі Алег рэзка тармазнуў, і я далася лбом аб пярэдняе сядзеньне. Проста на шашы ляжала жанчына. П'яная. Брудная куртка, падраныя чорныя панчохі. Яна спрабавала ўстаць, але з карачак ізноў валілася.

— Найлепшае, што для яе можна зрабіць, — пераехаць машынай, — сказала Ленка.

Мы прамаўчалі. Алег праз рацыю выклікаў патруль. Трэ было дачакацца, пакуль яны прыедуць.

Жанчына аціхла і не варушылася. Алег падняў торбачку, дастаў адтуль грошы, пералічыў і, памарудзіўшы, паклаў назад.

Да майго дому адтуль дзесяць хвілінаў хады, я разьвіталася і пайшла. Каб не трапляць у непрыемнае сьвятло фараў, спусьцілася з шашы на сьцяжынку ў дол. Над Валынкай плыў пах бэзу, але для вясновай ідыліі не ставала дажджу. Дажджы апошнім часам робяцца праблемай.

Бабуля чакала мяне, каб разам павячэраць. Калі бацькоў няма, мы не абцяжарваем сябе сэрвіроўкай. Патэльня са смалюхамі, міска капусты, дзьве лыжкі. Ямо з аднае патэльні, з аднае міскі. Калі я расказвала пра канцэрт, на вуліцы пачуўся ціхі шоргат, потым закапала са страхі.

— Дождж у маі? — спытала я. Бабуля ўсміхнулася.

«Як дождж у маю, то агранома пах...ю» — звычайная бабіна вясновая прымаўка. Маці заўсёды злуе, калі чуе. Маці выкладае расейскую літаратуру ў школе і лічыць, што сьвякроўка яе дыскрэдытуе. Апатэозам гэтай дыскрэдытацыі быў выпадак зь песенькай.

Піянэры мусілі запісваць успаміны вэтэранаў пра баявыя і працоўныя подзьвігі, дзеля чаго цягаліся па хатах. Хрумстаючы грушамі, яны з захапленнем выслухалі бабіну гісторыю пра аканома з Жукоў. Замалада бабуля разам зь сяброўкамі наймалася туды палоць гуркі. Малады аканом раз пажартаваў быў зь дзяўчат, прапанаваўшы засьпяваць разам новую модную песеньку.

— Навучу вас, — казаў. — Вам тшэба толькі рэпэтоваць: «Я перва, я перва», а сьпеваць буду я...

— Дэшчык пада, покрапуе... — павольна, напеўна зацягнуў ён.

— Я перва, я перва... — туравалі дурныя дзяўчаты.

— Хто мне в дупу поцалуе? — хутка скончыў падступны аканом.

— Я перва, я перва...

Песенька мела посьпех, дарма што з часу яе стварэння мінула шэсцьдзесят гадоў. Дні са тры ў школе толькі і чулася: «Дэшчык пада, покрапуе...» — і маці казала, што адчувае сябе вельмі няёмка, бо ўсе, канечне, ведалі, адкуль пошасць.

Маці вельмі пакутуе, што вымушаная жыць разам з бабуляй, такой неадукаванай і цынічнай. На свой дом грошай у бацькоў няма, мусіць, таму маці вырашыла ўзяць хоць бы дачу, каб быць там гаспадыняй... Цяпер яна з энтузіязмам рыецца на дзялцы, пад самым Вуцявым лесам.

Бабуля пагнала мяне спаць. Сама яна спіць не распранаючыся, і як бы рана я ні прачнулася, у печы будзе ўжо выпалена, сняданак звараны, а яе я засьпею з матыкай на гародзе.

Зрэдку зь іншага краю Валынкі да бабулі прыходзіць дзед Міхал.

Да апошняга ён хадзіў зімой і летам у кірзавых чобатах, але цяпер перайшоў на паношаныя красоўкі ўнука. Мяне ён шчыра не заўважае, а да бабулі заляцаецца — намагаецца то абняць, то ўшчыкнуць. Стоячы пад яблыняй, бабуля смяецца і адводзіць яго руку локцем. Яшчэ нядаўна да іхных сходак далучалася Волька Лёндан, або Золота Мова, якая даносіла да нас навіны Бі-Бі-Сі, але летась яна памерла. Красоўкі дзеду дасталіся ад унука, які служыў па кантракце ў Чачэніі дый загінуў там. Але пахавалі яго не ў Расеі, дзе ён жыў, а тут, у нас. Дзед Міхал не зьмяняецца, колькі я яго памятаю. Адно што красоўкі зьявіліся...

Сёлета мы сканчаем школу. Што мне рабіць далей — хвалюе нават бабу. Яна раіць пайсьці туды, дзе выпрабляюць кілбасу або тарты. Бацькі бачаць мяне ў нашым пэдунівэрсытэце імя Пушкіна або ў тэхнічным унівэрсытэце на факультэце водазабесьпячэньня й каналізацыі, бо туды лягчэй паступіць. Ленка паедзе ў Менск, а Сьветка хоча ў мэдвучэльню.

Чаго хачу я — ня ведаю. Зрэшты, таго самага хоча і Бог. Дык вось, з гэтай дачай была прыгода. Маці знайшла там скарб. Хоць які там скарб — ня золата, не дыямэнты, нічога каштоўнага. Гаршчок ляжаў проста ў зямлі, і, капаючы грады, маці растаўкла яго рыдлёўкай. Там былі старыя срэбныя манэты, некаторыя ўшчэнт сцёртыя, на іншых добра бачныя вастраносыя профілі каралеў, крыжы, віньеткі, вершнікі. Маці здала скарб дзяржаве. Ёй заплацілі нешта, і яна пахвалілася ў інтэрвію «Вячэрняму Брэсту», што патраціла гэтыя грошы на кнігі, патрэбныя ёй для заняткаў. Так і было. На дачы прыслалі мо роту салдатаў, якія пад кіраўніцтвам цывільнага тыпа ў акулярах зьдзерлі дзірван і перакапалі ўсё чыста, але нічога больш не знайшлі. Таму я была вельмі радая, што мне ўдалося своечасова схаваць ад усіх адзіную залатую манэту з гаршка. На ёй адціснуты ў поўны рост уладны чалавек з шабляй і ў кароне. Вельмі асцярожна, каб ня даць ніякіх падставаў для падазрэньняў, па нумізматычным каталегу ў бібліятэцы я спраўдзіла, што манэта мая завецца дукат, а рыцар з шабляй — кароль Жыгімонт III Ваза. Цяпер час ад часу я дастаю яе і разглядаю караля ды надпіс: 1592. Пра манэту ніхто ня ведае, нават Ленка са Сьветкай. Ня тое каб я ім не давярала, але...

Сьветка, мусіць, яе не ацаніла б, а Ленка, наадварот, падняла б непатрэбны лямант, нарабіла б розгаласу, і, так ці інакш, урэшце

манэту ў мяне адабралі б. А дукат і кароль — гэта толькі мае. Калі я ўглядаюся ў залаты, што трапіў да мяне зь зямлі, мне часам здаецца, што нехта хоча мне нешта сказаць, я амаль чую нібыта шэпт, нібыта крык... Часам я нават разьбіраю словы, але тут ці за акном гагаюць гусі, або заглядае маці і кажа, што ў мяне ў пакоі засьмечана, або прыходзіць баба, совае мне ў рукі кошык з расадай капусты і загадвае зараз жа аднесьці Міхалу. І я, схаваўшы манэту, махаю на гусей, або пачынаю зьбіраць з падлогі паперкі, або прымаю з заўсёды перапэцканых зямлёй бабуліных рук кошык і паслухмяна брыду па Валынцы. Садзіць капусту самы час. Сьвет пасля дажджу круціцца вакол мяне і, памахваючы кошыкам, я думаю, што наперадзе ляжыць цэлае жыцьцё, якое б яно ні было.

У каталёгу пазначаны і актуальны кошт маготаў. Згодна зь ім, мой дукат каштуе дастаткова, каб аплаціць навучанне ў адной з тых шматлікіх шарашкіных кантораў, якія даюць студыёзам «дыплём эўрапейскага ўзору». Але я не прадам сваёй манэта. Я нашарую яе да яснага бліску, і, калі сонечныя — або, можа, месяцовыя — зайчыкі заскачуць па сценах майго пакоя, кароль на рэвэрсе ажыве і павядзе доўгім носам, сто семдзесят сем камяніц гораду вытчуцца з паветра на месцы руін крэпасьці-героя і я нарэшце выразна пачую словы, што дагэтуль не магла разабраць. Словы, якіх я чакаю.

*2003*

## Тацяна Янаўна і яе агава

— Як тэн час леці! — стагнаў мой польскі партнэр Марак. — Халера! Панове! Таньчымы на вулькане! — і, зашпіліўшы гузік марынаркі, запрашаў на танец каго з прадавачак.

Тацяна Янаўна пасміхалася, гледзячы на ягоны зьбіты набок гальштук і чыста польскія абцасы.

У рэстарацыі на дваццаць другім паверсе гатэлю «Беларусь» мы адзначалі маё саракагодзьдзе. Я ведаў, што прадавачкі зьбіралі грошы мне на падарунак, і вырашыў замест звычных сабантуяў у задніх пакоях магазынчыкаў запрасіць усіх у гэтую рэстарацыю, якая так шыкоўна плыве над горадам. Тацяна Янаўна спачатку была адмовілася:

— Што вы, Юрачка, мне гэта ўжо не па гадах — у рэстараны хадзіць!

Але калі я падкрэсьліў, што хацеў бы бачыць яе абавязкова, прычым у якасьці сваёй дамы і гаспадыні вечару, пагадзілася. Пра жонку і не папыталася — пра мае праблемы з жонкай ведалі ўсе, хоць і ня ўсё. Зрэшты, што там ведаць. Сучка. Плятынавая сучка. Ідыётка. Быў час, калі на маіх грашах яна так увайшла ў сілу, аж аднойчы абвясціла мне, што, маўляў, пакахала другога і сыходзіць да яго. Я пасяброўску, — разумееце, па-сяброўску, — здушыў яе за шыю, трошкі падняў над падлогай і прыціснуў да сцяны:

— Толькі дрыгні мне, толькі дрыгні! — сказаў я тады.

Яна абмачылася са страху, літаральна.

Я думаў, што дзеля дзяцей сям'я павінна захавацца. Мне цяжка апісаць тую агіду, якую зь цягам часу стала выклікаць жонка: яе расфарбаваная морда, пах, скура. Успаміны пра нашу фізычную блізкасьць правакавалі паўнавартасны прыступ ірвоты. У поўнай згодзе з законамі філязофіі, мая агіда ад асобнага перайшла да атульнага: ірвотны рэфлекс пачалі выклікаць у мяне ўсе жанчыны. Усе, здавалася, былі падобныя да жонкі. Доўгі час я ня мог наняць на працу прадавачку ў новы магазын, хоць па аб'яве кожны дзень зьяўляўся тузін кандыдатак — сучак і ідыётак. Мяне ад іх перавяртала зь сярэдзіны — бліскучыя маечкі, дупкі, абцягнутыя джынсамі, распушчаныя валасы, распусныя манеры, абсалютна тупыя пысы й прагныя вочы. У аб'яве было пазначана, што батанічная адукацыя і досьвед работы з кветкамі абавязковыя, але ніводная не магла адказаць нават на самае простенькае пытаньне, што тычылася догляду раслін.

Тацяне Янаўне на той час, калі мы пазнаёміліся, было семдзесят восем гадоў. Адчыніліся дзьверы, і маленькая ссохлая старая, уся ў

зморшчках, у хустачцы пад цыганку, у кедах і з кіёчкам заявіла, што яна па аб'яве наконт працы.

Сеўшы, дастала зь невялічкага клуначка гаршчэчак з кволай расьлінкай, паставіла на стол і паглядзела на мяне запытальна, як экзамэнатар на абітурыента.

Мы паразумеліся адразу ж.

— Вы прынятыя, — сказаў я. — Заўтра прыходзьце а дзявятай.

Яна кіўнула і паднялася, каб ісьці. Гаршчэчак забрала з сабой.

У гаршчэчку тым, бачыце, сядзела агава жоута-бурая. Я чуў, што гэтая расліна ў некага ў Менску ёсьць, але дасюль ня бачыў. Яна страшэнна рэдкая, бо мае адну дзіўную для свету расьлінаў якасьць. Звычайна, калі чалавек пачынае даглядаць дзікія расліны, яны робяцца пышнейшымі, прыгажэйшымі і большымі, чым у прыродзе. Вядома, калі чалавек можа забяспечыць ім патрэбныя ўмовы. А вось агава жоўта-бурая, у дзікім выглядзе абсалютна непатрабавальная, нават аскетычная, як і ўсе пустэльнікі, у гаршку расьце зь вялікай неахвотай, як бы яе ні песьцілі. Гэтая непрэзэнтабэльная на выгляд агава ў калекцыі — сведчаньне найвышэйшага кветкаводчага пілатажу, а таксама і нечага большага.

Хутка я на траціну падвысіў Тацяне Янауне заробак: яна прадавала кветак многа, як ніхто. Я часта прыяжджаў у яе павільёнчык ля вакзалу. Мне падабалася назіраць, як старая гаворыць з пакупнікамі (якіх яна, падобна, бачыла навылет), а калі нікога няма — завіхаецца каля раслін, абразаючы сухія кончыкі пальмавых лістоў, зразаючы адцвілыя галоўкі гардэніі, насмароўваючы воскам магутныя лісты манстэры. Старая звычайна рабіла мне каву, і я бязьдзейна сядзеў з кубкам ля прылаўку; яна ж ні хвіліны не губляла ўпустую. Паступова мы зрабіліся сябрамі — побач зь ёй мая агіда да жанчын меншала.

Аднойчы я запытаўся:

— Дык скуль жа ў Вас агава жоўта-бурая, Тацяна Янаўна?

Яна пасьміхнулася.

— У саракавым годзе яе прыслалі ў наш батанічны сад па абмене з Мадрыду, а я якраз тады прыйшла працаваць у аддзел сукулентаў лябаранткай. Калі пачалася вайна і стала зразумела, што аранжарэі зімой ацяпляць немагчыма, супрацоўнікі разабралі па дамох найбольш каштоўныя экзэмпляры расьлін. Мне дасталася гэтая агава.

— Ого, дык яна такая доўгажыхарка? З саракавога году?

— Не, гэта ўжо праправўнучка той гішпанкі, цьвіла чатыры разы.

У агаваў ёсць яшчэ адна дзіўная асаблівасьць: кожная расьліна цьвіце толькі раз у жыцці, даючы суквецьце сапраўды фантастыч-

най прыгажосці, а пасьля памірае. Затое вакол памерлай маці зьяўляюцца маладзенькія атожылкі — дочкі.

Таццяна Янаўна падабалася мне з кожным днём усё больш. Але ведаў я пра яе зусім няшмат, калі запрашаў на свой дзень нараджэньня ў рэстарацыю, што плыве над Менскам. Яна зьявілася туды без традыцыйнай хустачкі — у чорным шаўковым касцюме. Нагавіцы вельмі ёй пасавалі, як і модная стрыжка. Калі я знаёміў яе з Маракам, той замілавана пацалаваў Таццяне Янаўне ручку і запрасіў на вальс.

Мы з Маракам супрацоўнічаем ужо шмат гадоў, а сышліся на глебе непрызнаньня галяндзкай тэхналёгіі. Кветкі ў галяндцаў, канечне, адна ў адну, але праз гэта яны і прайграюць. Дзе тая адрабінка няправільнасці, нерэальнасці, сапсаванасці, у якой і хаваецца душа кветкі, яе сапраўднасць? Ня думайце, што гэта рамантычная бязглузьдзіца: для майго бізнэсу гэта важная частка маркетынг-пляну. Я паставіў на сапраўднасьць і не прайграў, дазволю сабе крышку пахваліцца. Марак якраз прыехаў да мяне, каб дамовіцца пра павелічэньне паставак кветак зь яго гаспадаркі.

Пры канцы вечару я ўзяўся адвезьці маю даму дадому.

— А можа, крыху пакатаемся па горадзе, Таццяна Янаўна? Куды вас павезьці?

— Ведаеце што, Юрачка, — яна на імгненьне задумалася. — Калі так выйшла, давайце паезьдзім па Старажоўцы — я тут не была даўно-даўно, а гэта ж маё дзяцінства.

Я завёў матор. Начны бязьлюдны горад праплываў за вокнамі машыны з сваімі агнямі — адданымі службе ліхтарамі, нэрвовымі рознакаляровымі шыльдамі, самотнымі асветленымі вокнамі.

— А цяпер сюды, калі ласка, Юрачка, і прыпыніцеся. Вось тут стаяў наш дом. Так-так, здаецца, тут: насупраць інфэкцыйнай больніцы, а вось і плот парцалянавага заводу. Тут была яшчэ рэчка, праўда.

Яна трошкі памаўчала, аглядаючыся.

— Дзіўна гэта, вось так, праз столькі гадоў... На гэтым лужку мы пасьвілі карову.

— А ў вас і карова была?

— А як жа! Але яе забіла падчас першай бамбёжкі, і брата, які яе і пасьвіў, таксама. Вось там — бачыце? — расла яблыня, там ён і пахаваны.

— ???

— А што ж вы зьдзіўляецеся, пачыналася вайна, кожны дзень бамбілі, шалёная неразьбярыха, а душна ж было... Тут і закапалі... Адсюль я хадзіла на работу — пехатой, напрасткі, праз Балотную станцыю, у Батанічны сад... Вы калісьці пыталіся пра маю агаву... У сорак

трэцім годзе яна зацьвіла. Я так радавалася тады! Мне карцела паказваць яе ўсім. Я яшчэ кепска знала яе нораў. Наш сусед працаваў у «Беларускай газэце», дык сфатаграфаваў яе і мяне каля кветкі. Здымак зьмясьцілі ў газэце з тэкстоўкай: чароўная беларуская дзяўчына Таньця Катлярчэўская з чароўнай кветкай, якую яна сама выгадавала. А потым мяне арыштавалі за супрацоўніцтва з акупантамі: а як жа, маё фота было ў фашыстоўскім лістку! У лягеры я прабыла да пяцьдзясят трэцяга...

Я бачыў, што яна стараецца стрымацца ад сьлёз, і ўзяў яе худзенькую зморшчаную лапку ў свае рукі.

— Вы, Юрачка, рэдкі чалавек... — памаўчаўшы, яна працягвала.

— Зь лягеру я вярнулася з маленькай дачкой — так выйшла. Ляля нарадзілася за два гады да майго вызваленьня, і мне непраўдападобна пашанцавала, што я не згубіла яе, — звычайна ж лягерных дзяцей адпраўлялі ў дзіцячыя дамы. А можа, і трэ было аддаць? Яна заўсёды была кволенькая, ня тое, што я, сяміжыльная. Можа, там бы яе лепш даглядалі? Але не, і там дзеці, расказвалі, пухлі з голаду... І я, натуральна, ніколі больш яе не пабачыла б. А яна маленькая была такая пацешная... Не, не магла я яе аддаць. Але калі яна захварэла і дактары сказалі, што хвароба ад такога дзяцінства і што больш за год яна не працягне, я вінавяціла сябе. Ёй ішоў дваццаць шосты. Перад яе смерцю агава зацьвіла, і, лежачы на ложку, зьбітым з дошак, мая дачушка ў апошнія дні глядзела на яе чырвона-жоўтае суквецьце. А дачка яе, мая ўнучка, поўзала па падлозе...

Пакуль я была ў лягеры, памерлі мае бацькі, і суседка, якая жыла ў другой палове хаты, заняла і нашы пакоі. Яна, ясна, не пусціла мяне, але аддала сякія-такія рэчы і агаву таксама. Мне ўдалося ўладкавацца на маторны завод, у ліцейку, нам далі закуток у бараку. Там мы і жылі. Ляля была такой ціхай, напалоханай... Працавала швачкай на «Камсамолцы». Ня ведаеце, што гэта? Цяпер «Мілавіца». Ня знаю, хто бацька яе дачкі, як у яе там адбылося, проста стала заўважаць, што Ляля стала яшчэ больш бледнай, яшчэ больш напалоханай, а потым аднойчы расплакалася і сказала, што ў яе будзе дзіця... А Гапка ўдалася ў мяне — жвавая, выжла проста. Яна стала спартоўкай, вядомай — Агрыпіна Крыжакова па мужу, чулі? Яна і тварам да мяне падобная, і ростам. Гэта яе касцюм цяпер на мне. Ведаеце, Юрачка, — старая паглядзела ня мяне запытальна, і яе выцьвілыя вочы ненатуральна бліснулі ў цемры, — мы можам да яе заехаць, вы паглядзіце самі.

Я сумеўся: светлы змысл, падумалася мне, здрадзіў Тацяне Янаўне. Старэчыя правалы ў памяці? Я знаў з газэтаў, што біятляністка

Крыжакова ня так даўно загінула ў аўтакатастрофе разам з сваім мужам.

— Паехалі ў другую больніцу, — спакойна прапанавала старая.

У бальніцы яе ведалі. Дзяжурны на ўваходзе ветліва кіўнуў нам і падаў два халаты.

Скляпеністыя калідоры былога манастыра, аркі, таўшчэзныя сцены, цьмянае начное сьвятло.

Агрыпіна Крыжакова ляжала ў асобнай палаце. Яна сапраўды была падобная да сваёй бабулі. Вострыя рысы твару. Вочы заплюшчаныя. Белая рука зь сінімі жылкамі. Вялізны жывот. Халодныя блікі на кафляных сценах. Але гэта не магіла.

Я прыгаломшана зіркаў то па маленькую старую ў чорным, то на яе белую-белую ўнучку.

— Калі пасьля аварыі я прыехала ў больніцу, Саша быў ужо мёртвы. А пра Гапу дактары сказалі: жыць ня будзе, траўмы несумяшчальныя з жыцьцём. Па сутнасці, яна ўжо нежывая. Але ёсьць магчымасць падтрымліваць у арганізьме жыцьцёвыя працэсы, пакуль не падгадуецца дзіця. Тады ёй зробяць Кесарава. Тады мая ўнучка памрэ яшчэ раз. Але яе дачка, мая праўнучка, будзе жыць. Доктар, які да мяне выйшаў, сказаў, што рашэньне трэба прымаць неадкладна, — і я пагадзілася. І адразу ж пайшла наймацца на работу, бо дактарам давялося заплаціць амаль усё, што было ў Сашы з Гапай…

Усё ідзе нармальна, кажуць мне дактары, калі тут дарэчы такое слова. Засталося два тыдні. Але ведаеце што, Юрачка? — старая прыцішыла голас. — На агаве зьявіўся кветканос. Яна зьбіраецца зацьвісьці. Я так і не зразумела гэтай расліны. Ведаю толькі, што яна цьвіла перад самымі страшнымі падзеямі ў маім жыцьці. Але што гэта было? Помсьціла яна мне за сваю няволю? Ці, наадварот, была ўдзячная за жыцьцё і папярэджвала, каб я рыхтавалася? Ня ведаю. Цьвіла перад тым, як мяне пасадзілі, перад смерцю Лялі, незадоўга перад аварыяй, а цяпер зусім маладая расліна зноў зацьвітае… Яна вястуе мне смерць.

— Тацяна Янаўна…

— Не, Юрачка, ня трэба нічога казаць.

Старая падышла да ложка і ціхім, нязграбным рухам, старэчай ссохлай рукой пагладзіла па шчацэ сваю Гапку — атожылак, які паміраў раней за мацярынскую расліну, пупырышак, які, смерцю сьмерць зваяваўшы, веставаў жыцьцё — усё тое ж таямнічае, цудоўнае, невыноснае, аскомнае, тупое жыцьцё, якое, калі ўсё будзе нармальна, пачнецца праз два тыдні для праўнучкі Тацяны Янаўны Катлярчэўскай.

* * *

Старая сапраўды памерла. На яе дамавіну я паклаў зрэзаны кветканос агавы — зіхатлівы чырвона-жоўты прамень пад нізкім зімовым небам. Не стае мне яе. Не стае яе працы, яе спакойнага розуму, не стае яе на экране — звычайна яна была ў першых шэрагах фронтаўцаў-мітынгоўцаў і трапляла ў тэлевізійную карцінку.

Праўда, яе мова не памерла разам зь ёю: я ўвёў надбаўку за карыстаньне беларускай і цяпер мае прадавачкі дзекаюць як адна. Дарэчы, гэта, здаецца, пайшло на карысць іміджу фірмы.

А дзяўчынку я ўзяў за дачку, выправіўшы ўсе неабходныя дакумэнты яшчэ пры жыцьці Тацяны Янаўны. Жонка ўсчала была вэрхал, і я яе папёр. Хай, блін, ідзе да свайго хахаля (уяўляю, як ён узрадуецца!). Агаву аднёс у Батанічны сад. Некалі мне хацелася мець яе ў сябе, я нават спадзяваўся, што старая падорыць мне атожылак на дзень нараджэньня, але пасьля ўсяго, што я цяпер ведаў... Ну яе. Падыходзіць кожны дзень з страхам да падваконьня і заглядаць у вазон... Хай лепш вяртаецца ў Батанічны сад, куды яе калісь прыслалі па абмене з Мадрыду.

*2003*

## Спецыяліст па рамантыцы

— Які жах! — вырвалася ў мяне адрухова, і суседка павярнула галаву.

Таксама адрухова я прыкрыў морду нумарам «La palabra». Больш за ўсё мне зараз хацелася ўціснуцца ў плястыкавы шэзьлёнг ды прыкінуцца матрацам. Суседка глядзела зь цікавасцю.

— Калі ласка, устаньце перада мной, а то, крый божа, ён мяне пазнае! — заблагаў я шэптам, зьвяртаючыся да яе. — Закрыйце мяне ад яго, прашу вас, — падбародзьдзем і вачыма я паказаў на Гансала.

Суседка — відаць, з тых, хто ніколі не адмаўляецца дапамагчы блізкаму, — паслухмяна паднялася і заняла такую пазыцыю, каб максімальна закрыць мяне сваімі немізэрнымі формамі ад магчымага позірку Гансала. Досыць тыповая камічнасць (ці камічная тыповасць) гэтага кавалера сярэдняга веку з акруглым мазалём, лысага з бардзюрам, на тонкіх махнатых ножках, які, заграбаючы пляжнымі пантофлямі, задаволены ўсім, крочыў удалячынь уздоўж берага, выклікала на яе поўных вуснах лёгкую ўсьмешку. Калі фігура досыць аддалілася, я уздыхнуў з палёгкай.

— Шчыры вам дзякуй. Вы мяне выратавалі.

Яна паглядзела на мяне таксама з усмешкай, але, здаецца, ня ўбачыла ўва мне нічога камічнага і адказала:

— Няма за што. Але хто гэта быў? Ваш крэдытор? Пацыент, якому вы памылкова выдалілі гіпофіз? Канкурэнт, які на вас палюе?

Яе ангельская, як і мая, патыхала International House'аМ. Я пачухаў патыліцу.

— Не, гэта... як гэта растлумачыць, — я падбіраў словы і таму гаварыў павольна, — гэта мой знаёмы спэц па рамантыцы.

— Спэц па рамантыцы?

— Як гэта лепш сказаць?.. Аднак ці не адмовіліся б вы ад кілішка віна? — прапанаваў я.

— Вядома, не адмовілася б.

— Я прынясу.

Калі я падаваў ёй келіх зь мясцовым белым, яна затрымала погляд на маім перадплеччы, дзе красаваліся шнары ад раненьня. У яе быў дзіўны позірк: туман яе таямніцы агартаў яго, і вочы зусім не блішчалі.

— Дзякуй. Але як вам удалося атрымаць такія вялікія келіхі? Мне бармэн заўсёды налівае віно ў нешта накшталт напарстка.

— Дык мы зь ім землякі, нам лягчэй дамовіцца, — усьміхнуўся я. — Давайце пазнаёмімся: мяне завуць Артэміё, я з Эквадору.

— Марыя, зь Беларусі.

Амэрыканка, якая загарала побач, глядзела на нас так, як быццам мы пілі не віно, а сінільную кіслату. Тут поўна тлустых амэрыканцаў, якія прыехалі на Каляды да цёплага мора; усе як адзін вядуць яны здаровы лад жыцьця, п'юць толькі мінеральную ваду, а самыя адорвы — напалам разбаўленае кокай піва. Барані іх Госпадзе!

Ранішні ветрык яшчэ не зрабіўся празьмерна гарачым, лёгкія акіянскія хвалі набягалі на пясок, які яшчэ не пасьпеў разагрэцца. Я азірнуўся, каб упэўніцца, што Гансала не вяртаецца.

— Цяпер прыйдзецца або скрадацца, каб ён мяне ня ўбачыў, або зьяжджаць адсюль, — сумна вымавіў я.

— Вы ня любіце рамантыкі? — пацікавілася яна.

— Спэцыялістаў па ёй не люблю. Бачыце, я былы, як гэта... былы партызан. Наўрад ці вы зразумееце, што гэта такое...

— Чаму ж, выдатна зразумею. Мае бабуля зь дзядулем былі партызанамі, як і добры тузін сваякоў; нават сваю Беларусь мы часта называем краінай-партызанкай.

— Вось як? Тады, можа, мне і ўдасца вам растлумачыць. Бачыце, па маладых гадах я быў камандантэ, то бок, як гэта... камандзірам партызанскага атраду ў сябе на радзіме. Атрад быў часткай вялікай паўстанцкай арміі. Мы ставілі сабе на мэце скінуць прадажную ўладу, дабіцца справядлівасці і роўнасьці для ўсіх...

— І ўдалося?

— Уладу мы скінулі, а наконт астатняга... Але слухайце далей. Дык вось, Гансала прыбыў у наш атрад з цэнтру. Яго накіравалі да нас вось як спэцыяліста па рамантыцы, у нас такіх людзей называюць камісара, ён таксама павінен быў пісаць для цэнтральнай паўстанцкай газэты артыкулы пра жыцьцё нашага атраду, якое зь яго прыездам выразна зьмянілася.

Гансала стаў штодзённа праводзіць мітынгі, акрамя таго, гадзіну штораніцы мы мусілі ўголас чытаць тую самую цэнтральную газэту. Хлопцы бурчэлі, але я ніякіх захадаў супраць яго дзейнасьці не рабіў, бо меркаваў, што мушу падпарадкоўвацца рэвалюцыйнай дысцыпліне, тым больш што і без Гансала ў мяне, маладога камандантэ, клопату і згрызот хапала вышэй галавы... Аднойчы ён перавярнуў на сябе кацёл з супам, які меўся стаць вячэрай усяму атраду, а ў другі раз ледзь ня трапіў на зуб алігатару, асабістым прыкладам даводзячы неабходнасць і карыснасць водных працэдур... Нечага такога я ад яго і чакаў.

Хутка ён асвоіўся настолькі, што фантазія яго, дасюль прыціснутая нязвыклымі ўмовамі жыцьця ў сэльве, разгарнулася напоўніцу і

буйным цьветам закрасавала. Раз ён сказаў мне, што у нашым атрадзе не стае рамантычнага, узьнеслага рэвалюцыйнага каханьня, якое магло б, у перakазе яго, Гансала, ператварыцца ў цудоўную аповесьць ды натхняць і клікаць іншых на рэвалюцыйныя подзьвігі. Ён, Гансала, хацеў бы напісаць на гэтую прадуктыўную тэму, але няма фактаў, а хлусіць у сваіх артыкулах ён не прывык.

Я, на жаль, быў у той дзень у гуморы і легкадумна пажартаваў:

— Як гэта няма? А Гітлер і Алісія? Яны яўна нераўнадушныя адно да аднаго, толькі што саромеюцца праявіць свае пачуцці.

Гансала жартаў не разумеў. Ня раз потым мне хацелася вырваць сабе язык за гэтыя словы. Ён успрыняў усё з энтузіязмам і адразу ж ўзяўся за справу.

Гітлер — самы змрочны і страшны выглядам баец атраду. Вялізны, вусаты, з воспінамі на смуглым твары, выключна маўклівы, ён ні з кім не калегаваў і ніколі не цікавіўся дамамі нават самымі маладзенькімі ды жвавымі, а тым больш Алісіяй — адзінай кабетай у атрадзе, нашай паварыхай. Яна здавалася, хутчэй, місай пераваранай паэльі, чым жанчынай. Няпэўнага ўзросту, трохі адсталая разумова, яна днямі праседжвала ля сваіх катлоў, як купа, наразаючы мяса, месячы цеста, смажачы блінцы, каштуючы, прысольваючы, памешваючы, і толькі час ад часу адыходзіла ад свайго вогнішча ў лес, ледзьве рухаючыся на тоўстых, сініх, як ствалы гуаявы, нагах.

Ну дык вось, Гансала ўзяўся за справу.

Ён закінуў мітынгі і палітінфармацыі. Удзень ці ўвечары варта было прайсьці па лягеры, як вы маглі заўважыць яго дзе-небудзь побач з Гітлерам ці паварыхай. Вось, седзячы на паваленай сэйбе, ён начышчае разам з Гітлерам разабраны карабін ды прапаведуе:

— Рэвалюцыйнае каханьне... Рэвалюцыйнае шчасце...

— Рэвалюцыйнае шчасьце... Рэвалюцыйнае каханьне... — глуха даносіцца ад патухлага кухарчынага вогнішча, дзе наш Гансала лушчыць з Алісіяй фасолю.

— Прыгажосць жанчыны зьзяе знутры, — мармоча ён, едучы каля Гітлера на кані.

— Мужчына, які прысвяціў сябе рэвалюцыі, ня мае часу на заляцанні, — зьвесіўшы кароткія ножкі, ён трасецца на перадку кухарчынага фургона і пераконвае яе ў тым, як яе кахае Гітлер, але саромеецца прызнацца. І так бясконца.

Толькі-толькі скончыўся сэзон дажджоў. Зь лесу даносіліся п'яныя воклічы малпаў, спароўваліся вадзяныя зьмеі, зямля набрыняла жыццёвымі сокамі настолькі, што нельга было абаперці на яе вінтоўку — руля адразу ж выпускала карэньчыкі, укрывалася маладымі лісточ-

камі і нава т зацьвітала. Ці гэта паспрыяла, ці красамоўства нашага камісаро, ці — я часам думаю — можа, і сапраўды ў Алісіі ды Гітлера было нейкае ўзаемнае прыцягненне, пра якое ніхто і не здагадваўся, — толькі іх сталі бачыць побач. Цяпер Гітлер, а не Гансала, Гітлер, змрочны, як заўжды, лушчыў з Алісіяй фасолю, насіў ваду і мыў катлы, а вечарамі яны доўга моўчкі праседжвалі разам каля вогнішча, якое паціху згасала. Калі вугольле канчаткова хавалася ў попел, Алісія цяжка падымалася і зьнікала ў сваім фургоне, Гітлер ішоў да сябе ў намёт, а назаўтра ўсё паўтаралася.

Гансала зрабіў выснову, што гэта — каханьне, і з чыстым сумленьнем застрачыў свае артыкульчыкі. «Каханне вядзе ў бой», «Рэвалюцыя дала ім шчасьце», «Мне ня трэба другога лесу» — ён чытаў іх нам уголас, калі яны выходзілі ў газэце.

Аднойчы раніцай Алісія выйшла са свайго фургона, несучы на руках немаўля, захутанае ў адну зь яе спадніц. У мяне адвісла сківіца. Гансала вылупіў вочы. Хлопцы змоўклі, як па камандзе. Паварыха перадала дзіця Гітлеру і ўзялася за прыгатаваньне сняданку. Выраз твару Гітлера трэ было бачыць. Шчасьце — ніякае, праўда, не рэвалюцыйнае, а простае бяздумнае шчасце — зьмякчыла яго, як вільгаць доўгага дажджу можа зьмякчыць выраз твару драўлянай скульптуры. Ён трымаў дзіця на руках і ўсміхаўся.

— Ну што будзем рабіць, дарагі сват? — злосна пацікавіўся я ў Гансала. — Узрошчанае табой каханьне дало плён. Шульке, так бы мовіць. Апошні ветах кахання. Дык што будзем рабіць?

Гансала толькі лыпаў вачыма і нешта не спяшаўся бегчы пісаць артыкул «У атрадзе “Перамога” нарадзілася рэвалюцыйнае дзіця».

Гэтае нечаканае дзіця складала праблему. Відавочна, жанчына зь немаўляткам ня можа жыць у атрадзе, які блукае па сэльве. А куды іх надзець? Сваякоў у Алісіі не было, і ўрэшце мы з Гітлерам вырашылі, што яе трэба адправіць да яго крэўных, у далёкі горны пасёлак. Дарога туды — ня блізкі сьвет і досыць небяспечная. Гітлеру і Алісіі адным яе не адолець, і я вырашыў, што мы правядзём іх туды ўсім атрадам. Па рацыі зьвязаліся з цэнтрам, я данёс пра нашу сітуацыю, атрымаў вымову і дазвол, і мы рушылі. На трэці дзень шляху мы ледзь што ня трапілі ў засаду ўрадавых войскаў. Прыйшлося адступіць і схавацца ў балоце. Трэ было затаіцца, і тады нас не заўважылі б. У адваротным выпадку давялося б прыняць вельмі няроўны бой у нязручнай пазыцыі — урадавы атрад быў нашмат большы за наш ды ішоў з гары, а мы сядзелі па пояс у вадзе і тузінамі аддзіралі зь сябе п'явак, што адразу зноў прысмокталіся да целаў. Адступіць далей у балота мы не маглі — дрыгва.

Пахаваўшыся за карчамі, усе замерлі.

І тут нечакана раскрычаўся хлопчык. Ён не хацеў браць цыцку, круціў галоўкай і крычаў штохвіліны мацней. Мы ўжо бачылі на дарозе ворагаў. Вось-вось яны маглі пачуць дзіцячы крык і выявіць нас. І тады нам каюк.

Белы, але з агнём у вачах, Гансала падступіў да Алісіі. Ён запатрабаваў праявіць рэвалюцыйную сьвядомасьць. Дзіця загубіць увесь атрад. Дзеля ўсіх, дзеля рэвалюцыі трэба ахвяраваць адным. Дзіця трэба прымусіць змоўкнуць. Ён, Гансала, чытаў пра такія выпадкі. Дзіця трэ... Ён не пасьпеў дагаварыць. Гітлер агрэў яго ззаду прыкладам па галаве, падхапіў пад пахі абмяклае цела і прываліў да чахлага балотнага дрэўца. Хлопчык, як пад уражаннем ад татавага ўчынку, раптам змоўк, знайшоў нарэшце сасок і зацмокаў. Салдаты падыходзілі ўсё бліжэй. Запанавала напружаная цішыня.

Калі яны ўжо амаль прайшлі, калі я ужо хацеў уздыхнуць з палёгкай, раптам прагучала каманда «Стой!». Іхні камандзір вырашыў зрабіць прывал у цяньку вялікіх кебрачаў ды канщуараў, што расьлі ўздоўж дарогі. Салдаты зламалі строй, пасядалі, разбрыліся...

Хто з маіх байцоў моўчкі маліўся Богу, хто таксама моўчкі праклінаў усё на сьвеце. Заварушыўся і расплюшчыў вочы Гансала. Хлопчык адарваўся ад мацярынскай цыцкі і зморшчыўся... Гітлер пагрозьліва падсунуўся да камісара...

Гансала дзіка азірнуўся. Два салдаты падышлі дзеля нейкай трасцы зусім блізка да нас. Ня ведаю, што Гансала падалося спрасонку, але замест таго, каб маўчаць ды сапці ў дзьве дзіркі, ён раптам зароў рэвалюцыйную песьню і стрэліў у паветра. Гэта было настолькі нечакана, што я аж здрыгануўся. У наступны момант я кінуўся наперад, хлопцы за мной, і загрымеў бой — а куды было падзецца? Самае цікавае, што гэты самы дзікі і недарэчны бой, у якім мне давялося ўдзельнічаць, аказаўся і самым кароткім. Агаломшаныя раптоўным нападам, салдаты нават не паспелі расхапаць сваю зброю. Мы ўзялі большасць зь іх у палон, і адзіным параненым з нашага боку аказаўся я — іх камандзір паспеў пальнуць у мяне перш чым яго самога падстрэлілі.

Мы вярнуліся трохі назад, у горад, каб здаць палонных, а потым ужо пасьпяхова праводзілі Алісію да месца.

— А што ж Гансала? — гледзячы на мяне па-над, краем бакала, спытала Марыя.

— А што Гансала? Пра сваю лебядзіную песьню ў балоце ён надрукаваў вялікі артыкул, пасля чаго кіраўніцтва яго ўзнагародзіла. Я прыклаў усе магчымыя намаганьні, каб яго забралі ад нас на павы-

шэнне, — зь мяне было цалкам досыць і рэвалюцыйнага каханьня, і рэвалюцыйных песень, дый, шчыра кажучы, і самой рэвалюцыі. Хутка, дарэчы, мы дацiснулі ўрад, і партызанская вайна скончылася. На памяць пра сем яе гадоў у мяне засталіся шнары ад таго раненьня. Час ад часу рана ные — і я ўспамінаю нашага камісаро і яго тэорыю рэвалюцыйнага каханьня, што кліча на бой.

— Любоў церпіць доўга, умілажальваецца, любоў не зайздросьціць, не праслаўляе сябе, не ганарыцца, не бушуе, не шукае свайго, не раздражняецца, не намышляе ліха, ня радуецца зь няпраўды, а разам цешыцца зь ісьціны, — працытавала Марыя. — Нічога не гаворыцца пра тое, што каханьне кліча ў бой. Шэсцьдзесят год таму ў іншым балоце каханьне прымусіла майго дзядулю тарарахнуць па мазгаўні іншага камісаро, дзякуючы чаму мой тата таксама застаўся жывы, як і хлопчык Алісіі, — сказала яна, дапіваючы віно. — Дзякуючы чаму потым нарадзілася і я. Але хавайцеся — вунь вяртаецца Гансала.

Я схаваўся. І хаваўся на працягу двух тыдняў калядных вакацый. На Вігілію нам з Марыяй прыйшлося сысці з гатэлю — з гэтай жа прычыны. Мы бадзяліся па горадзе — мігацелі калядныя агеньчыкі, — потым выйшлі на бераг акіяну. За гэтыя тыдні я ўжо расказаў Марыі многае са свайго жыцьця — сам ня ведаю, як гэта выйшла. Я ўжо ведаў, што Марыя разьвялася з мужам, таму што праз яго «перастала бачыць веліч і прыгажосць сьвету», ведаў, што жыве яна з дарослай дачкой і працуе ў фірме, якая гандлюе паперай. І што выправілася яна сюды, на другі бок свету, да пірамід зьніклых ацтэкаў, бо адчула, што губляе сэнс жыцьця.

І вось цяпер мы сядзелі на беразе акіяну, які моцна бухаў каля нашых ног, і да ад'езду заставалася тры дні. Я глядзеў на Марыю, маўклівую спадарожніцу, і думаў пра ручнікі адзіноты, палотнішчы тугі, якія зноў закрыюць мае палі сізалю, плянтацыі кавы ды бананаў, калі яна адляціць на свой бок Зямлі. Я чуў шэпт ветру адзіноты ў зарасьніку цукровага трысьнягу, і тут доўгі цень упаў на мяне. Вядома ж, гэта быў ён! Бегчы не было куды. І каб Гансала мяне не пазнаў, я зрабіў тое, што даўно ўжо хацеў, — прыцягнуў да сябе Марыю і моцна пацалаваў.

— Любоў усё пакрывае, усяму верыць, на ўсё спадзяецца, усё пераносіць, — сказаў я, калі, далікатна кашлянуўшы, Гансала прадэфіляваў міма. — Любоў ніколі не мінецца, хоць і прароцтвы спыняцца, і мовы змоўкнуць, і веды скасуюцца. І калі Марыя адлятае ў Беларусь, то любоў ляціць за ёю сьледам. Але, можа, Марыя застанецца са мной у Эквадоры?

Марыя нічога не адказала, але яе вялікія чорныя вочы сьвяціліся ў месяцавым калядным сьвятле.

*2004*

# Блёкпост

## I. Самазабойца

«Я зашкліўся на вайне, — падумаў капітан Насарэнка, глянуўшы на крокусы. — Ня дзіва. Дзіва тое, што гэта адбылося цяпер, а ня дзесяць гадоў таму».

Блізкія горы хаваліся за тонкім вэлюмам дробнага дажджу. Веснавая вада хутка насычала зямлю, і за ноч зь яе выскачылі і зацьвілі крокусы. «Як шагіды. Выскачылі раптам, як шагіды», — падумаў капітан Насарэнка, і гэтае нечаканае параўнаньне, гэтая кароткая думка пацягнула за сабой другую: «Вось і я зацыкліўся на вайне».

Капітан пацёр чырванаватыя стомленыя вочы, яшчэ раз зірнуў на ліловыя кветкі пад тонкім дажджом ды адышоў ад акна. І якраз у гэты момант сяржант Норын — але, менавіта ў гэты момант, калі у зрэнках капітана яшчэ заставаўся фіялетавы, празрысты ад імжы водсьвет поля крокусаў, — сяржант Норын паклікаў капітана знадворку:

— Іван Панкратавіч!

Капітан Насарэнка быў добрым, годным чалавекам. Ён думаў, што ў выпадку зь ім д'яблу ня будзе чым асабліва пахваліцца перад калегамі па працы. Тут, на блёкпосьце, ён рабіў усё, каб з салдатамі ў давераным яму падразьдзяленьні ня здарылася нічога дрэннага. Ён разумеў іх, гэтых голеных хлопчыкаў, і рабіў усё — так, сапраўды, рабіў усё ад яго залежнае, — каб яны адслужылі тут і павярталіся па дамах і каб зь імі нічога ня здарылася. І салдаты таксама ставіліся да капітана хутчэй па-чалавечаму, чым па статуце. Таму і прагучала гэтае «Іван Панкратавіч!», а не належнае «Таварыш капітан!». І Іван Панкратавіч Насарэнка, капітан, выйшаў пад дождж.

Сяржант Норын ведаў, што капітан ня спаў амаль усю ноч, і, каб мог, ня стаў бы турбаваць яго. Але ж, зь іншага боку, сам капітан кожны дзень пры разводцы раз за разам паўтараў: «Пры найменшай няштатнай сітуацыі неадкладна выклікаць мяне», і сяржант Норын мусіў выклікаць, бо сітуацыя выглядала няштатнай.

Штатная — гэта калі праз блёкпост ідуць, гудучы, калены плямістых бэтээраў, і дзяжурны шараговец Ісмаілаў падымае перад імі шлягбаўм; або калі з-за далёкага павароту ўзьнікае цывільнае жыгуляня-дахадзяга, па ўхабах дабіраецца да блёкпосту, зьніжаючы, як таго патрабуюць знакі, хуткасьць да поўнага спынення, чачэнцаў аб-

шукваюць, абшукваюць жыгуляня, і дзяжурны зноў-такі падымае шлягбаўм. Але калі ў машыне едуць жанчыны, то трэба ўжо выклікаць капітана — бо з жанчынамі тут трэба абыходзіцца няштагна. Жанчына на блокпосце — гэта няштатна. «Дзіўныя парадкі ў гэтых чарнажопых, — разважаў сяржант Норын, ужо паклікаўшы капітана і прыглядаючыся да дзяўчыны, што набліжалася да блёкпосту. — Бо ня тое што вобшук — нават погляд на жанчыну можа справакаваць тутэйшых мужчын на мінамётны абстрэл. А самі пры гэтым ніколі ня пойдуць побач з жанчынам ці то з жонкай, ці то зь сястрой, ці то з маці ніколі ня пойдуць побач, а толькі на тры крокі наперадзе. І за адзін стол ня сядуць. І ношку ёй не наднясуць. А паспрабуй ня тое што абшукаць, а проста зірнуць на каторую — і мужык калі ня кінецца з нажом, то ноччу прывалачэ на гару мінамёт». Не, сяржант Норын не разумеў гэтай вайны, не разумеў Пуціна, не разумеў чачэнцаў, не разумеў нічога. І разумець не хацеў. І з тым большымі падставамі гукнуў капітана.

Але гэта ўжо нічому не дапамагло.

Дзяўчына абышла варонку, мінула бэтонныя блёкі, наваленыя вакол шашы, і аказалася не дзяўчынай, а смаркатым дзяўчом, гадоў мо якіх трынаццаць. Ну чатырнаццаць. Але ня болей. Сапраўды смарката. Яна шморгала носам. Капітан і сяржант, два вартавыя блёкпосту, прыглядаліся да яе з прафэсійнай пільнасьцю, узгадаванай не на занятках па псыхалёгіі. Зразумець, каб застацца ў жывых. На блёкпосьце, дзе нават крокусы выскокваюць, як шагіды, зразумець незнаёмку, якая набліжаецца, азначала застацца ў жывых або загінуць, пакінуць яе ў жывых або забіць. У куртатай чорнай куртачцы, з мокрымі доўгімі валасамі, дзяўчынка была вельмі прыгожая жывой прыгажосцю дзіцяці — жывой, але застылай прыгажосцю, якая спіць і будзе спаць, пакуль яе не разбудзяць, а пасьля прабуджэння можа аказацца і зусім не прыгажосцю.

Спакойная, з мокрым носам, з мокрымі валасамі, дзяўчынка падышла да салдат і працягнула паперку — дакумэнт.

— Хто такая, куды ідзеш, чаму адна, без дарослых? — капітан Насарэнка, разгортваючы паперу, гаварыў стрымана, але чамусьці у душы варухнулася хваляваньне: чаму? Мо таму, што такой прыкладна, як гэтая дзяўчынка, магла б быць цяпер яго дачка, каб нарадзілася здаровай? З русявымі мокрымі валасамі, рукзачком, вялікімі сівымі вачыма? Чаму капітан успомніў цяпер пра дачку, пра якую ніколі ня думаў? Паперка аказалася даведкай са школы. Пячатка, подпіс — усё ў норме.

— У Тарта-хутар я іду, жыву там, із інтэрнату, із Шыбуні. Атец не смог забрать, машына сломілась, паэтому іду адна, — дзяўчынка гаварыла па-расейску ня вельмі добра, як і большасьць дзяцей у Чачні; паводле акцэнту яна відавочна была чачэнкай, але капітана Насарэнку дзівіла, што яна зь непакрытай галавой, — чачэнкі так ня ходзяць. Дый сьветласкурая занадта.

— Нешта я цябе ня бачыў раней.

— Нядаўна мы пераехалі , раней у Рашты жылі.

— Адкрый рукзак.

Дождж узмацніўся. Кроплі ўзбуйніліся, сталі ляцець коса, пакідаючы ў паветры сьляды. «Я бег па касагоры, а за мною гнаўся дождж», — успомнілася раптам шарагоўцу Ісмаілаву: ён любіў японскую літаратуру, а Місіму асабліва. З аўтаматам, які боўтаўся перад грудзьмі, у брэзэнтавым плашчы, шараговец Ісмаілаў стаяў каля шлягбаўму, разглядаючы дзяўчынку. Усё ж такі было ў ёй нешта дзіўнае.

Ісмаілаў ля шлягбаўму, Насарэнка, Норын, Паплаўскі, Мамін, Лычко, Азораў, Панкрацьеў, Гурын... Гэта быў стацыянарны блёкпост, усталяваны яшчэ на самым пачатку вайны, разьлічаны на тое, што жыць тут салдаты будуць падоўгу. Узвод, а то і больш. Дваццаць тры, значыць, душы. А то і больш душаў.

Капітан Насарэнка пільна глядзеў па дзяўчынку. Не, напэўна раней тут ён яе ня бачыў. Трэба абшукаць. Што тут доўга думаць, некалькі спрытных, звычных рухаў, каб упэўніцца, што пад курткай, пад пахамі, пад споднямі і ў кішэнях не схавана нічога небяспечнага. І пад мокрымі валасамі. Некалькі рухаў, якія капітан зробіць сам. Прафэсійна. Каб не абразіць. Нічога асабістага, гэта звычайная перасцярога, павінна ж яна гэта разумець.

Але раптам капітан Насарэнка зразумеў, што не. Што калі пад далонямі ён адчуе цяпло яе цела, тут будзе асабістае. І капітан сумеўся: жаданьне і сорам вострай хваляй падняліся зь сярэдзіны, і капітан амаль пачырванеў, і хутчэй, каб задушыць хвалю на самым пачатку, каб не пачырванець, кіўнуў — маўляў, праходзь, праходзь без надгляду.

І гэта стала фатальнай памылкай.

Дзяўчынка закінула рукзак за плечы і прайшла далей. На сярэдзіне дарогі, пад навесам, яна прыпынілася і павольна азірнулася, паглядзела назад, проста ў вочы добраму перад Богам чалавеку капітану Насарэнку. І гэта быў такі погляд, які дарогу адкрыў страшнай госці: адразу выслізнула яна з-за рогу. Шарагоўцу Ісмаілаву не прыйшлося падымаць перад ёю шлягбаўм — уладарная, яна сама прайшла, узь-

нікла, вінтом закруціўшы паветра пад навесам, і ўсе адразу зразумелі — гэта пані Сьмерць.

І перш чым грымнуў выбух — перш чым дзяўчо мяккія джакондаўскія пальчыкі зьвяло на жываце — і перш чым грымнуў выбух, у ледзяным жаху, у ледзяным рогаце Сьмерці, у самае значнае — апошняе — імгненьне, поўнае невыноснага белага сьвятла:

— сяржант Норын мацюкнуўся;

— шараговец Ісмаілаў самлеў;

— перад унутраным вокам капітана Насарэнкі дзіўным чынам прабеглі сьціснутыя, сканцэнтраваныя да эсэнцыі ўсе сорак гадоў яго жыцьця: мокрыя ногі і шырокая Ясельда яго дзяцінства, шэрыя колкія коўдры вайсковага вучылішча, Ніна ў шлюбнай сукні, Нямеччына, ракеты сьпяць у доўгіх ангарах, кілямэтры размоў пра транты дома, кілямэтры размоў пра мэблю дома, кілямэтры размоў пра посуд (сэрвіз «Мадонна»), гарэлка, гарэлка, і вось ён падносіць да парогу інтэрнату для разумова непаўнавартых дзяцей белы скрутак — сваю дачку. А потым — Чачня і блёкпост. І сёньня — фіялетавае поле крокусаў.

А што бачыла ў гэтае імгненьне незразумелая смаркачка, якая прывяла Сьмерць, — невядома.

Так ня стала блёкпосту. Блёкпосту, які стаяў тут так доўга і блякаваў зусім ня тое, на што разьлічвалі яго будаўнікі.

## 2. Дым, дым

Дождж. Сьнежаньскі дождж. Незадоўга да смерці Маня Хавэлючка гаварыла мне, гледзячы на залеву за акном: «Дывысь, дывысь — дошч. Дошч на Різдво, і тэпло. Аж страшно чогось». Перш чым памерці самотнай у сваёй старой хаце пад высокай хвояй, Маня перажыла ў ёй тры інсульты і таму гаварыла вельмі неразборліва, прыкладна так: «*Дыы, дыы — до. До ш Ріо і тэо. А ао оо*», — але я навучылася яе разумець. Яна гаварыла, бы боўтала ў роце ваду, бы качала там цяжкія камяні, бы прадзіралася праз калючы цёран. Калі яе не разумелі суседкі — хтось з трох суседак, якія засталіся ў трох апошніх хатах пад высокімі хвоямі. Маня сердавала і плакала, а камяні ў яе роце зьбіваліся ў непад'ёмны камяк. У той раз Маня прыйшла да мяне, каб я выцягнула кляшча, што ўпіўся ёй у сьпіну. Мне гэта не ўдалося. Я палівала яго алеем і асьцярожна выкручвала проці ходу гадзіньніка, але маленькі, наліты крывёю калядны клешч злобна, намертва сядзеў, уціснуўшыся у белую Маніну сьпіну. Урэшце я адарвала яму тулава, але галава яго — тры рады вострых зубоў і адчайнае

жаданьне ўтрымацца — так і засталася ў скуры, і я заліла яе зялёнкай. Выгніла, мусіць, потым...

Добра, што сёньня выхадны. Ня трэба ўставаць на работу. Няма нічога лепшага за кубак кавы сьнежаньскай раніцай, нават калі за акном дождж. Добра, што ня трэба ехаць, ня трэба сьпяшацца, — а то ж Ніна спазьненьняў не выбачае.

Ніна ўвогуле някепская. Някепская начальнічка, някепскі чалавек. Дагледжаная, жвавая, гаваркая. Яна ўмее абыходзіцца з кліентамі і нас, работнікаў, у прынцыпе, ня крыўдзіць. Плаціць нядрэнна. Спрытная. У яе, як і ў мяне, няма дзяцей; я думала, што і мужа няма, аж нядаўна аказалася, што ёсьць. Раз я забавілася позна вечарам, каб дашыць заказ; Ніна разьбіралася ў прыёмнай з паперамі; урэшце я пайшла ў пральню адпрасаваць гатовую сукенку, а калі вярнулася, Ніна сварылася з мужам. Я зразумела, што мужчына з пустым рукавом, страшнымі шнарамі на твары і на мыліцах — яе муж. Мне няёмка было паказвацца ім, але і выходзіць з пакою я ня стала. Стаіўшыся у куточку за вешалкамі, я чула, як ён крычаў: «Пакуль я грошы з Чачні прысылаў, то быў патрэбен! Ты ж гэтае атэлье на мае грошы адкрыла!» Яна крычала: «Я цябе туды не пасылала! Я не вінавата, што цябе паранілі!» — «Гэта дзеля цябе я пайшоў у войска, дзеля грошай для цябе! Гэта ты прымусіла мяне аднесьці нашу дзяўчынку ў інтэрнат! Божа, які я быў ёлуп! Ну і што, што яна была паралізаваная, ну і што? Гэта ж наша дзіця, і зараз яно было б са мной». — «А ты ведаеш, што такое хадзіць за ідыётам?! Аддзіраць зь яго гаўно, мачу выціраць за ім?! Ты ж усё роўна гэтага не рабіў бы, служыў бы сабе, гэта прыйшлося б рабіць мне! Ня дзеля гэтага я нарадзілася! І за табой падціраць ня буду, не чакай!» Голас Ніны перарваўся, і яна зарыдала. «Проста ты мяне ніколі не кахала», — сказаў мужчына з пустым рукавом і на мыліцах. «І ты мяне, — усхліпнула Ніна, — і ты мяне ніколі не кахаў». «Так, — пагадзіўся ён. — Мы не кахалі адно аднаго».

Так што ў нашай Ніны і дзіця было. Чым добры выхадны, што можна наліць сабе кропельку гарэлкі з апэльсінавым сокам. Кактэйль «Адвёртка». Няма нічога лепшага за глыток кактэйлю «Адвёртка», калі за акном шэрая снежаньская імгла. А ў мяне дзяцей не было, і я ня ведаю, што такое раджаць. Маглі б быць, і нават не адно. Я тройчы рабіла аборты.

Маня Хавэлючка прызнавалася мне, што раз была ўжо зусім наважылася скочыць у бухту. Але сасьніла такі сон: быццам яна на тым сьвеце сярод іншых чакае нейкага дару, які разносіць нейкі бацюшка. І вось ён усім дае гэты дар, а ад яе адварочваецца, усім разносіць, а ад яе адварочваецца. Урэшце ён падвёў яе за рукаво да

маленькай купкі людзей, сярод якіх Маня пазнала сваю сяброўку Сьвету, якая павесілася, бо не магла больш трываць боль, і там пакінуў іх у цемры. Маня зразумела, што праз такі сон Бог папярэджвае яе: самазабойцы ня ўбачаць Валадарства Нябеснага. І Маня ня скочыла ў бухту, а праз нейкі час памерла на загаце сваёй хаты, і праз суткі суседка знайшла там яе скачанелае пад дажджом цела. І цяпер Маня ўбачыць гэтае Царства, няма праблем.

Яшчэ кропельку гарэлкі. Сок скончыўся? Нічога, можна і проста так.

Цяпер аборты робяць вакуўмнай помпачкай. Гэта нават прыемна: нешта там як бы падсмоктвае... А хочаш — можна ўсё зрабіць пад наркозам, прасынаесься — і дадому.

Дождж. Шэрая імгла. Голая зямля, заваленая кучамі сабачага гаўна. Зімоўскі — мокрая, адвіслая губа, зь якой цячэ гной хлусьні, — у тэлевізары. І што, дзеля такога раджаць дзяцей? Каб яны жылі ў такім сьвеце? У сьвеце, дзе няма нічога лепшага за глыток гарэлкі?

Я ня веру ў Бога, і думка пра Валадарства Нябеснае мяне ня спыніць. Але калі настане мая гадзіна, мая хвіліна, і я вазьму ў рукі вяроўку, я ўсе роўна буду цьвёрда ведаць: цудоўнае жыцьцё мусіць быць цудоўным. Жыцьцё і ёсьць Цудоўнае, толькі мы нічога пра яго ня ведаем.

## Зроблена рукамі Альбіны Юдчыц

Касыцомчык быў скамечаны.

Касцюмчык з поліэстэру для фізкультуры; толькі мой касьцюмчык у свой час ляжаў у адмыслова пашытым палатняным мяшэчку, а касцюмчык Томці — у поліэтыленавым; але як мне запомніўся той палатняны, так Томця будзе памятаць гэты. І пах поліэстэру, скамечанага адразу ж па ўроку і засунутага ў мяшэчак.

Восень.

Ужо зімна.

Попелішча зарастае зялёнымі калівамі.

Я нарадзіла Томцю лёгка. Здаецца, можна сказаць, што роды былі самыя лёгкія. Яны былі натуральныя і зразумелыя ў маім расхістаным і штучным жыцьці.

Маці перастала са мной размаўляць адразу пасля таго, як я паведаміла ёй, што ў мяне будзе дзіця. Не, спачатку яна накрычала на мяне. Сэнс крыкаў зводзіўся да таго, што яна, маці, ня ведала, наколькі я дурная. Ведала, што дурная, але ня ведала, што настолькі. Але шчыры дзякуй маці, што яна не спрабавала выгнаць мяне з кватэры — кватэры, якая засталася па бабулі, кватэры, куды маці засяліла мяне, каб я ўладкавала свой лёс, і дзе, замест гэтага, я напоўніцу праявіла сваю дурасць.

І мы сталі жыць з Томцяй.

Калі я, празь сьлёзы, упершыню пабачыла Томцю, мяне зьдзівіла, наколькі яна падобная да свайго бацькі. Але нават гэта ня зьменшыла майго шчасьця. Аднак потым, калі дзяўчынка з кожным месяцам станавілася ўсё больш падобная да мяне, я зразумела, што мяне гэта кранае неяк па-асабліваму. Час зьвіваецца ў скруткі, і аднойчы ў парку, на старых арэлях, я пабачыла саму сябе трыццаць гадоў таму, русявую і цыбатую.

Томця пайшла ў школу.

Як і трыццаць гадоў таму, у Берасьці няма ніводнай беларускай школы, ніводнай беларускай клясы. Як няма ні польскіх, ні ўкраінскіх. Не адчуваючы сябе ў сілах барукацца з гумовымі людзьмі, я адвяла Томцю ў трынаццатую сярэднюю школу, дзе калісьці вучылася сама. Тут гулка і цемнавата, а ў спартовую залю трэба ісьці праз галерэю.

Толькі дзіця будзе любіць цябе ні за што і нават насуперак усяму.

Прыхапіўшы ранец і мяшэчак зь фізкультурнай формай, мы ідзем са школы, і Томцін сябрук Назар распавядае пра рымскіх глядыятараў, і што ягонага дзядзьку забралі ў Магілёўцы, і што ў яго

ёсьць мульцік «Мадагаскар», і што летам, калі ён быў з сабакам у лесе, то міма іх нехта прабег.

— Чалавек? — удакладняю я.

— Не, — гаворыць ён. — На чатырох лапах, а сабака страшна гаўкаў!

Мне хочацца абараніць Томцю ад усяго, але я ведаю, што гэта немагчыма.

Томця сядае рабіць урокі. Яна трымае асадку троху ня так, як трэба, і занадта схіляецца над сшыткам, але не даецца, каб я паправіла. Я пакідаю яе на самоце.

Ар'ян даслала фотку. Яна стаіць на тле свайго поля, а Паўль абдымае яе так, каб мы бачылі вялізны круглы жывот. Ар'ян на часах, засталіся мо якія дні. Я пішу ёй некалькі вясёлых слоўцаў і націскаю «Адаслаць». Калі Ар'ян прыехала да нас упершыню, яна прывезла нам у падарунак нож для нарэзкі сыру і кулёчак каштанаў. «Гэта ёсьць ядомы каштан, — тлумачыла яна. — Ён расьце на двары ў маёй бабулі. Мы зьбіраем некалькі мяхоў і ямо ўсю зіму. Мы пражым іх на жароўні».

— Мама! — Томця паднімае галаву ад прапісяў. — Я ня веру Назару.

— Наконт чаго?

— Што каля іх нехта прабег на чатырох лапах.

Назар, Ян, Мілена, Ева, Багданка, Саўка — так завуць Томціных дружбакоў з клясы. У нашай клясе было тры Наташы, чатыры Лены, тры Сьветы, а рэшта — Ірыны.

Я адкідваю бульбу і закрашваю алеем капусту. Потым я яшчэ завару сабе кавы, а Томці зраблю чакаляды.

За вокнамі сячэ дождж. У цемры чуваць рыканне машын, гудзіць цеплаход над ракой, вокны свецяцца. Сёньня Дзяды, але талеркі не дрыжаць і ня падаюць долу са стала.

Томця есць і курчыць мінкі, і я раблю ёй заўвагу.

Вось і ноч. Бомкнуў кампутар: Паўль шчаслівы паведаміць, што Ар'ян нарадзіла дзяўчынку. У спісе на рассылку ня менш за паўсотні адрасоў. Я ўяўляю, як цяпер Паўль танчыць і скача на сваёй фэрме пад Дэльфтам. Уяўляю, як пачуваецца Ар'ян у бальнічнай палаце, як яна разглядае сваё дзіця. Уяўляю, як перад іхным домам шуміць вялізны стары каштан пад гэтым дажджом.

Я дасылаю ім віншаваньне і сядаю за работу. Зараз я зраблю ім падарункі, маёй любай сяброўцы і ейнай дзяўчынцы.

Я вяжу вельмі хутка.

Томця бледная, як усе дзяўчаткі ў горадзе. Яна скінула коўдру, а тонкія ручкі схавала пад падушку.

Я і мая дзяўчынка, у вышыні і цемры над горадам, над ракой, над машынамі, там, дзе сячэ дождж, дзе пралягаюць паветраныя дарогі дзядоў, дзе ця чэ час, дзе сьвішча вятрыска. Вось і гатова: пульхны мілы касцюмчык для малой і стылёвы жакет для Ар'ян. Зараз яшчэ наляплю свае фірмовыя ярлычкі:

Handicraft by Albina Judčys

Belarus

А калі — ужо хутка — разьвіднее, то зялёныя калівы ўжо спрэс заплятуць попелішча, і жыццё са сьмехам пойдзе сабе далей.

*23 лістапада 2006*

# Пастка для крата

## Пачатак

Электрычка свіснула, чмыхнула, дзьмухнула, узвыла й памчала. Я рынулася праз рэйкі на супрацьлеглы бок і скацілася па крутых прыступках у дол. Ля ракітавых карчоў, што аблямоўвалі каляіну, гагатала купка жыцьцярадасных ёлупняў прызыўнога ўзросту. Сама сабе вылаяўшыся, я палящела праз поле, што пачынала цямнець, да далёкіх дамкоў дачнага пасёлку.

Стаяў позьні лістапад. Час, калі, як слушна заўважыў клясык, ні журавоў у небе, ні груш на дрэве не пабачыш болей. Мне падабаецца гэтая пара першых маразоў і апошніх хрызантэмаў, падабаецца цішыня пустынных лецішчаў, халоднае зорнае неба, не замутнёнае сьвятлом гарадзкіх натрыйных ліхтароў, і таму я часцяком тут начую. Мама, калі б была жывая, пэўна, хвалявалася б, а бацька ставіцца да маіх паездак спакойна.

Я трушком праскакала ўзбоч хутара вартаўнікоў, бегма абагнула ставок і нарэшце пабачыла наш дом. Прычына майго сьпеху тлумачылася проста й банальна: мне, прабачце, трэба было ў прыбіральню. Такое час ад часу здараецца з усімі, нават з прывабнымі дзяўчатамі, да ліку якіх я адношу і сваю сьціплую асобу. Адразу пасьля апошняй лекцыі я палящела на вакзал, бо не паспявала на электрычку, у вагоне народу набілася да халеры, ні дыхнуць, ні пёрнуць (даруйце за грубае слова, але ж гэта сапраўды так!), не хацелася на вачох усіх перціся ў тамбур, а каля прыстанцыйнай установы агульнага карыстаньня купкаваліся вышэйпамянёныя ёлупні, дык ня дзіўна, што на дачы я перш-наперш кінулася ў прыбіральню.

Вечарэла. Чыстае неба набыло зялёнае яблычнае адценьне, на ўсходзе засьвяцілася першая плянэта. Я рванула дзьверы прыбіральні і закрычала ад жаху. Мазнуўшы мяне па шчацэ халоднай, як паўночны бягун, рукой, з прыбіральні вываліўся закарчанелы труп ды калодай грымнуўся на перакапаную граду. Гэта быў малады мужчына, даволі прыстойна апрануты і мне зусім не знаёмы. Упаўшы дагары тварам, ён шклянымі вачыма глядзеў на мяне.

Я заціснула рот рукамі і прымусіла сябе замаўчаць. Што гэта?! Адкуль узялося?! І што цяпер рабіць?!!

Цемра гусьцела на вачах.

Можа, ён усё ж жывы? Павагаўшыся, я нагнулася, каб паслухаць сэрца, адкінула крысо зімовай курткі і, уздрыгнуўшы, адхіснулася.

Проста з сэрца незнаёмца тырчаў наш дачны нож, які бацьку яшчэ ў тыя часы падараваў адзін прыяцель, дакладней, падсудны, складаную і заблытаную справу якога тата выйграў. Доўгае вострае лязо цалкам увайшло ў цела, зьверху віднелася толькі празрыстае плястмасавае дзяржальна. У сярэдзіну тронку быў устаўлены кавалак кардону з размашыстым надпісам: «Сапраўднаму чалавеку — з падзякай». Я выпрасталася і страціла прытомнасць. Не таму, што мяне так ашаламіў змрочны сарказм надпісу і ўжо напэўна не таму, што, як гераіня Сафіко Чыаўрэлі, млела з будзь-якой драбязы. Зусім не. Мяне якраз да непрытомнасьці давесці няпроста, але калі б вас ударылі абухом па галаве, вы таксама наўрад ці захавалі б ясны розум. А мяне ўдарылі, як потым высьветлілася, менавіта абухом, што праўда, невялікай сякеры. Апошнім пробліскам свядомасці адзначыўшы далёкі грукат калатушкі вартаўніка, я расцягнулася ў рос плузе...

...Першае, што я пабачыла, ачомаўшыся, былі дошкі нізкай столі, па якіх скачуць сполахі. Недзе грукнуў гранатны выбух, з характэрным «ты-ы-ў» праляцела і разарвалася міна, тады затохкаў кулямёт. Водбліскі на столі заскакалі, як шалёныя. Божухна, дзе я? Зь цяжкасцю павярнуўшы галаву, якая невыносна балела, я пабачыла нашых вартаўнікоў, Збышака Янавіча ды Анупрыя Іванавіча. Іх барадатыя твары раз-пораз высвечваліся на тле цёмнага акна. У няпэўным сьвятле выбухаў яны спакойна, але не без азарту, гулялі ў дурня.

Ляснуўшы атутам па карце Збышака, Анупры Іванавіч выцягнуў з-пад стала дубальтоўку, расчыніў акно і пальнуў у цемру, у бок кулямётных стрэлаў.

— О, о, туды, туды, — паказаў пальцам Збышак Янавіч.

Анупры Іванавіч перавёў цынгель і паслухмяна пальнуў і туды.

Ня вытрываўшы, я застагнала.

— Нічога, нічога, трывай, дзеўка, — азваўся Анупры, пільна выглядаючы нешта ў акне, а Збышак падышоў да мяне і пагладзіў па галаве спрацаванай шурпатай рукой.

— Што тут робіцца, дзядзька? — прашаптала. Голас адмаўляўся мне служыць.

— Маўчы, маўчы. Менш гавары яно лепш будзе, — адказаў стары, падаючы мне алюміевы кубак з вадою.

Тым часам выбухі за акном нібыта сьціхлі. Праўда, нешта там усё яшчэ гарэла, і ў пакоі было даволі сьветла. Грукнулі дзьверы, праз сені прастукалі нечыя крокі, і... на табе! Андрэй-Накрый-Мяне-Андаракам, паводзячы вачыма, стаяў на парозе, і пісталет у ягонай руцэ выразна дыміўся. Далейшае я памятаю як сон. Здаецца, ён на руках занёс мяне ў машыну, здаецца, мільгацелі міліцэйскія маячкі,

здаецца, па дарозе ў Менск я усё парывалася нешта запытаць, нешта даведацца, але не магла, і здаецца, пры кожным мяккім гамаваньні або разгоне камяк падкатваў да горла, і я думала: «Усё! Зараз выверне...»

## Політэхнічная акадэмія

На золку наступнага дня, у ложку, я прытрымлівала на галаве халодны кампрэс ды намагалася зразумець: тое, што адбылося ўчора, — гэта быў сон ці ўсё ж ява? Як з туману, выплывалі ў памяці ўрыўкі ўспамінаў ды складаліся ў няпоўныя, мазаічныя тлумачэньні. Выходзіла нешта подзіву вартае!

Як высветлілася, мой немы лямант пачуў Збышак, які якраз абыходзіў давераныя яму тэрыторыі. Нязломны стары пасьпяшаўся да нашай хаты, дзе й пабачыў ля прыбіральні нас зь мерцьвяком (бр-р-р, збаў, Божа, убогую душу). Далей Збышак дзейнічаў як спэцыяліст. Мерцьвяка не чапаў, сьвістком выклікаў брата і адправіў яго на станцыю званіць у міліцыю, а сам перанёс мяне ў хату, дзе пры сьвятле можна было агледзець мае раны ды аказаць неабходную дапамогу. Як былы санітар Войска Польскага, ён адразу ўбачыў, што вялікай шкоды мне абух не нанёс (а абух гэты ціхамірна ляжаў на сьцежцы побач), паклаў мяне на ложак ды сеў чакаць міліцыю.

Тым часам міліцыя зьявілася. Празь нейкае супадзенне ці што, але ў той момант, калі Анупры тэлефанаваў на 02, мой Андрэй па нейкіх сваіх справах знаходзіўся ў аддзеле міліцыі Менскага раёну, куды «сігнал» перадалі, і, пачуўшы назву нашага дачнага пасёлку, вырашыў таксама паехаць. Міліцыя каціла горда, зь мігалкамі, і тады здалі нэрвы ў аўтарытэтаў, якія, зноў-такі, праз супадзеньне ці што, ладзілі нейкі свой збор у хаце (!) былога (!) начальніка (!) Валадаркі! Нэрвы, кажу, у аховы ня вытрымалі, і яны ўсчалі вышэйпамянёны фэервэрк з гранатамі ды мінамётамі! Міліцыя хуценька выклікала дапамогу, і супраціў злодзеяў прыдушылі на корані, прычым сярод «аўтарытэтаў» быў арыштаваны нехта Бомчык — рэцыдывіст, якога Андрэй безвынікова вышукваў ужо больш за год. Гэтыя падзеі амаль цалкам засланілі сціплага застыглага мерцьвяка ля нашае прыбіральні, якога міліцыя, здаецца, успрыняла як нязначную даважку да сваёй нечаканай ды паспяховай апэрацыі па адлове злодзеяў. Прынамсі, Андрэй усю дарогу дадому толькі і паўтараў: «Не, ты падумай, Бомчыка ўзялі! Год, ты падумай, год шукалі!» — і цiснуў на газ, спяшаючыся, як я разумею, хутчэй у Менск, каб дапытаць таго самага Бомчыка.

Гэта тое, што сваёй затуманенай абухом свядомасцю я зразумела з блытаных, перасыпаных Бомчыкам, тлумачэньняў Андрэя. Трэба сказаць, не зашмат!

Перш за ўсё, хто гэты забіты? Нехта з кампаніі «аўтарытэтаў», каго забілі праз, так скажам, унутрыцэхавыя супярэчнасці? Але чаму яго схавалі ў нашай прыбіральні? Калі трэба што схаваць, і ці хай сабе й труп, то за горадам ёсьць многа прывабнейшых магчымасцяў: закапаць у лесе або кінуць у ставок з каменем на шыі — і шукай! Навошта перахоўваць у чужым доме, калі зразумела, што тут яго раней ці пазьней знойдуць? Ну няхай, згода, гэта ў бандзюганаў нейкі рытуал — пакінуць забітага ў прыбіральні, каб выказаць пагарду й агіду. Ці, можа, такім чынам яму помсьцілі за нешта? Але чаму тады яго заперлі ў нашую прыбіральню? Хата Патаповіча, дзе ладзілася імпрэза, — на другім баку пасёлку. Калі трэба каму выказваць пагарду, дык лягічней было б запхнуць яго ў якую брудную прыбіральню — ну вось як на станцыі, — а ў нашай, прабачце за падрабязнасьці, стаіць біяклязэт, а яшчэ падведзена вада да мыйкі — усё даволі прыстойна, таму асаблівай сымболікі кшталту «патапілі ў парашы» або «сабаку — сабачая сьмерць» тут не пабачыш. Калі хочаце, дык нашая прыбіральня ці ня самая камфартабэльная ў селішчы. Хіба, можа, уганараваць таго бедака такім чынам хацелі?! Хай хоць мёртвым пабудзе ў прыстойным сарціры? І зноў жа — хто і за што (навошта) грукнуў мяне па галаве абухом? Бо нешта бачыла? Або, наадварот, каб не пабачыла? Або, можа, я нешта знаю? І што ж я такога магу знаць? О, каб мне, прыкладам, знаць па «выдатна» супрацыўленьне матар'ялаў і неяк здаць залік!

Глупства лезе да галавы! Я патрэсла памянёнаю галавой, якая, дарэчы, усё яшчэ досыць моцна балела. Не, зараз мне больш нічога не прыдумаць. Зразумела адно — сёньня трэба абавязкова бомкнуць Андрэю, а ўвечары, калі вернецца са службовай выправы бацька, давядзецца парадаваць і яго.

Зазваніў будзік. Час быў зьбірацца на заняткі: першай парай — ахова працы. Звычайна на гэты прадмет я хаджу раз тры разы на чацверты, але сёньня — апошняя лекцыя перад залікам, праігнараваць нельга. Мерцвякі не мерцвякі — сэсію за мяне яны не здадуць.

Я даволі паспяхова (у сэнсе хутка) сабралася і выйшла з дому. Расхадзіўшыся, выпіўшы кавы, я пачувалася ў цэлым нядрэнна. Сінякоў на мне не было, валасы ад крыві ня зьліпліся... Чаму ж тады нейкі хлапец у сіняй куртачцы «Падтрымаем айчынную лёгкую прамысловасць», што швэндаўся па двары, вылупіўся на мяне так, быццам на шыі ў мяне замест шаліка абматаная анаконда. Раскінуўшы

рэшткамі мазгоў, я аднесла ягоную ўвагу на актыў сваіх батфортаў. Я іх ня вельмі люблю, але выглядаюць яны, трэба прызнаць, нядрэнна: высокія, амаль да сьцёгнаў, бліскучыя, са шнуроўкаю... Толькі я так сабе падумала, як высокі абцас хваленых чобатаў трэснуў і адваліўся. Каб цябе! Прыйшлося вяртацца. Добра яшчэ, што не пасьпела адысціся далёка. Хлопец у куртачцы, які ішоў недалёка за мной, зноў дзіўна скасавурыўся, калі я пакульгала яму насустрач.

Пераабуўшыся, я зрабіла другую спробу трапіць у інстытут і пабегла, прычым ува мне штохвіліны мацнела змрочнае прадчуванне, што я зноў спазьнюся. Не разумею, чаму так адбываецца, але я заўсёды спазьняюся на заняткі, хоць і жыву паблізу. Больш за тое! У нашай групе бытуе народная прыкмета: калі Яніна прыходзіць раней выкладчыка — можна ісьці дадому, заняткаў ня будзе, бо ня будзе й выкладчыка. І, халера, прыкмета яшчэ ні разу не падвяла! Раздумваючы так, я шпарка хлюпала па сьнезе, што выпаў за ноч і пасьпеў растаць раніцай. Зь неба сыпалася імжа, расплёскваючы калюжыны, па вуліцы раўлі машыны, людзі зь зямліста-белымі нездаровымі тварамі беглі туды й сюды — філіял пекла пад назвай «Мінск напрадзімку» функцыянаваў як мае быць. На скрыжаваньні ля «Рыгі» я прыпынілася на «чырвоны»; міма натужна правыў «Ікарус», і ад густога дыму, што валіў з выхлапной трубы, я адрухова адвярнулася.

Хлопец у сіняй куртачцы шпегаваў за мною! Ён стаяў воддаль, рабіў выгляд, быццам нешта разглядае ў шапіку, але цішком пазіраў на мяне і быў гатовы пабегчы сьледам на пераход, як толькі сьвятло пераменіцца. Здавалася б, здарэньне ўчорашняга дня павінна было мяне калі не напалохаць, дык хаця б насцярожыць. Здавалася б. Тым ня менш, я зрабіла тое, чаго, калі падумаць цвяроза, не павінна была рабіць ні ў якім разе. Але я зусім ні пра што не паспела падумаць. Ногі панеслі мяне да шпіёна на іх — ног — асабістае рашэньне. Прычым глядзела я яму проста ў вочы. Калі той зразумеў, што паднаглядная шыбуе да яго, на ягоным твары па чарзе імгненна зьмяніліся выразы зьдзіўленьня, разгубленасьці, лёгкага страху, вялікага страху, панікі — і ён даў драпака! Я рынулася сьледам. Можа, я яго і дагнала б, але ён пасьпеў дабегчы да «дзевяноста першага», які якраз стаяў на прыпынку, — дзьверы зачыніліся, аўтобус панёсься як ашалелы, і шпіён у сіняй куртачцы зьнік зданьню ў шэрай далечы! Нейкі час я тупа стаяла, вылупіўшы вочы ўсьлед аўтобусу, пакуль мяне не прашыла страшная думка: «Спазьнюся!» — і я зноў пабегла на злом галавы.

Рассякаючы па калюжах, што твая амфібія (калі яна ў цябе ёсьць), я ўсё больш і больш злавалася. Халера! Што за прыгоды на маю

галаву? Што да чаго? Мярцьвяк, шпіён... Альма-матэр скончыць не даюць!.. Ня ведала я, што мяне чакае наперадзе!

Апошнія мэтры да корпусу я бегла ў тэмпе добрага стаера. Ліфт, пасьля пачатку заняткаў свабодны, узьнёс мяне, як вецер, на пяты паверх. Трэба адзначыць, што ў беларускай палітэхнікі традыцыі ды сучаснасьць пераплятаюцца, прабачце за калямбур, у найлепшых традыцыях: сярод сценаў зь ляпнінай сталінскага ампіру лунаюць духі хлопцаў, што прыехалі з цаліку, між тым ліфт лётае мякка, як твая «audi-100» (зноў жа, калі яна твая!). Не пасьпела я аддыхацца, як дзьверы яго расчыніліся.

Галоўны корпус палітэхнікі мае адну асаблівасць, роўнай якой я ніколі ў жыцьці ня бачыла: на пятым паверсе дзьверы ліфта выходзяць у доўгі, безь ніводнага акенца калідор, які другім бокам упіраецца ў дзьверы адзінай на гэтым паверсе аўдыторыі. Архітэктар, што будаваў корпус, меў на мэце вырабіць шыкоўную адкрытую калянаду. Свайго ён дамогся — калянада сапраўды вельмі ўпрыгожвае фасад галоўнага корпусу. Але паколькі й займае амаль усю карысную плошчу, то на «вучэбны працэс» толькі і засталося, што адзіная аўдыторыя ды доўгі сляпы калідор.

Я была недзе на яго сярэдзіне, калі раптам... Стрэл і характэрны гук, пра які кажуць «прасьвісьцела куля», зьліліся ў адно. Гэта ўжо занадта! Я адрухова сьцялася і азірнулася. Пуста, нідзк нікога! Яшчэ адзін стрэл, зноў бжумкнула куля. Ізноў, другі раз за раніцу, ногі мае вырашылі за мяне. Такога тэмпу, бясспрэчна, я не паказвала ні на адных спаборніцтвах. Праз тры сэкунды я штосілы рванула цяжкія дубовыя дзьверы, кожным нервам сьпіны чакаючы кулі... Расхрыстаная, у швэдры наперакос і з вар'яцкімі вачыма, уляцела я ў аўдыторыю, грукнуўшы дзьвярыма. Нашы паднялі галовы як па камандзе. Нехта прысвіснуў. Фаіна Абрамаўна запнулася на паўслове. Прамармытаўшы «драсьце, можна сесьці?» я прадэфілявала да апошняй парты і ўпала побач з Зарэмбай.

Фаіна Абрамаўна справілася са зьдзіўленьнем і з паўслова зноў павяла мову пра ўзровень вібрацыі ў вытворчых памяшканьнях клясы А. Ці да іх мне было?

Як толькі загрымеў званок, Дуб зьняўся зь месца і падышоў да нас.

— Толькі не кажы, што гэта страляλі ў цябе.

— Калі ты просіш, то, безумоўна, не скажу. А што, было чуваць стрэлы?

— Ды ня тое, каб... Але я пачуў.

Пэўна, Дуб быў адзіным, хто пачуў. Вакол віраваў перапынак. Ніхто не зьвяртаў на мяне ўвагі — і то сказаць, прызвычаіліся да маіх спазьненьняў, — і толькі Фабіян ды Алена глядзелі на мяне зь непакоем. Яны чакалі аповеду. І я ўсё расказала пачынаючы з учорашняга вечара.

— Ты павінна зараз жа пазваніць свайму гэтаму, — з выразным незадавальненьнем прамовіў Дуб, калі я скончыла.

Я паглядзела па яго зь пяшчотай: гэта быў першы выпадак на маёй памяці, калі Дуб уголас успомніў пра існаваньне «майго гэтага».

Я — неразьдзеленае каханьне Дуба. Дуб мне падабаецца. Падабаецца яго надзвычайная худзізна і спрактыкаванасьць у розных дробнабізнэсовых справах (чаго толькі ён ні вазіў з Польшчы і ні прадаваў у Расею — ад станікаў да аўтамабіляў), падабаецца гучнае прозьвішча Дуброўскі ды ня менш гучнае імя Фабіян, і крываватае пасля нейкай аварыі вока, і тое, як ён вымаўляе «Слуцак, Полацак», і ягонае «у кароткае», якое ў ягоных вуснах нагадвае яблык... Але калі зьявіўся Андрэй, я адразу зразумела, што Дуб назаўжды застанецца ня больш чым сябрам. Зразумеў гэта, пэўна, і Дуб, і зацяўся ў маўклівай няўхвале.

— Ой, глядзі, — са зьдзіўленьнем выгукнула Зарэмбачка, тыцнуўшы пальцам мне ў сьцягно.

Я глянула. На новых чорных панчохах зьзяла доўгая дзірка, краі якой былі быццам абпечаныя. Усярэдзіне ж дзіркі красавалася драпіна. Кроў ужо запяклася.

— Нешта ты зьбялела, — заўважыў Дуб.

— Як на адзін дзень, то зь мяне досыць аховы працы, — сказала я слабым голасам, забіраючы торбу. — Пайду я.

Дуб пайшоў са мной. У калідоры, дзе зараз палілі ды гаманілі нашы, я трохі акрыяла. Разам з Дубам мы агледзелі ўсе закуткі, і Дуб нават знайшоў драпінкі на сьцяне, якія маглі быць сьлядамі куляў. Саміх жа куляў, роўна як уваходных адтулін ці нейкіх сьлядоў таго, хто страляў, нідзе не было. Той нехта меў час пачысціць за сабой месца.

Мы спусьціліся ўніз, і я (бедны Дуб!) патэлефанавала Андрэю. Мне ветліва адказалі, што зараз яго няма, але хутка павінен быць. Я вырашыла паехаць да яго на працу. Дуб пасадзіў мяне ў таксоўку, прычым адкінуў маю прапанову злапаць яе на праспэкце, а адвёў на прыпынак ля “Рыгі”, дзе палова прыватнікаў мне добра знаёмая дзякуючы заганнай звычцы ўсюды спазняцца, і пасадзіў да найбольш надзейнага старога, папярэд не запісаўшы нумар аўтамабіля. Кажу ж, спрактыкаваны ў справах мой Дуб!

Сеўшы ў машыну, я глыбока задумалася. У выніку, не даяжджаючы да працы Андрэя, я папрасіла спыніць машыну ля вакзалу. Я вырашыла зноў зьезьдзіць на дачу. Грошай, якія былі ў мяне з сабой, хапіла на паўлітроўку «Абсалюту». Неўзабаве электрычка несла нас з «Абсалютам» да новых прыгодаў.

## Зноў на дачы

Збышка і Анупрыя ў хаце не было. Я абышла падвор'е, пад брэх Балоніка, які скакаў на ланцугу, патузала клямку, пакінула бутэльку з «Абсалютам» у цэбрыку, дзе сякуць зельле для качак, і пайшла да сябе. Пустынна было навокал. Падыходы да пасёлку красавалі свежымі варонкамі, на полі чарнелі плямы прыску на месцы дзьвюх ушчэнт згарэлых скірдаў. Падазрона аглядаючыся, я ступіла на брукаваную сцежку, што вяла да нашага дому...

У доме ўсё было нібыта таксама, як заўсёды. Перш за ўсё я падышла да стала, на якім заўсёды стаіць глечык з кухоннымі нажамі. Нажа з надпісам «Сапраўднаму чалавеку — з падзякай» сярод іх не было... Але калі ён прапаў адсюль? Калі я бачыла яго апошні раз? Чорт яго ведае... Здаецца, калі прыяжджала тыдзень таму, ён яшчэ тырчаў. А мо не? Абышоўшы ўсе пакоі і ўпэўніўшыся, што нічога незвычайнага ў вочы ня кідаецца, я ўключыла кававарку і выйшла ў агарод.

Ля прыбіральні не было нічога, што нагадвала б пра мерцьвяка на градцы (бр-р-р!). Я прысела на кукішкі і ўважліва агледзела граду. Бацька рытэльна ўскапаў яе на зіму: вялікімі грудкамі, не разьбіваючы пластоў зямлі, і грудкі гэтыя, як замерзьлі, так і дасюль тырчалі шматлікімі маленькімі купкамі. Толькі дзе-нідзе ля сьцежкі грэбні купак былі зьбітыя: тут падаў мярцьвяк, потым, пэўна, праходзіў Збышак, потым тупаталі мільтоны, забіраючы труп. Сьлядоў ад усяго гэтага амаль не засталося — толькі некалькі паразьбіваных грудкоў. Да сённяшняй раніцы стаяў добры прымаразак. Зямля скамянела.

Я ледзьве носам ня рыла граду — так карцела пабачыць нейкі акурак, гузік або насоўку з манаграмай — словам, нешта, што звычайна пакідаюць на месцы злачынства забойцы, калі верыць дэтэктыўным раманам. Нічога такога і блізка не валялася. Расчараваная, я паднялася на ногі, і ў задуменьні пачала абыходзіць агарод. Успомніла пра кававарку, павярнулася, каб прайсці ў дом і... аслупянела. Перш чым узялося на мароз, дні са тры імжэў дождж — апошнім часам лістапад у Беларусі вызначаецца няўстойлівым надвор'ем. Гэтым часам, пэўна, і праходзіў праз наш агарод чалавек — нават бег, калі меркаваць па сьледзе, які ясна адбіўся ў глеі і так і замерз. Што гэта

ня мой і ня бацькаў сьлед, я пабачыла адразу: па-першае, памер, па другое, кірунак — сьлед ішоў нібы ад дзьвярэй да мяжы дзялкі, але не да дарогі, а да тылу, да кустоўя, якое адгароджвае нашу дзялку ад суседзкай... Што нам там рабіць, у кустах, калі ягады сто дзён як пазьбіраныя і грады ўскапаныя на зіму? Адным словам, сьлед чужога. Я падцягнулася па росплузе бліжэй і трохі далей угледзела яшчэ адзін след. Сэрца маё забухала ад хваляваньня і, торгнуўшыся, сьціхла — я зразумела, хто тут хадзіў. Бо, апроч памеру, заўважыла яшчэ нешта вельмі важнае. Такое, што пабочны чалавек, пэўна, і ня ўгледзеў бы зусім... Я ўздрыгнула — ціха падкаціла шэрая машына. Андрэй-Накрый-Мяне-Андаракам, пабачыўшы мяне, здзівіўся ня менш, чым я, пабачыўшы яго. Зь ім прыкаціла штук пяць міліцыянтаў, якія, як выявілася, мелі намер праводзіць сьледчыя дзеяньні. Ветлівы, але трохі мёртвы малады чалавек, які назваўся следчым «па вашай справе», папрасіў дазволу пагаварыць, атрымаў яго, і ўся працэсія на чале са мной рушыла ў хату, дзе кававарка амаль ужо лётала па кухні.

Адмовіўшыся ад кавы, міліцыянты ўзяліся за працу. Філіжанку, якую я была ўзяла, каб наліць сабе моцнага й падбадзёрвальнага напою, у мяне адабралі, агледзелі праз лупу і толькі тады вярнулі. Усчалася шалёная работа: міліцыянты заглядалі ва ўсе закуткі, разагналі пыл з падлогі пад ложкам і канапамі, рассыпалі па сталах нейкі парашок, які нагадваў сажу або растоўчаны вугаль — шукалі, як мне падказаў мой досвед чытачкі дэтэктываў, адбіткі пальцаў... Ці трэба казаць, што не знайшлі нічога? Ня трэба. Дакладней, адбіткаў то было многа, але мала што яны значылі для следства: мае, бацькавы, Андрэя... Сьледчы задаў мне мноства пытаньняў: а як мяне завуць? а дзе я вучуся? а чаму апынулася на дачы адна вечарам? а ці ведала я забітага? а ці бачыла раней? а каго сустракала па дарозе? а хто ведаў, што зьбіраюся на дачу? і гэтак далей, і ўсё такое. Ня ведаю, якія там высновы ён зрабіў з маіх ахвотных, падрабязных, і, бачыць Бог, шчырых адказаў, але, калі меркаваць па тым, што голас ягоны з кожным пытаннем рабіўся ўсё больш панылым, а вочы — адсутнымі, — ня вельмі суцяшальныя для сябе.

— А хто ён такі, гэты забіты? — пацікавілася і я пры канцы.

Зусім зьніякавеўшы, ён адказаў:

— Яго асоба зараз удакладняецца.

— А вось вы прыехалі сюды зьператрусам, — працягвала я. — А калі б мяне тут не знайшлося? Як вы патрапілі б у хату?

— Калі ўлічыць вашыя адносіны з Андрэем Вацлававічам, вы, пэўна, ня мелі б прэтэнзіяў, калі б дом нам адчыніў ён і ператрус

праходзіў у ягонай прысутнасці? Проста вас не было ні дома, ні ў інстытуце...

Толькі я разявіла рот, каб спытацца, а што яны рабілі б, калі б у мяне ўсё ж узьніклі прэтэнзіі, як на вэрандзе затупалі і ў хату ўвайшлі Збышак і Анупры. Калі яны й не чакалі пабачыць тут натоўп міліцыянтаў, то выгляду не падалі. Зразумеўшы, хто прыйшоў, следчы зноў трохі ўзбадзёрыўся і зь ветлівасцю, якая, як я заўважыла, была яго характэрнай рысай, папрасіў дазволу задаць некалькі пытанняў. Тым часам міліцыянты абсыпалі попелам усё, што было можна, выцерлі ўвесь пыл пад ложкам і, палічыўшы, пэўна, свой абавязак тут выкананым, перабазаваліся ў агарод, прычым прывялі аднекуль нават сабаку і ўсчалі вадзіць яго па градах. Папіваючы каву, я праз акно сачыла за сабакам (пакуль што ягоная роля зводзілася, у асноўным, да таго, каб памахваць хвастом) і мела гонар прысутнічаць пры допыце Збышака Янавіча: следчы зь незразумелых мне прычынаў не папрасіў мяне на час допыту выйсьці.

Што дзіўна, Збышак сёньня адмовіўся ад свайго прынцыпу “менш гавары — яно лепей будзе”, якога строга трымаўся ў дачыненьнях са зьнешнім сьветам, і рассыпаўся такімі фразамі, што я толькі рот разяўляла. Так, на пытаньне, што ён, Збышак, рабіў вечарам на дачах, ён адказаў: «Калі пане ўлада думае, што я атрымваю свае грошы нізашто, то пане ўлада памыляецца. Сто дваццаць восем дамоў, пане ўлада, адзін у адзін! Я, пане ўлада, кажу прынсідацелю: пусьці, кажу, па агарожы электрычнасць, нівадзін злодзей не пралезе. Слухае мяне прынсідацель — вачыма лыпае, бы сёньня зь яйка вылупіўся. А Патаповіч кажа: у мяне гарбузы! Ды якія там гарбузы — хвігі, а не гарбузы, калі паміж намі, пане ўлада! Каму яны патрэбныя?! А прынсідацель гаворыць: будзем твайму Балоніку косьці насіць. А Балонік касьцей і ня есць ніколі. Нашто яму тыя косьці? Мне з тых касцей як з казла — ні руна, ні малака. А калатушу я на сваю гатоўку набыў — Юзік з Краснага мне зрабіў». Сьледчы пажадаў удакладніць, хто такія Балонік і Юзік. На гэты конт было адказана: «Балоніку гэтыя косьці ані ў знак. І ня лыс Габрусь! Балонік медаль мо меў бы, калі б на мяжы служыў. Бо разумны, халера. А Юзік дурны, як даўбешка».

І далей у такім самым духу. Словам, з далейшай размовы следчы мог зрабіць выснову, што Збышак Янавіч мае садысцкія схільнасьці і трымае ў адмысловай будзе нейкага Габруся Балоніка, якому, што праўда, Анупры штодня варыць сьвежую юшку. Прычым ланцуг, на якім сядзіць гэты нябога, вельмі моцны, яшчэ за “тымі саветамі” куплены. Пра Юзіка ж з Краснага Збышак і гаварыць адмовіўся, бо той

па прыроджанай дурасці сваёй натуры змарнаваў шанец, дадзены лёсам, і замест таго, каб працаваць на калейцы, грае на скрыпачцы на вясельлях, а грошай зусім не бярэ!

На пытаньне, ці не заўважыў у той вечар Збышак чаго-небудзь незвычайнага, той адказаў: «Бадай чы не, пане ўлада! Парсюка такая срачка разабрала, а з чаго б? Я кажу Анупрыю: гэта нешта незвычайнае, Анупры! Гэта напэўна нехта нам на чары яйка пад плот падкінуў, вось парсюк і задрыстаў!»

Падапытваўшы Збышака яшчэ хвілінаў дваццаць, следчы падзякаваў старому і пайшоў з хаты. Пры зьяўленьні яго на парозе сабака прыкметна пажвавеў, гаўкнуў і пачаў ірвацца з павадка. На знак сьледчага яму далі волі, дазволілі пабегчы, куды хацеў, і міліцыянты a capella, улучна з Андрэем, пабеглі сьледам.

Старыя, выявілася, зайшлі па мяне, каб разам пайсьці да вышкі ды расьпіць там «Абсалют». Ня бачачы асаблівай патрэбы ў сваёй прысутнасці ў хаце, я з радасцю пагадзілася.

Ля геадэзічнай вышкі — наша звычнае месца. Зрэдчас браты прыходзяць сюды пасядзець. Упершыню размаўлялі мы таксама тут. Гэтыя два барадатыя старыя з такімі прыгожымі тварамі некалі былі ўладальнікамі зямлі навокал: ворнай, дзе зараз стаяць дачы, лесу, кавалка балота... Лёсы іх, расказаныя ля геадэзічнай вышкі, кранулі, ці, справядлівей сказаць, ашаламілі мяне. Калі-небудзь я і вам расскажу пра іх больш падрабязна: і пра тое, чаму ў аднаго брата польскае, у другога — рускае імя, і пра нормы высечкі лесу ў Сіблагу, і пра скпяваны шэптам гімн «Яшчэ Польска не згінэла», якім пачыналася кожная раніца ў Катыні, і пра тое, як страшна, страшна бывае ноччу ў пустой хаце, якія чорныя ў ёй куткі, што ня чуюць больш ні бразганьня малака аб дно падойніка, ні дзіцячага сьмеху, ні сьпеваў...

Ня дзіўна, што я неяк хутка і моцна прывязалася да гэтых старых, — дзіўна тое, што і яны, падобна, мелі да мяне нейкі сантымэнт. А я ж была адным з дачнікаў, адным з тых, хто — круці не круці! — адабраў іхную зямлю, і было б больш лагічна, калі б яны сустракалі нас выкапаным кулямётам ці, прынамсі, сібірскай лаянкай. Але гэтага не было. Старыя, што праўда, былі маўклівыя, але ні з кім не задзіраліся, нікога не чапалі і нават працавалі вартаўніком (удвух на адну стаўку) у нашым дачным пасёлку...

Пад ветрам, што сьвісьцеў над гальлю і логам, пад падбітымі шэранью аблокамі, якія раз-пораз праціналіся сонечнымі прамянямі, мы сядзелі ўтраіх пад геадэзічнай вышкай на сухім густым бадыльлі, пілі з маленькіх абдзёртых алюміневых чарачак гарэлку, смак якой набліжаўся да назвы, і глядзелі ўдалячынь, дзе ворныя палі зьбягалі з

пагоркаў, перамяжоўваліся руньню ды зноў уздымаліся на пагоркі, а лясы цягнул іся пасамі. Мне далі зялёны позьні агурок з кавалкам самапечанага хлеба, і пах гэтай ежы чамусьці зрабіў мяне амаль шчаслівай... Словы, што зрэдчас гаварыліся, адносіў той, што сьвісьцеў над гальлю і логам...

Калі я вярнулася да хаты, міліцыянты ўжо сабраліся ад'яжджаць. Другі раз на працягу дваццаці чатырох гадзінаў я вярталася ў Менск на службовым шэрым «мэрсе» Андрэя. Ляснуўшы дзьверцамі, я вырашыла нічога не гаварыць міліцыі ні пра сьлед ля кустоўя, ні пра тое, што ён, гэты сьлед, мне сказаў. Пабачылі міліцыянты яго самі — то добра, не — яшчэ лепш... Яны ж мне нічога не сказалі пра свае знаходкі, чаго я буду перціся са сваімі?

Чароўная падтрымка «Абсалюту» не пакідала мяне ўвесь час, пакуль насустрач несьліся бясконцыя ледавіковыя ўздымы ды спады Ракаўскай шашы. Можа, таму ўначы мне прысніўся Сон...

Для зьвязнасьці аповеду трэба адзначыць, што ўвечары вярнуўся бацька, і я, натуральна, расказала яму пра мерцьвяка. Пра стрэл у калідоры змаўчала — і са зьдзіўленьнем адзначыла сама сабе, што і Андрэю ж я пра гэта нічога не сказала! Забылася?.. Мы прагаварылі з татам да позьняй ночы, але нічога вартага ўвагі так і не скамбінавалі.

Дык вось, уначы мне прысніўся Сон.

Мне снілася, што рэха ня раз — ня раз — ня раз пойдзе і прыйдзе. Маленькія біполі вады сцякуць па шкле, а ядловец адшукае ў пяску іены азоту. Але не зарыпіць ганак таго дому. Не загучаць далёкія песьні. Ня ўстане з магілы тая жанчына, ня возьме ў рукі цэп. Ня ўдараць крыгі ў старыя палі, не паплыве млын па рацэ, не закрычыць на ім спалоханы певень... Не загалосіць снег над санкамі. Пар ад пысы каня не асядзе на дрэве. Цэмэнт маркі 200 загусцее на кельні, а пах пылу не прападзе ніколі. Кроў не праліецца. Загніваючы, яна будзе стаяць і стаяць, аж пакуль не закрычыць дзіка цела, не зараве, палохаючы ўсіх... Мне сьнілася, што гэты немы лямант, гэты жахлівы крык — мой лёс.

## Дзень дыплёмнага праектаваньня

Я пракінулася. Сэрца калацілася, пальцы курчова сціскалі коўдру, твар быў мокры ад слёз. О, такі сон! Устаючы, я ўжо ведала, што так проста ён мяне не адпусціць. І сапраўды, доўгая прысмокціна сну цягнулася за мной увесь ранак: я ведала тую раку і тыя берагі, смак кавалка яечні, які я клала ў рот, нагадваў мне смак іншай яечні, холад аконнага шкла — холад іншага шкла... Я споўдалася па пакоях,

прыслухоўвалася да сябе і не магла прымусіць сябе сабрацца ды пайсьці ў бібліятэку, як плянавала папярэдне. Рыпеньне ключа ў адтуліне прагучала вызваленьнем — і сапраўды, гэта быў Андрэй, і ён мусіў мне дапамагчы.

Калі вам прысніцца невыносны сон, то шэрыя вочы вашага каханага пададуцца вам яшчэ больш глыбокімі, пах яго скуры — яшчэ больш родным, а моц яго рук — неадужнай. Цяпло яго цела станецца адзіным надзейным ратункам...

Ня ведаю, хто на што марнуе дзень дыплёмнага праектаваньня. Я, як што і праектавала, то толькі не дыплём...

Калі Андрэй скіраваўся на кухню варыць каву, я выслізнула з-пад коўдры, дастала з шафы панчохі зь дзіркай ад кулі і маляўніча расклала іх на пасцелі. Вярнуўшыся з падносам, Андрэй зьдзіўлена агледзеў мой дэкор:

— Гэта што? Інсталяцыя?

— Нешта накшталт. Асаблівa стылёва інсталяваная дзірка.

Адставіўшы паднос, Андрэй прыгледзеўся да дзіркі ды раптам спалохаўся. Я гэта выразна бачыла, хоць звычайна ён добра валодае сваім тварам. Ён нават крыху зьбялеў.

— Нехта страляў у мяне ўчора ранкам. У інстытуце. А да гэтага нейкі падшыванец у куртачцы за мной шпегаваў... Што адбываецца, Андрэю? Я пакуль што не палохаюся, але доўга так не працягну.

— Яня! — Андрэй моцна прыціснуў мяне да сябе. — Ня думай пра гэта. Проста ня думай.

— Лёгка сказаць!

— Вельмі хутка ўсё высветліцца, я ўсё раскапаю, абяцаю.

— Хто гэты забіты ў нашай прыбіральні? Ці яго асоба дасюль удакладняецца?

Андрэй неяк скоса зірнуў на мяне і падаў кубак кавы.

— Не, ужо вядома. Мянцей Міхаіл Міхайлавіч, дваццаць шэсць гадоў, мянчук, жанаты, ёсьць дзіця. Прыватны прадпрымальнік — меў агенцтва юрыдычных паслуг. Рэгістрацыя фірмаў, гешэфты зь нерухомасцю...

— Што ты так глядзіш? Ня ведаю я такога чалавека, ніколі не рэгістравала фірмаў і ня мела страваў зь нерухомасцю. Чаму ён апынуўся ў нас? І, дарэчы, што з той сякеркай, якой мяне ўдарылі? Адкуль яна там узялася?

— На ёй не напісана. З выгляду сякера як сякера. Адбіткаў пальцаў ніякіх. У выхадныя будуць апытваць жыхароў пасёлку, але асаблівай надзеі ў мяне няма.

— Дык, значыцца, на трэці дзень следзтва ў актыве толькі асоба забітага? І больш нічога не вядома? Ні хто, ні што, ні чаму ў нас?

Андрэй зноў нeяк дзіўна паглядзеў на мяне, але нічога не сказаў, пацiснуў плячыма і, паглядзеўшы на гадзіньнік, пачаў зьбірацца.

Мы выйшлі разам — ён падвёз мяне да бібліятэкі, куды я зараз ужо пачувалася ў стане пайсьці.

Уся гэтая гісторыя надарылася не да часу — сесія на носе. Гэтыя два факты — забіты на дачы і неабходнасць хоць як атрымаць дыплом цяпер стала блыталіся ў маёй галаве, і я не магла засяродзіцца ні на адным, ні на другім. То на старонках «Мікрасхематэхнікі» сярод тырыстараў, транзыстараў ды дыёдаў раптам усплывалі мутныя вочы памерлага, то на сярэдзіне захаплявльнай лягічнай пабудовы, якая мела на мэце прывесці мяне да таго, што яднала забойства Мянцея, стрэл у пустым калідоры палітэхнікі, падшыванца ў куртачцы і сьлед на градах ля кустоўя, я раптам уздрыгвала і як ашалелая пачынала страчыць у сшытку — словам, дзень у бібліятэцы мяне так выматаў, што, выйшаўшы адтуль у змрок, я адчула настойлівую патрэбу ўзбадзёрыцца і трохі акрыяць. Дарога мая ляжала, такім чынам, у «Піцэрыю». Там заўжды музыка, там смачныя італьянскія піцы і сыры (вось што мне зараз патрэбна!), там напэўна пабачу знаёмых — вечарам, калі лекцыі канчаюцца і цемра расцякаецца па сцежках студэнцкага гарадка, у «Піцэрыі» бавіць час палова палітэхнікі...

Зь нечакайнай нават для мяне самой хуткасьцю зьнішчыўшы кавалак цудоўнага белага сыру, я адчула палёгку, быццам уратавалася ад пэўнай пагібелі, і, адсёрбнуўшы соку, агледзелася. Час яшчэ не настаў палова столікаў былі не занятыя, і бармэн Пятро (ён кіўнуў, сустрэўшы мой позірк) спакойна падлічваў кошты на калькулятары, водзячы пальцам па доўгім слупку лічбаў. Знаёмых таксама не было... але не, вунь мне махае рукой наш староста. Зь лёгкай рукі Дуба ён атрымаў мянушку Кароста, якая як найлепш падыходзіць да яго ўнутранай сутнасці. Хоць бы з адным з такіх дзеячаў вы напэўна сутыкаліся ў жыцьці — тып даволі распаўсюджаны. Псуе навакольле горш за алюміневы камбінат. Яны заўжды сярэдняга росту, досыць укормленыя, з круглымі пысамі і кароткімі тупымі насамі. Прадметы іх асаблівага гонару — густыя вусы і «пінжак з карманамі», набыты ў модным бутыку не за свае грошы.

На першай бульбе наш Кароста ледзь не на каленях прасіў, каб мы абралі яго старастам. Мы й абралі. Ну, хочацца чалавеку адзначаць прысутных у журнале — няхай сабе адзначае. Ніхто й не здагадваўся, што гэтае легкадумства вельмі хутка вылезе нам бокам. Асабовы склад нашай групы быў тады занадта пагружаны ў салодкія

мроі закаханасьцяў, што разгарэліся яшчэ перад тым, як адбыліся знаёмствы, каб адразу зразумець нашую калектыўную памылку. Вечаровыя туманы зь Бярэзіны, вогнішчы на беразе, што так туляць да сябе, танцы ў час дажджу пад дахам сенасховішча, начныя размовы пры сьвятле газьніцы — усяго гэтага зь лішкам хапала для прыгожага і поўнага жыцьця, і менш за ўсё мы думалі ў той час пра нейкага старасту.

Але як вярнуліся ў Менск... Дзе толькі распачынаецца чарговае глупства з удзелам шырокіх масаў — там Кароста са сьпісам у руках кантралюе і арганізоўвае студэнцкую моладзь. Дурацкіх ягоных прэтэнзіяў не пералічыць. Але больш за ўсё ад яго дасталося тым, хто жыве ў інтэрнаце: ён заняў там нейкую таямнічую пасаду галоўнага дзяжурнага і займеў амаль неабмежаваную ўладу. Што праўда, час ад часу наш Кароста прыходзіў на заняткі зь ліхтаром пад вокам, паходжаньне якога не было сакрэтам ні для каго, але гэта не выратоўвала нас ні ад адзіных палітдзён, ні ад нудных прамоваў, ні ад удзелу ў мітынгах БПСМ...

Кароста выцер вусы сурвэткай, падхапіў сваю папку з дыхтоўнай сьвіной скуры ды зьняўся зь месца. Праходзячы паўзь мяне, ён падміргнуў з паганенькай усьмешачкай:

— Прывітанне Андрэю!

Тоўстая яго дупа гойсала, як у недасведчанай прастытуткі.

— Трэба Андрэю тваё прывітанне як лысаму грэбень, — прабурчала я яму ўсьлед.

Уваходныя дзьверы зноў расчыніліся, і ўвайшоў Канстанта.

Гэта яшчэ адзін мой аднагрупнік. Завуць яго Канстанцінам, але, зноў-такі зь лёгкай рукі Дуба, інакш як Канстанта яго ніхто не называе. Зь нейкай нагоды ён не паехаў з намі на бульбу, і ўпершыню мы пабачылі гэтага зграбнага бялявага хлопца ў акулярах на першых занятках з вышэйшае матэматыкі. На тых самых занятках пазнаёміліся і з нашым выкладчыкам, Аляксандрам Ісакавічам Фрэбэргам, і ўпершыню сутыкнуліся зь яго неардынарнай манерай гаварыць.

— Ну-с, панове дармаеды, хуліганы ды алькаголікі, — сказаў Фрэбэрг, паклаўшы партфэль на стол, — зараз мы дасьледуем меру вашае дурасці. Прашу выказвацца!

Ён задаваў пытанне за пытаньнем. Хто на старце, хто на сярэдзіне, хто ў паўфінале — мы паступова адсейваліся. Фрэбэрг нас высмейваў. Нарэшце на дыстанцыі застаўся толькі бялявы хлапец. Ягоныя акуляры паблісквалі, а дарагая аправа кідала ў куткі сонечныя блікі. Ён выйшаў да дошкі. Формула за формулай узьнікалі на ёй і сціраліся напалову сухой анучай. Выраз твару выкладчыка зьмяніўся.

— Што ж, малады чалавек, нядрэнна. Нават вельмі нядрэнна. У вас неблагія шанцы. Дазвольце пацікавіцца, як вас завуць?

— Канстанты Мікашэвіч, — хлопец паправіў акуляры.

— Канстанты? Хм. Адэпт нацыянальнага руху, значыцца? Мы выйдзем шчыльнымі радамі? Дазвольце старому чалавеку даць вам адну параду… — Канстанты пачырванеў. — Зрэшты, — працягваў стары чалавек, якому было ніяк ня больш за трыццаць пяць, пільна разглядаючы твар адэпта, — у мяне яшчэ будзе для гэтага час. Сядайце, Канстанты. Пяройдзем да разгляду першае тэмы, панове дармаеды. Прашу разгарнуць сшыткі.

Дуб — майстар даваць людзям трапныя мянушкі. Канстанта таксама апраўдаў сваю. Ня ведаю, ці даў яму калі Фрэбэрг абяцаную параду, але на працягу ўсіх гэтых гадоў Канстанта заставаўся сабой — свядомым беларусам, сталым удзельнікам пікетаў і акцый, і ад яго палымяных прамоваў народ ухіляўся гэтаксама, як ад мітынгаў Каросты. Але, пасмейваючыся з палкасці нацыяналіста і перакладаючы ягоныя кантрольныя на рускую ў працэсе сьпісваньня, мы добра разумелі: настане час, і мы яшчэ будзем мець добрыя ганарары за ўспаміны пра тое, як вучыліся разам са знакамітым Міклашэвічам.

Тым часам, як нашы «навуковыя» опусы прыдатныя былі адно на тое, каб паставіць «птушачку» ў адпаведнай графе пляну працы са студэнтамі, а тады хіба на растопку, ягоныя працы друкаваліся ў часопісах Англіі і Расеі. Ён выйграваў алімпіяды. Ён выступаў на навуковых канфэрэнцыях. Ён быў надзеяй сусьветнай навукі, і мэтры, слухаючы ягоныя выступы, перапытвалі адзін аднаго, ці дакладна яны зразумелі той ці іншы беларускі матэматычны тэрмін — і на іх тварах сьвяцілася поўнае задавальненьне. Фрэбэрг быў яго навуковым кіраўніком.

І вось цяпер Канстанта, азіраючыся, стаяў на парозе «Піцэрыі» з такім выглядам, як быццам раптам захварэў на склероз. Я памахала яму. Нейк няпэўна ён падышоў і апусьціўся на крэсла так, бы асьцерагаўся, што яно пад ім разваліцца. Белыя яго валасы былі ўскудлачаныя.

— Ты выглядаеш, нібыта ня еў шэсць дзён, — заўважыла я.

— Ня шэсць. Толькі тры.

— Што так? На катэдры перасталі выдаваць заробак? У інтэрнаце ва ўсіх паканчаліся запасы сала?

— Я больш не працую на катэдры. І не жыву ў інтэрнаце.

Ён не жартаваў і не пасьміхаўся ў адказ на маю ўсьмешку.

— Ты што, сур'ёзна? Што здарылася?

— Што здарылася? Ды тое, што магло здарыцца ў кожны момант. Мяне выключаюць з інстытуту. Для пачатку звольнілі з катэдры за спазьненьне ды выключылі з інтэрнату за тое, што не прайшоў у час флюараграфію. Кароста асабіста прыходзіў выносіць мае рэчы.

— Кастусь, ты што гаворыш такое? Цябе выключаюць?! І Фрэбэрг дазволіў? Ды ён жа разьнясе рэктарат у шчэпы, перш чым там да чыёйсьці дурной даўбешкі прыйдзе думка цябе выключыць!

Косьця зняў акуляры, блізарука прыжмурыўся і ціха сказаў:

— Аляксандра Ісакавіча тут больш няма.

Калі б ён выкаціў з-за сьпіны гармату ды пальнуў у кут, ня выклікаў бы больш ашалелай рэакцыі. Я зьнямела.

Падышоў Пятро зь піцай, якую я замовіла раней.

— Вось, пабачыў, што вы занятыя размовай, вырашыў прынесьці.

Я паглядзела на яго няўцямным позіркам.

— Дзякуй, Пятро, — я зноў перавяла вочы на Канстанту. — Як гэта няма? Ён... памёр? — голас ня слухаўся мяне, і апошняе слова я прашаптала.

Канстанта пільна паглядзеў на мяне. Пэўна, яго зьдзівілі мае паводзіны.

— Не, не памёр, Бог з табой! Зьехаў. Цяпер ён у Нью-Ёрку.

— У Нью-Ёрку! Вось як! Але чаму (ён мне нічога не сказаў — хацела я вымавіць, ды своечасова спахапілася)... Але чаму?

Канстанта паціснуў плячыма.

— Чаму даўно ўжо ня зьехаў, лепш спытала б. Даўно гэта трэба было зрабіць. А апошнім часам яму далі зразумець... У тым самым рэктарацэ, які, па-твойму, ён павінен быў разьнесьці ў шчэпы. Дый ня толькі там. У кватэры Фрэбэрга падпалілі дзверы і пабілі вокны. Досыць красамоўна, праўда? Чаго было чакаць? У яго ж сям'я, жонка, ён адказны за іх...

— А за цябе? (А за мяне? — гучала ў думках. І Зарэмбачкін голас: «Скурвішся, Янінка, ох, глядзі, скурвішся!») А за нас?

— Што значыць — за цябе, за нас? — не зразумеў Канстанта. — Рукі ён пад мяне падставіў бы, ці што? І якая такая наагул можа быць адказнасць за вас? Дадуць вам новага выкладчыка, бязь ведаў не застанецеся. Перш за ўсё ён павінен быў думаць пра сям'ю.

— Так, — пагадзілася я. — Перш за ўсё пра сям'ю. — Мой погляд упаў на піцу, якая красавалася на стале і зь якой, як я заўважыла, Канстанта ня зводзіў галодных вачэй. — Зрабі ласку, Канстанты, ня дай прапасьці дабру. Я вось замовіла, але нешта мне ня вельмі добра — зьеж ты, а?

Канстанта каўтнуў сьліну.

— Ты сапраўды ня хочаш?

— Не, не хачу. І ты прабач, але я ненадоўга цябе пакіну, — мне хацелася адысціся.

Пахістваючыся, я дабралася да туалетнага пакою. Музыка сюды не даносілася. Я адчула, як тохкае ў скронях кроў.

Ну, вось ты і скурвілася. Прынамсі, абышліся з табой, як з курвай, — а калі з табой абыходзяцца, як з курвай, гэта і значыць, што ты скурвілася, ці ня так? Абапіраючыся на ракавіну, я холадна і павольна разглядала сябе ў люстры. Белыя валасы над ілбом, карыя вочы, поўныя вусны — мне захацелася самой сабе заехаць кіпцюрамі ў твар, раздрапаць сьветлую скуру, біцца галавой аб сцяну... Спакайней, Яніна. Няма ніякай бяды. Спакайней.

Калі я вярнулася, Дуб ужо нёс да стала, дзе цяпер сядзела яшчэ некалькі чалавек, піцу на ўсіх.

— Роспрягайтэ, хлопці, конэй, — заспяваў Дуб басам, кінуўшы піцу па стол, і замахаў рукамі, як дырыжор. — Дый лягайтэ спочываць, — адразу ж з гатоўнасцю падхапіла зала.

Зь нейкай пагоды Дуб быў вельмі вясёлы — добры гешэфт атрымаў ці што... Ён дырыжыраваў, як сапраўдны маэстра.

— А я піду ў сад зэлэны... — грымела адусюль.

Проста не піцэрыя, а хор імя Вяроўкі! Дуб усхадзіўся. Ён танцаваў паміж столікамі, шырока раскідваючы рукі і час ад часу б'ючы сябе па нагах. Да яго далучаліся іншыя. Пятро, праціраючы шклянкі, прытупваў у такт сьпеву. Канстанта сядзеў над пустой талеркай, прыгаломшана пасміхаючыся. Песьня завяршылася громам воплескаў і віскамі. (Вось таму я і люблю тут бываць — зазначу ў дужках.)

Дуб упаў на крэсла.

— А цяпер мне трэба нешта выпіць, каб узнавіць страчаныя запасы энэргіі.

— У цябе яны невычарпальныя.

— Памыляешся, Яня, вычарпальныя. Але, што важна, і ўзнаўляльныя, — Дуб добра лыгнуў. — Ня плач, Канстанта! — зьвярнуўся ён да пабітага лёсам аднагрупніка. — Час Х — дваццаць тры нуль-нуль. Месца сустрэчы — чорны ход роднага інтэрнату. У гэтую няпэўную й містычную гадзіну, калі ведзьмакі толькі зьбіраюцца на шабаш, а на НТВ пачынаецца апошні выпуск навінаў, прыкінешся сметніцай. Я асабіста занясу цябе назад у родныя пэнаты. Сонька, што замяняе на вахце выбылага ў сувязі з хваробай Каросту, заплюшчыць на гэта вочы — я адмыслова паклапаціўся. Вы будзеце смяяцца, але гэта абышлося мне ўсяго ў дзесяць баксаў і адну абяцанку.

— Спадзяюся, ты не паабяцаў Соньцы зь ёй ажаніцца? — не магла не пацікавіцца я.

— Сонька — чалавек разумны. Яна не адрываецца ад рэальнасці і добра яе разумее, — туманна адказаў Дуб. — Жыве звычай выносіць сьмецьце аб адзінаццатай гадзіне праз чорны ход! Досыць начаваць на вакзале! Эх, wonderful, — падхапіў Дуб безь пераходу, заглушаючы дынамікі, — wonderful life! — і памчаў танцаваць, зацягваючы за сабой у віхуру большую частку прысутных.

Я адсёрбнула соку. Праблему ўладкаваньня у жыцьці таленавітага, але не ляяльнага да ўладаў Канстанты ўзяў у свае моцныя худыя рукі на дзіва вясёлы Дуб. Мае праблемы застануцца мне. Я сачыла вачыма за скокамі Дуба і думала...

«...Яе густыя валасы льняной хваляй падалі на плечы, а ў вялікіх карых вачох зіхацелі далёкія таямнічыя зоркі» — так я была б апісала свой выгляд у рамане, калі б рабіла яго на замову выдавецтва «Арлекін».

Я часта заўважаю пільныя позіркі на вуліцах. Мужчыны пэўнага гатунку пачынаюць дрыжаць ад маёй усьмешкі або доўгага погляду. Гэта смешна. І гэта дапамагае дамагацца свайго. Толькі трэба ведаць, чаго ты хочаш дамагчыся. А я ня ведаю. Плыву па плыні, як ліст або гной з фэрмы. Там, дзе плынь павяртае, чапляюся за берагі. Вось чаму мая найлепшая сяброўка Зарэмба так сурова ацаніла маю будучыню. «Скурвішся, ох, скурвішся», — сказала яна, гледзячы на мяне абсалютна сур'ёзна. Мы сябруем з трэцяе клясы. Маці Алены — тувінка, і Алена ўспадкавала ад яе ўсходнюю зьнешнасьць, грацыю рухаў і містычную здольнасць пранікаць у сутнасць рэчаў. Яе словам можна верыць. Але я не паверыла.

Гісторыя з Фрэбэргам распачалася таму, што мая маці памерла ад раку — хутка і страшна. Я не магла жыць. Не магла быць дома. Ня дома мне было не лягчэй — але й не было так невыносна, як сярод сценаў, што бачылі яе агонію. На занятках я сядзела за шчыльнай чорнай заслонай, скрозь якую не праходзіла нічога — ні гукаў, ні сьвятла. Я не рэагавала на словы. І нашы, і выкладчыкі ведалі пра гэта — мяне ніхто не чапаў. Ніхто, акрамя Фрэбэрга.

Нейкі час, як я цяпер разумею, ён назіраў за мной, і вось на адным з заняткаў я пачула, што мяне выклікаюць да дошкі. Абсалютна абыякавая, я выйшла. Ясная рэч, я ня тое што не магла разьвязаць практыкаваньня з матаналізу, я нават ня ведала, зь якога боку да яго падступіцца. І не хацела ведаць — мне было ўсё адно. Мабыць, я нават не зусім усьведамляла, што са мной і дзе я, — амаль заўсёды перад маімі вачыма стаяў мамін твар, з голым — пасьля хіміятэрапіі —

чэрапам, з адвіслаю сківіцай. Апошнія пяць дзён яна была непрытомнай і ўвесь час стагнала... Стоячы ля дошкі з крэйдай у заціснутых пальцах, я чула гэтыя стогны — толькі гэтыя стогны, зрэшты, як і ўвесь час пасьля таго, як два неахайныя магільшчыкі апусьцілі труну з мамай у яму на Паўночных могілках... І раптам да мяне данёсься кплівы голас Фрэбэрга — поўныя жоўцi рэзкія словы:

— ... поўнай дурай. Так, так, поўнай дурай. Што вы глядзіце на мяне, нібыта на выкапня? Гэта я павінен на вас так глядзець — стаіце, як слуп, і ня здольныя разьвязаць просценькую задачу. Вы часам не ідыётка? Дыягназ ЗРР вам у дзяцінстве ня ставілі? А можа, у вас крытычныя дні — некаторыя жанчыны час ад часу прыкметна тупеюць? Ці гэта ваш звычайны фізіялягічны ўзровень разьвіцьця? Але ў такім разе даводжу да вашага ведама: ёлупням месца не ў інстытуце, а ў Навінках.

— У яе маці памерла, — ня вытрымаў зьдзекаў нехта з нашых.

— Вельмі шкада. Але, зь іншага боку, такой дурніцы, як вы, бяз маці толькі лепш. Весялей.

Гэтыя абразы даходзілі да мяне з пэўнай затрымкай — як у фільме, калі гук не супадае выявай. Калі дайшлі апошнія словы, са мной нешта здарылася. Мяне ахапіла дрыготка. Я пачырванела. Фрэбэрг стаяў ля акна і пільна назіраў за мной. Я закрычала «Быдла! Быдла!» і шпурнула ў яго крэйду, анучу, яго паперы, што ляжалі на стале, партфэль, асадку і, нарэшце, крэсла, на якім ён сядзеў. Дзечым пацэліла. Сьлёзы паліліся зь мяне ўпершыню пасьля пахаваньня, і, захлёбваючыся імі, я кінулася з аўдыторыі. Зарэмбачка паляцела за мной і ў туалеце, дзе я асела на падлогу, доўга моўчкі гладзіла мяне па валасах.

З таго дня я пачала ачуньваць. Жыцьцё паціху вярталася. Нарыў прарвала і выцек гной. Бацька ўздыхнуў з палёгкай.

Я многа думала пра Фрэбэрга, пра тое, чаму ён так злосна і жорстка мяне зьняважыў. Канешне, ён заўсёды гаварыў з намі, студэнтамі, дый з усімі, насмешліва і іранічна, мог высмеяць няздолу, але кпіны яго былі вясёлыя і жартаўлівыя — на ягоных занятках іншы раз аж стагналі ад рогату, як на добрых камэдыях... Дык чаму, за што ён так зьдзекаваўся зь мяне? Зарэмба, калі я паспрабавала загаварыць зь ёй пра гэта, адмоўчвалася.

На вышку (так мы называем міжсобку вышэйшую матэматыку) я не хадзіла і не пайшла б пад пагрозай расстрэлу. Я старанна ўхілялася ад магчымых сустрэчаў з Фрэбэргам у нашых гулкіх доўгіх калідорах. І вось аднойчы Алена данесла:

— Фрэбэрг пытаўся, чаму ты ня ходзіш на заняткі, і сказаў, што падасць зьвесткі аб пропусках у дэканат.

— Няхай.

— Ну і чым гэта скончыцца? Цябе пазбавяць стыпухі. А як ты будзеш здаваць іспыт?

Яна мела рацыю, але пляваць я хацела на ўсе рацыі сьвету! Раззлаваная, я павярнулася, каб сказаць, што ніколі ня выбачу чалавеку, які так мяне абразіў, што не магу яго бачыць, што лепш вылечу з інстыку, чымся слова скажу гэтаму паганаму сіяністу… Фрэбэрг ішоў па калідоры, ішоў да нас — гэта было несумненна. Ён адмыслова спусціўся ў бэтонныя кратаваныя казэматы, дзе ў нас меліся быць лябараторныя з квантавай мэханікі, ды йшоў да нас.

Алена павіталася.

— Калі можна, я прасіў бы вас на два словы, — зьвярнуўся ён да мяне.

Я адмоўна пахітала галавой.

— Магчыма, я вінаваты перад вамі, і ў вас ёсьць прычыны крыўдаваць на мяне. Магчыма, і ў мяне былі прычыны паводзіць сябе так, як я сябе паводзіў, — але я ня буду на іх спасылацца. Скажу з усёй шчырасцю, што шкадую, калі пакрыўдзіў вас, і прашу за гэта прабачэньня, — сур'ёзна сказаў Аляксандар Ісакавіч.

Я пачырванела. На маё зьдзіўленьне, Алена таксама запунсавела.

Ну што ж, паслухаю, што за два словы хоча ён мне сказаць… Ён прывёў мяне ў пустую аўдыторыю і тут, сярод крэслаў, дагары нагамі пастаўленых на сталы, падышоў і пагладзіў па валасах. У шоку я падняла на яго позірк. Гэтага яшчэ… Але ён не зьбіраўся мяне шкадаваць, выказваць спачуванне, чаго я вельмі баялася. Вочы яго глядзелі так… Так… У мяне нэрвова здрыганулася павека — раптам я зразумела мужыкоў, зь якіх смяялася раней, і замерла. Я баялася варухнуцца — усё здавалася непраўдападобным, я не хацела па рушаць таго, што адбывалася, я ня ведала, што адбываецца, і старалася не дрыжаць…

Ён вельмі прыгожы — выкшталцонай, народнай прыгажосцю моцнага разумнага мужчыны. Ці заўважала я гэта раней? Пэўна так, але толькі зараз яго прыхаваная моц раптам абрынулася на мяне. Ён палка пацалаваў мяне ў вусны — і забі мяне Бог, калі я думала ў гэты момант хоць бы пра што-небудзь… Шарахнуў званок. Адарваўшыся, але моцна трымаючы мяне за рукі, ён назваў адрас.

— Заўтра, а пятай. Я буду цябе чакаць.

Нічога больш ня кажучы, пайшоў. Я глядзела на свае рукі, барвова паплямаваныя ягонымі пальцамі, і шэптам паўтарала адрас…

...па якім назаўтра, стоячы ля дзьвярэй, ужо мо трэці раз уздымала руку і зноў апускала, так і не наважваючыся націснуць званок. Раптоўна, без усялякага з майго боку націсканьня, дзьверы рэзка расчыніліся, і той, хто стаяў за імі, нецярпліва рвануў мяне праз парог усярэдзіну. Дзьверы зноў ляснулі, і замок зашчоўкнуўся...

Так пачаўся наш раман, калі толькі гэта можна назваць раманам. Мы бачыліся даволі часта, кожны раз у яго, і кожны раз гэта было нейкае шаленства. Мы мала гаварылі, зрэдку разам вячэралі. Я ніколі не гатавала яму ежы. Ён ніколі не праводзіў мяне дадому, ніколі не загаворваў ні пра будучыню, ні пра інстытуцкія справы мы толькі зрэдчас разам елі вячэру, якую нехта гатаваў загадзя. Дзіўнаватыя адносіны, праўда? Тым ня менш, на працягу пэўнага часу гэтыя дзіўныя дачыненні рабілі мяне вельмі шчаслівай (тады, дарэчы, Зарэмба і зрабіла сваё памянёнае вышэй змрочнае прароцтва). Даволі хутка ўзьнёсла-дурное шчасце зьмянілася адчаем — няма куды глыбейшым, адчай — зноў шчасьцем, арэлі, заціхаючы, хіснуліся яшчэ пару разоў і спыніліся — справа, словам, зразумелая, звычная... Маё хваляваньне неяк абсела, я ўсвядоміла, што ў гэтай гісторыі ад мяне ня будзе залежаць нічога — моцанькі не стае, інтэлекту. Ня вельмі мне гэта падабалася, і дайшло да таго, што я вырашыла разарваць з Фрэбэргам А. І. — то бок настаяць на сваім, прымусіць паважаць сябе і г. д., — і ў далёкіх закутках падсвядомасці ўжо вымалёўвалася салодкая карціна: незалежная і гордая я — на пастамэнце самапавагі — і Фрэберг А. І. на каленях просіць прабачэньня, рукі, сэрца і дазволу пазнаёміцца з бацькам, і нашае сумеснае жыцьцё зіхаціць і зьзяе пад гукі шлюбнага маршу... Нічым мары ня скончыліся, канешне, — я прыходзіла да яго кожны раз, калі ён клікаў, хацела не ісьці і не магла, кожны раз змагалася з сабой да апошняй хвіліны, а потым ліхаманкава зьбіралася і хапала таксі... Гэта была жарсьць. Ня трэба мяне за гэта бэсьціць, вы п'яце гарэлку, а я прагну каханьня. Хай яно гарыць! Дужэйшы ён за мяне. Прагнуў мяне і атрымаў. А я прагну яго — і маеш! У Нью-Ёрку!..

...Дуб з Канстантам, як кавалеры, правялі мяне дадому, і Дуб на разьвітаньне, цалуючы ручку, зазначыў:

— Я не прашу мадмуазэль выйсці за мяне замуж, але, о сьвенты Божа, якую я гэтым раблю памылку! — зрабіў жэст, які меўся азначаць глыбіню яго гора, і зьехаў па парэнчы — яму яшчэ ўладкаваць у інтэрнаце Канстанту і разлічыцца з Сонькай...

Бацька ня спаў, наўмысна чакаў мяне, каб расказаць пра сёньняшні выклік да сьледчага.

— Пазванілі мне на працу, прапанавалі прыйсьці — я і пайшоў, як добры дурань, — бацька хадзіў туды-сюды па кухні, і я вадзіла за ім галавой. — Мог бы й не вярнуцца!

— Як так? — ня ўцяміла я.

— А так! Сьледчы гэты, забыў прозьвішча, млявы, як цела без душы, паказаў мне фота забітага і пытае: ці ведаеце вы гэтага чалавека? Прыгледзеўся я — а гэта Мянцей! Так, кажу, ведаю, працавалі раней разам. А калі, пытаецца, вы яго бачылі апошні раз? Ды, кажу, з паўгоду таму, тады ён якраз звольніўся. А следзтва, кажа той, мае зьвесткі, што вы бачыліся з пацярпелым непасрэдна перад ягонай сьмерцю. Якія такія, кажу, зьвесткі? Не сказаў, якія, выклаў на стол наш нож і пытаецца: пазнаяце гэтую рэч? Як, кажу, не пазнаць, калі гэтым нажом ужо мо дзесяць гадоў хлеб краю. Гэтым нажом, кажа, забілі грамадзяніна Мянцея, і на тронку былі знойдзеныя толькі вашыя адбіткі пальцаў. Чым вы гэта патлумачыце? Тым, кажу, і патлумачу: дзесяць гадоў ім карыстаюся, то як ня быць тым адбіткам? І няўжо ж вы думаеце, кажу, што, калі б я забіў Мянцея, то не паклапаціўся б тронак працерці? Ці прызнаеце, кажа, што шэсьць месяцаў таму пагражалі Мянцею сьмерцю? Тут я і вочы вылупіў. Гэты Мянцей, бачыш, быў такая шваль, што пашукаць, — нервуючыся, працягваў бацька. — І якраз перад яго звальненьнем, сапраўды, быў выпадак — ды што, праз той выпадак ён, па сутнасьці, і звольніўся. Прыйшла да нас у кансультацыю, разумееш, старая — пад фартухом увесь век сядзела, нейкай машыністкай жыцьцё адпрацавала, ці што, ні чорта ні ў чым не разьбіраецца — і дапамажыце ёй аформіць дамову зь нейкай цётухнай, тая будзе старасьць старэчую даглядаць, а па сьмерці — атрымае кватэру ў спадчыну. Чула, відаць, старая, што ў такіх выпадках можна натрапіць на махляроў, але дзе падзенешся, старасць — ня радасць, горб — не карысць, дажываць неяк трэба. І нехта з суседак падвучыў: а пайдзі ж ты ў такую ды такую юрыдычную кансультацыю, да таго й таго, вось яна й прыцягнулася да мяне. Я, як на тое, быў вельмі заняты, а тут Мянцей падвярнуўся — давайце, кажа, я бабульцы дапамагу. Ну дапамагай! І дапамог! Тая шлёндра, якая хацела адцяпаць яе кватэру, Мянцею адваліла добры куш, і ён такую дамову накатаў, што трымайся! Бабулька давярала яму сьлепа — а як жа ж, юрыст зь дзяржаўнай, даруй, Госпадзе, установы, рассыпаўся перад ёй дробным макам, галаву тлуміў, ну, яна й падпісала ўсё, ня гледзячы. А як толькі падпісала, то яе з кватэры і выперлі! Згодна з падпісанай дамовай! Старая, енчачы, зноў прыкляпалася да нас. Я гляджу — а яна ж, высвятляецца, па дакумэнтах кватэру прадала, прэтэнзій ня мае, і распіска ёсць, і ўсё ў натарыюса засведчана як

мае быць! Сядзіць тая старая перада мной ды плача — начавала яна на прыступцы ля кансультацыі, бо там яе ўжо і на парог не пусцілі. І тут зьяўляецца Мянцей на працу — сыты, пад гальштукам, парфумай ад яго тхне. Ну, я й не стрымаўся. (Веру, падумала я, наконт «не стрымаўся», ахвотна веру). Гальштук яму сарваў і ў каўнер наклаў як мае быць. Галіна Казіміраўна ды Маргарыта Яўсееўна адцягвалі... Вось пасля таго Мянцей і звольніўся, — бацька ўскудлаціў валасы. — І вось бачыш, цяперака я яго забіў! Бо паўгоду таму пагражаў забіць! Я і дзе-што іншае пагражаў яму зрабіць, кажу таму недаробку, дык што ж? Ці ў яго і яйцы адарваныя выявіліся? А дзе вы былі тады і тады, пытаецца ён. А ляд яго знае, я ж дзёньнікаў не вяду! А калі так, кажа ён, то нам давядзецца вас затрымаць, згодна з кодэксам, на сорак восем гадзінаў да высьвятленьня!

— А Божа мілы! — толькі й магла я сказаць.

— І затрымалі! Пад канвоем павялі некуды...

— Слухай, тата, а ты выпадкова са сьледчым ня біўся? — падазрона перабіла я.

— Пры чым тут біўся? — раззлаваўся тата. — Біўся тут не пры чым. (Значыцца, было, вырашыла я сама сабе.) А пры чым тут тое, што вядуць мяне па калідоры, а насустрач, дзякуй Богу, твой Андрэй. Пабачыў мяне, вочы вырачыў, як на здань. Ну, зразумела, выбавіў мяне, адпусцілі, падпіску толькі ўзялі...

Я перавяла дух. Аднак!

Выгаварыўшыся, бацька прыйшоў у дзелавы настрой, заявіў, што не на таго напалі і выявіў жаданьне зьвязацца заўтра з аднакурснікам, які зрабіўся цяпер знакамітым адвакатам, — маўляў, дзьве галавы — значна лепш за адну. Дамовіліся мы і пра тое, як будзем дзейнічаць, калі яго заграбуць раптоўна ды ў маю адсутнасць.

Перад сном, у ложку, я абдумвала пачутае. Бачыш ты, які́м неспадзяваным чынам Андрэй прыдаўся!

...Андрэй напачатку таксама працаваў у бацькавай кансультацыі. Калі пасля смерці мамы мінуў год, а гісторыя з Фрэбэргам выйшла на стадыю загасаючых арэляў, я раптам зьвярнула ўвагу на свайго тату і вырашыла, што ім трэба заняцца. Нічога лепшага, як адзначыць яго пяцідзесяцігодзьдзе, я не прыдумала. Я як была развважала? Час цячэ, і ўсё павінна працягвацца, а мамы ня вернеш — чаму б татусю не пашукаць каго-небудзь, хто верне яму стымул да жыцьця? Ён у мяне вельмі прыгожы і больш за каго іншага варты таго, каб жыць шчасліва. Дый бачыла, бачыла я, як на яго глядзяць свабодныя пані зь іх кансультацыі, чула, якімі салодкімі галасамі гавораць яны са мной... Бацька, трохі нечакана для мяне, адразу

пагадзіўся адзначыць юбілей і запрасіць на яго супрацоўнікаў: «Што ж, разам былі і на кані, і пад канём, зьведалі, дзе чэрці начуюць, — можна й паклікаць, што ж».

Такім чынам, справа разгарнулася. Маючы пэўны досьвед стасункаў зь менскімі рэстарацыямі, вырашылі гасцей клікаць дадому — так больш утульна. Мы з Аленай, якую я прыцягнула на дапамогу як знатную кулінарку, працавалі два дні і дзьве ночы, каб вечар атрымаўся беззаганным. Супрацоўнікі зьявіліся акурат у прызначаны час і ў поўным зборы — дзевяць чароўных паняў з канцылярыі, трое сівагаловых і да д'ябла хітрых юрыстаў і Андрэй. Стол, які зьзяў і сьвяціўся, вельмі спадабаўся бацьку, спадабаліся і антыкварныя тамы Бракгаўза і Эфрона, якія яму паднеслі ў падарунак. Пад каньяк і віно, пад прысмакі, якія мы з Аленай рэгулярна падцягвалі з кухні, бяседа бегла на мазаных колах. Вось ужо ўспаміны пра смешныя выпадкі залуналі над сталом, і хвалі сьмеху трохі размазалі макіяж чароўных паняў, а сівыя мнагамудрыя законьнікі разружавеліся ды разьмяклі і нават злучна адсьпявалі песьню. Надышоў час перайсьці ў суседні пакой для танцаў, а нам з Аленай — прыбраць стол для дэсэрту. Мы закруціліся, я выпусьціла сітуацыю з-пад кантролю і тым самым зрабіла памылку. Між тым, як выявілася потым, паміж танцамі мужчыны зачаста прыкладаліся да каньяку, які стаяў на маленькім століку. Пасьля дэсерту, калі ўсе зноў пайшлі танцаваць, катастрофа і грымнула: нехта паставіў старую кружэлку Джо Дасэна. Я так і войкнула ведала бо, што з гэтай кружэлкай зьвязаныя асаблівыя ўспаміны — яе вельмі любіла мама.

Бацька, які добра-такі выпіў, ня стаў запрашаць на танец і выбіраць сабе ў сяброўкі каго з дамаў, дзеля чаго ўвесь вечар і выдумваўся. Ён сеў на канапу і горка заплакаў. Калі дамы, спачуваючы, абступілі яго з намерам суцешыць, ён, усхліпваючы, абвясьціў, што хоць усе яны, як адна, вельмі прыгожыя і добрыя, усё ж ніводная ня вартая нават падэшвы яго памерлае жонкі. Дамы толькі пераглянуліся. Бацька, на бяду, гэты абмен позіркамі заўважыў і ўзьлютаваў. Яму многа ня трэба, каб разьюшыцца! Словам, ён разагнаў дамачак такімі выразамі, якія вымаўляць у іх прысутнасьці ня толькі не пажадана, але й настойліва не рэкамендуецца. Гетага яму падалося мала, і ён працягваў: «Умееце пагладзіць, калі запрагаеце! Бачу вас навылёт! Кожную!» — і даволі падрабязна распавёў, што менавіта ён там бачыць у кожнай...

Пасьля гетага зьбянтэжаныя дамы хуценька купкай пайшлі з гасьцей. Потым, чухаючы патыліцы ды паляпваючы асавелага бацьку па плячах «Нічога, Рыгоравіч, як-небудзь!», папляліся па хатах немала-

дыя калегі-мужчыны. Застаўся толькі Андрэй. І тут бацьку стала блага.

Мы з Андрэем хадзілі вакол яго ўсю ноч. Ня ведаю, што я без Андрэя рабіла б ніякага досведу дапамогі п'яным у мяне не было. Пад ранак, калі пачало сьвітаць, і бацька нарэшце супакоіўся, Андрэй заснуў у фателі. Я якраз прынесла яму кавы. Ён спаў спакойна, толькі трошкі паводзіў плячом і раптам у сне сказаў: «Холадна. Накрыйце мяне андаракам». Ад перажытых устрэсаў, ад недарэчных ягоных слоў, ад удзячнасці за дапамогу мяне раптам праняла такая пяшчота... Вось як бывае: наладзіла вечарыну, каб пазбавіць тату адзіноты, а ў выніку знайшла сабе жаніха, за якога мелася выйсці замуж і тым самым зрабіць бацьку яшчэ больш самотным... Андрэй вельмі настойвае на шлюбе, асабліва апошнім часам... Пакуль разьвіваліся мае адносіны з Андрэем — зразумелыя, пэрспэктыўныя, як мае быць, — Фрэбэрг цёмнай плямай ляжаў на маім сумленьні, але горкі той келіх піўся патроху... Хутка, пэўна, мы з Андрэем пажэнімся. Але хто б мог падумаць, што яшчэ хутчэй спатрэбіцца мне яго прафэсійная дапамога — неўзабаве пасьля таго памятнага юбілею ён перайшоў працаваць туды, дзе бацька, дзякуй Богу, сустрэў яго сёньня ў калідоры...

Сон змарыў мяне, і дзень дыплёмнага праектавання, нарэшце, скончыўся.

## Тарас Сьлёзка

Што ня бацька забіў Мянцея, мне было, безумоўна, ясна. Не такі чалавек! Канешне, ён заводзіцца з паўабароту, але ж і хутка адыходзіць. Прыкладам, са сваімі дамачкамі замірыўся на наступны ж дзень, прычым, як разказваў мне потым Андрэй, прымірэнне атрымалася поўным і завяршылася кавай з бутэрбродамі, шморганьнем насамі, скамечанымі насоўкамі і цалаваньнем рук з бацькавага боку... Бацька — забойца? Нонсэнс! Лухта! Але гэта лухта для мяне, якая яго ведае больш за дваццаць гадоў. А для сьледзтва?

Я замерла з алоўкам ля брыва (разважаючы сам-насам, я малявала «святочнае вока» — мелася сёньня ісьці на дзень нараджэньня да Зарэмбы). Не, нават сьледзтва павінна бачыць, што канцы з канцамі не сыходзяцца. Матыву няма — не за бабульку ж помсціў! Дапусцім на хвілю, забойства нематываванае — вось проста з ласкі на пацеху. Як яно магло б адбыцца? Што, бацька паклікаў Мянцея на дачу, і той чамусьці прыехаў? Забіў яго недзе ў Менску, а тады адвёз цела ў нашу прыбіральню? На чым адвёз, калі й навошта? Трэба насесьці на

Андрэя, няхай колецца. Што там вёрз следчы наконт таго, што бацька быццам нядаўна бачыўся зь Мянцеем?

Я вельмі шкадавала, што не магу вось зараз жа пазваніць Андрэю — ён жыве ў інтэрнаце, і вахцёр кліча яго толькі тады, калі звоняць з працы… А мабільнік ягоны адключаны — на апэрацыі, мусіць.

Мы сустрэліся, як і дамаўляліся, ля дому Алены, але насесьці на Андрэя ў мяне ня вельмі-такі атрымалася. На ўсе мае пытаньні ён адказваў унікліва:

— Службовая таямніца. Ведаеш пра такое паняцьце? То ж бо то.

Зразумела, мяне гэта ніяк не задавальняла, і тыя дзесяць хвілінаў, пакуль мы паціхеньку ішлі, я закасавала ўсе вядомыя мне метады здабыцьця інфармацыі: просьбы, патрабаваньні, лісьліўства, шантаж, подкуп. Бясплённа! Нарэшце, ужо ля ліфта, Андрэй сказаў:

— Не мітусіся, Яніна! Твой бацька — ня мой бацька (пакуль што), таму для мяне зусім не аксіёма, што ён ня можа забіць. Ён гаворыць, што ня бачыўся зь Мянцеем, але ёсць сьведкі, якія гавораць, што бачылі іх разам за дзень да таго, як ты знайшла труп… Дый характар у Рыгоравіча — ня дай Божа, сьмела можна лічыць ускосным доказам віны. Але, спадзяюся, твой бацька хутка стане і маім бацькам, таму я зраблю ўсё магчымае, каб ён не пацярпеў — незалежна ад таго, вінаваты ён у чым ці не.

Я ажно рот разявіла! Андрэй дапускае, што бацька можа быць забойцам!

— Што ты вярзеш? Навошта бацька хаваў бы труп у прыбіральні? Навошта на наступны дзень дазволіў мне ехаць на дачу? Каб я той труп там знайшла?

— Ты магла паехаць і без дазволу.

— Але ж я яго спытала.

— Гэта ты так кажаш.

— Што-о-о!?

— А тое, — раздражнёна сказаў Андрэй, — што з фармальнага пункту гледжаньня доказаў віны твайго бацькі больш чым дастаткова. Зразумей ты гэта нарэшце! Зараз ён мог бы сядзець — і сядзеў бы, калі б ня выпадак. Ты ня горш за мяне разумееш, што факты можна лёгка паварочваць — адным бокам, другім… І факты лёгка абарочваюцца супраць яго.

Ліфт, які ўжо доўга стаяў з разяўленай пашчай, драпежна шчоўкнуў сківіцамі і панёсься ад нас наверх.

— Значыцца, доказаў хапае? А як з тэмай «Рыгоравіч — забойца» стасуецца тое, што мяне грымнулі абухом па кумпале?! Бацька і

грымнуў, значыць?! А тое, што за мной сачылі?! Бацька сачыў?! Можа, бацька ў мяне і страляў?! — раззлавалася я.

Ліфт прыгнаўся назад. Зь яго выйшла дама з сабачкам — апошні памерам зь цяля, — і яны разам прадэфілявалі між намі. У дзьвярах пад'езду сабака разгаўкаўся: зь вялізным, запакаваным у паперу букетам у вэстыбюль бокам прасунуўся Фабіян Дуброўскі. Зьяўленьне ягонай худой асобы перапыніла нашую спрэчку, але, паціснуўшы Дубу руку і прапускаючы яго наперад сябе ў ліфт, Андрэй палічыў магчымым дадаць:

— Гэтыя эпізоды могуць быць і не зьвязаныя адзін з адным. А можа, і зьвязаныя. Тлумачэньняў тут можа быць шмат. Я табе ўжо абяцаў, што разьбяруся ва ўсім, — і разьбяруся. Ты толькі не мітусіся. Ты не заўважаў, Фабіян, — зьвярнуўся ён да Дуба, — што ў Яніны з узростам разьвіваецца тыповая жаночая хвароба: яна лічыць сябе разумнейшай за ўсіх?

— Як не заўважыць, заўважаў, — сказаў Дуб, свідруючы мяне здаровым вокам, тым часам як крывое, нерухомае, напаўпрыкрытае павекам глядзела проста перад сабой. — Я заўважаю, што ня толькі яна лічыць сябе разумнейшай за ўсіх. Многія лічаць. Я вось, прыкладам, — дадаў ён, каб ня быць няправільна зразуметым, — таксама гэта за сабой заўважаю. Эпідэмія, мабыць!

Дзень нараджэння быў у стадыі перадпачатку. Недзе ў глыбі вялікай кватэры, адкуль ужо даносіўся гул галасоў, знаходзіўся чалавек, які буяў прычынай сёньняшняга збору ў яшчэ большай ступені, чым сама Алена.

Ёсць людзі бесталковыя. Ім не шанцуе ў жыцьці, яны заўсёды ня тое гавораць, а іхныя ўчынкі прыносяць неспадзяваныя для іх вынікі. Не такая Алена. Дзякуючы маці яна таемнымі шляхамі ўмее пранікаць у сутнасьць рэчаў, ня тое што словаў. У яе здольнасці лекаваць, і лечыць яна лепш за дактароў — прынамсі, дактароў з нашай паліклінікі. Яна вельмі прыгожа сьпявае песьні будыйскіх манахаў (тувінскіх) і «січэвых стрільців» (галічанаў). Ад бацькі яе пашпартная нацыянальнасць — украінка.

Украінскі нацыяналіст Тарас Сьлёзка ўсе паўтара году, што сядзеў у беларускай турме, перапісваўся з Аленай. Мой Андрэй колькі разоў дапамагаў ёй атрымаць дазвол на сустрэчу, а таксама на дадатковыя прадуктовыя перадачы. Алена пабачыла Сьлёзку на судзе, і некалькі дзён потым была вельмі задуменнай і ціхай. Тады яна расказала мне, чамусьці зь нейкай пытальнай інтанацыяй, пра тое, пра што даведалася з украінскіх газэт у Інтэрнэце і з бацькавых кніг: пра славутага дзеда Сьлёзкі — уніяцкага мітрапаліта Андрыя, які дзяку-

ючы свайму нязломнаму духу карыстаўся такой невымернай павагай у Львове, што, калі ён зьвярнуўся з адкрытым лістом да Гімлера (!), у якім асуджаў забойствы габрэяў, немцы пабаяліся яго арыштаваць... расказала пра сухую галадоўку ўнука, вынікам якой сталася вяртаньне ўніятам храму, у якім служыў колісь дзед... пра разгром УПА ў палескіх балотах... пра Салжаніцына, якому стала вальней дыхаць у Гулагу, калі туды прыслалі разгромленых ваякаў — жорсткіх, бязьлітасных забойцаў, вострыя нажы якіх несьлі пэўную і лютую пагібель стукачам... Пра што яна пыталася ў мяне, калі гаварыла? Гэта я павінна была зразумець сёньня... Алена — адна з самых дарагіх мне людзей. Таму, седзячы за сталом, я паціху разглядала таго, хто, як я падазравала, мог мець не абы-які ўплыў на яе лёс.

Сьлёзка мне спадабаўся. Зарэмба зноў патрапіла ў яблычак. Хударлявы, аж да сухога, невысокі, у да болю айчыннай кашульцы — на такім не затрымаецца погляд на вуліцы або ў тралейбусе. Але ў выразе твару, у рысах нешта такое, што адразу ўспамінаецца біблійны выраз пра «малых сіх» — ён зь іх... Позірк не пусты ні на хвілю і мяняецца хутка й выразна: на гасьцей за сталом (глыбока схаваная насьцярожанасьць), на букет жоўтых і блакітных кветак на стале (дакладна перадаюць колеры ўкраінскага сьцягу), а тады — на Алену (погляд мякчэе і супакойваецца). Каля яго толькі шклянка з сокам — не ўжывае алкаголю.

Сядзець за сталом Алены цікава й прыемна, і хутка мая легкадумнасць і прага жыцьця пераважылі: я забылася пра свае шматлікія клопаты і лёгкая палярына агульнай размовы атуліла мяне...

Дуб сёньня зусім не такі вясёлы, як учора. Я выбрала момант і спыталася напаўголасу:

— Ну што, сёньня Канстанту зноў праз чорны ход павалачэш?

— Ані! — таксама ціха адказаў Дуб. — Часовы пропуск. Каштаваў сотню баксаў. Кароста зрабіў ласку прыняць. Журыўся, што заробак затрымваюць, выплачваюць край нерэгулярна.

— І ты яму паспачуваў?

— Шчыра і ад душы!

— Бач ты! — я адсёрбнула ліманаду (я сёньня таксама не ўжываю алькаголю).

Калі першы голад ужо паталіўся стравамі, якія менш за ўсё нагадвалі традыцыйныя для менскіх бясед салат-аліўе ды селядцы пад футрам, я прыслухалася да размовы, якая вялася на тым канцы стала, дзе сядзеў Канстанта:

— Годнасць гэта тое, чаго не стае многім. Нічога ня зробіш. Можна толькі паспачуваць: і тым, хто ня ведае, што такое годнасць, і тым, хто ведае і мусіць жыць сярод тых, хто ня ведае, — гаварыў ён.

— Зьбітыя фразы, і нічога больш, — запярэчыла Алена. — На самай справе ты проста рамантык, які добра ведае матэматыку і зусім ня ведае жыцьця. Ня вельмі ты разумееш людзей, іх матывы і клопаты. Для цябе ўсё абмяжоўваецца адказам на адно пытанне: як ставіцца чалавек да нацыянальнага адраджэння. Насамрэч нацыянальная свядомасць — гэта самы канец доўгага ланцуга, і ў ім ёсць значна больш важкія зьвёны.

Укормлены русявы незнаёмец павольным рухам адклаў відэлец і шчыпцы — адзіны з усёй кампаніі ён ведаў, як прынята есці смаўжоў, што й дэманстраваў з прыхаваным гонарам.

— Народы жывуць, а потым слабеюць і зьнікаюць, — сказаў ён выразна і мэлянхалічна, макнуўшы кавалачак хлеба ў гарачае масла. — Звычайная зьява. Беларусы як народ даўно ўжо бясьсільныя. Хоць аб сьцяну біся лобам, хоць зь мітынгаў не вылазь — гэта нічога ня зьменіць.

— Хто? — спытала я вачыма ў Дуба.

— Юрась Гарбузок. Публіцыст, — шэптам патлумачыў той.

— Тым ня менш, ты бываеш на ўсіх мітынгах.

— А які толк?— спытаўся Гарбузок, адкінуўшыся на спінку крэсла.

— Гэтае самае пытанне я задаў сёння Хадыку, — сказаў Сьлёзка, і ўсе імгненна павярнуліся да яго. — І я быў сёньня на мітынгу...

— Даўно з турмы, знудзіліся, назад карціць?— вырвалася ў мяне.

— Як я мог не пайсьці? — ён коратка зірнуў на мяне. — Мне хацелася пайсці, і ня дзеля сябе, а дзеля беларусаў, тых, хто там быў. А яшчэ мне хацелася сказаць нешта ў камеры гэбістам — і я сказаў... — ён на імгненьне змоўк і працягваў. — Дарэчы, у турме ў мяне не было самага шчаслівага дня — за кожны Богу дзякаваў, калі мінаў, а вось самы цяжкі — быў. Праз год адсідкі, калі я пабачыў па тэлевізіі Чарнобыльскае шэсьце наступнага году. Улады настолькі вас не баяліся, што нават ня вывелі на вуліцы міліцыю... Тады мне прыйшлося стрымацца, каб не спытаць самога сябе: «Дзеля чаго я тут сяджу?»

— Тэрарызм — ня наш шлях, — хутка сказаў Гарбузоў, выпраставшыся, як быццам і не ў адказ на словы Сьлёзкі.

— Чы ня пан толькі што сказаў, што ў беларусаў наагул няма ніякага шляху? — ветліва запытаў той.

— Гэта ня значыць, што я не пайду праз пустку. Нават калі дарога не прывядзе нікуды.

— Я спытаўся ў Хадыкі, — працягваў Сьлёзка, — якая ж мэта сённяшняга мітынгу? Прайшлі закуткамі з аднаго бязьлюднага месца ў другое, пагаварылі самі з сабой, пастаялі ланцугом, узяўшыся за рукі... Ён так нічога ўцямнага мне і не патлумачыў, праўда, у яго было там шмат розных клопатаў... Вы можаце блукаць пусткаю, калі вам падабаюцца краявіды. Мне ж здаецца, што пустка такая рэч, якую трэба мінуць як мага хутчэй, па азімуце, з тым, каб выйсці да больш прывабных мясцінаў... Такія мітынгі будуць усё менш і менш людны́мі.

— Праліваць чужую кроў ня мае апраўдання, — зазначыў Гарбузоў, гледзячы ўніз.

— Пан ня можа ня ведаць, што кроў павінна праліцца. Інакш папросту нічога нельга зьмяніць.

«Кроў не праліецца, — пачула я нечы голас і спалохалася. — Загніваючы, яна будзе стаяць і стаяць...»

— Ці мала крыві было праліта ва Украіне? — перайшоў у наступ Гарбузок. — А ўкраінскія кніжкі выдаюцца такімі самымі мізэрнымі накладамі, што й беларускія. І ваш Лука, аналяг нашага, не прымусіць сябе доўга чакаць.

— Пан хоча мяне абразіць?

— Барані Бог! Я толькі хачу сказаць, што адзіная гарантыя незалежнасці народу — калі наагул можна гаварыць пра нейкія гарантыі — больш высокі ўзровень яго культуры. Толькі тады можна быць упэўненым, што больш шматлікі народ-сусед ня зможа надоўга падмяць яго пад сябе...

— Узровень культуры? — з сумненьнем перапытаў Сьлёзка. — А чым яго можна памераць? Прабачце, але так можа гаварыць той, хто ня хоча або ня знае, як перамагчы несправядлівасць.

— Вы думаеце, што, купіўшы кулямёт і пайшоўшы ў лес, я змагу абараніць справядлівасць?

— А вы сапраўды зможаце пайсьці ў лес? — спытаў Тарас Сьлёзка, падаўшыся наперад і нахіліўшыся над сталом да Гарбузка.

Мой Андрэй кульнуў чарку каньяку.

— Даўно ўжо час адрадзіць мастацтва застольных дыспутаў, — сказаў ён, устаючы, і мяне зьдзівіў выраз ягонага твару. — Дзякуй, мілая Алена, за смачны пачастунак, — ён абышоў вакол стала і пацалаваў ёй руку. — На жаль, я мушу ісці, тэрміновыя справы. Дзякуй яшчэ раз. Да пабачэння, панове, — ён зьлёгку пакланіўся і імкліва выйшаў.

На мяне ён не паглядзеў. Ні пра якія тэрміновыя справы я нічога ня ведала. Затое Дуб не адрываў ад мяне прозірку, бы прыліпшы, і ў

ягоным здаровым воку гарэла жарсьць. Крывое вока строга ўперылася паперад сябе.

### Размова

Дзень нараджэньня скончыўся. Скончыліся застольныя дыспуты й танцы, скончыліся сьмех зь песьнямі ды хмельныя пацалункі на паўднёвым бальконе, сярод блакітных кветак павойнага страснацьвету, скончыліся цыгарэты й віно. Нікога не было ў вялікай кватэры з высокай стольлю, апроч нас з Аленай. Тараса, які ўжо некалькі дзён жыў тут, забраў з сабой Гарбузоў, прысягнуўшы Алене, якая была ўсхваляваласа, што прывязе яго назад не пазьней як апоўначы, ён хацеў пазнаёміць украінскага нацыяналіста зь некаторымі сваімі сябрамі. Мы ўклалі апошнія келіхі і фужэры ў пасудамыйку, сьціх пыласос, а абрус зь віннымі і тлустымі плямамі зьнік у пральнай машыне... На кухонным стале зьявілася кава.

— ...Так, Тарас такі, — гаварыла я. — Я бачыла такіх людзей толькі некалькі разоў у жыцьці. Такія твары доўга не забываюцца. Аднойчы мы вярталіся зь лецішча, — перад маімі вачыма паўстаў летні дзень, зялёныя пагоркі за вокнамі электрычкі. — Гэта была сям'я, селі ў Вязынцы, выйшлі ў Заслаўі, ехалі да сваякоў на вясельле, сядзелі праз праход ад мяне бабуля, бацька з маткай і іх дзеці — хлопец і дзяўчына. На ўсіх былі адкрытыя, спакойныя, сьвежыя і гэтым падобныя твары, і ў іх адбівалася чаканьне ўдзелу ў важнай і прыемнай падзеі. Было зразумела, што сёньня зранку яны працавалі ў хляве, агародзе, курніку і зрабілі ўсё, каб на колькі гадзінаў усёй сям'ёй змаглі пакінуць хату. Бабуля была ў традыцыйнай хусцінцы, мужчына — у цёмна-сінім гарнітуры, купленым ня толькі што, але й ня вельмі даўно, а маладыя брат зь сястрой, відаць было, аддалі шмат часу абдумваньню сваіх строяў, яны раіліся між сабой і многа сумняваліся, але зараз ведалі, што выглядаюць як мае быць... І, галоўнае, твары... Як яны адрозьніваліся ад людзей, што ехалі побач, ад дачнікаў — тупых бессэнсоўных пысаў, што час ад часу набываюць выраз штучнай весялосці, знойдзенай у бутэльцы сівушнай гарэлкі. Ні кроплі жорсткасці або незадаволенасці не было ў гэтых тварах, ані водбліску безнадзейнай заклапочанасьці або бессаромных разьлікаў. Здавалася, яны нешта ведаюць і ім зразумела, што іншыя людзі, вось што зараз едуць побач зь імі ў вагоне, гэтага ня ведаюць і ведаць ня могуць, і так і мае быць. Яны часам пасміхаліся адно аднаму, часам абменьваліся заўвагамі і адрозьніваліся ад іншых людзей у вагоне, як неба ад зямлі... Што яны зналі, Алена? Чаму мы гэтага ня знаем?

— Ведаеш, Яня, — задуменна сказала Алена, — я, пэўна, паеду ў Львоў. Тарас кажа, там таксама ёсьць політэхнічны інстытут.

— А яшчэ аднойчы я бачыла на вакзале бацьку й дачку. Дачцэ было гадоў сем. На ёй была такая сіняя кісейная сукенка, ведаеш, такая, якую кожная дзяўчынка марыць мець у сем гадоў. Мне такой не куплялі. Яна прыехала з татам у горад. Яны ўжо схадзілі ўсюды, куды хацелі, стаміліся, вялікая торба з цыраты была ўжо поўная пакупак, і цяпер мелася адбыцца чаканая яшчэ з дому значная падзея — тата купіць ёй хот-дог, смачную сасіску ў булцы зь яшчэ больш смачнай поліўкай, гэта смак сьвята, смак паездкі ў горад, смак будучыні... І тата дастаў патрапаны партманет і зь вялікай сур'ёзнасьцю заплаціў за сасіску. Сабе не купіў нічога. Скажы, Алена, чаму я стаяла побач і горла мне здушыў нейкі спазм? Скажы, Алена, чаму я плачу зараз?

Алена абняла мяне і паклала маю галаву сабе на плячо:

— Ня плач, ня трэба плакаць. Ня плач.

## Я на сьцяжыне вайны

Я заначавала ў Алены. Сьлёзка паспяхова вярнуўся, праўда, не ў дванаццаць, як абяцалася, а ў дзьве ночы. Потым мы яшчэ пагаварылі за гарбатай, так што спаць пайшлі, калі ўжо пачало світаць. Тым ня менш, я прачнулася рана, бадзёрая й поўная сілаў і рашучасьці скончыць хоць бы зь некаторымі загадкамі, якія акалялі мяне апошнім часам. Ціхенька, каб нікога не пабудзіць, я сабралася й выправілася на дачу.

Сьлед, які, памятаеце, я знайшла ля кустоўя, я ідэнтыфікавала і амаль не сумнявалася, што ён належаў Мікалаю Іванавічу Кержычу, нашаму суседу па дачы. І ведаеце чаму? Бо ля кустоў, у зацішным месцы, на сонцы, я пасадзіла сёлета агародную спаржу.

Я вельмі ганаруся ёю, гэта адзін з найлепшых еўрапейскіх гатункаў, вельмі дарагое насеньне якога быў прывёз мне з польскай выправы Андрэй.

Мікалай Іванавіч адзіны ў нашым пасёлку, хто здольны адрозьніць агародную спаржу ад звычайнага аспарагусу і, больш за тое, зацікавіцца яе вырошчваннем. Ды ш то там! Менавіта ад яго я ў свой час і пераняла цікавасць да розных эндывіяў, скарцанэраў, артышокаў ды астатніх далікатэсаў, якія цяпер майтарацць улетку на нашай дзялцы. Калі я атрымала насеньне, адразу, як заўсёды, прыбегла да Мікалая Іванавіча, і мы доўга з трымценьнем разглядамі вялікія, моцныя, нават на выгляд поўныя энергіі шарыкі. Заўважыўшы бляск

у ягоных вачах, я прапанавала яму некалькі цудоўных шарыкаў, і ён, зь ветлівасці трохі паадмаўляўшыся, з радасьцю іх прыняў.

Лета прайшло для нас пад знакам спаржы. Як вядома, гэтая далікатэсная расьліна пладаносны на другі год пасьля высеву, але толькі ў тым разе, калі забяспечыць ёй належны догляд. Аднойчы я ледзь ня страціла яе, падсілкаваўшы занадта моцнай рашчынай супэрфасфату, — давялося выклікаць Мікалая Іванавіча на дапамогу. А нашэсьце спаржавай мухі! Жах агартае, як успомню! А крот! Аднойчы раніцай я натыкнулася на адзін корчык, што ляжаў бокам на вялікай кратовай купіне. Мяне мала інсульт не хапіў! Супакоілася я толькі пасьля таго, як Кержыч укапаў вакол корчыкаў некалькі краталовак, якія ён, ведаючы пяць моваў, называў чамусьці па-італьянску — trappola для крата... Аднойчы ў гэтую «траполу» трапіў босай нагой бацька — лямантаваў, як шалёны. Тым ня менш, я пакінула пасткі і на зіму — вельмі ўжо баялася за спаржу.

Вялікай праблемай сталася ўкрыванне спаржы ад халадоў — гэта належала зрабіць так, каб далікатная расьліна не памерзла і разам з тым не сапрэла падчас магчымых адліг. Звыклыя яловыя галінкі тут не прыдатныя: яны закісьляюць глебу, а спаржа гэтага не выносіць. Мне прыйшла думка засыпаць корчыкі спелым кампостам — гэта ўратуе расьлінкі ад маразоў і разам з тым не дазволіць бутленьню падчас адліг, а да таго ж паслужыць дадатковым угнаеньнем. Мікалай Іванавіч вельмі ўхваліў ідэю, так мы й зрабілі. Месцы, дзе сядзела мая спаржа, адрозьніваліся цяпер ад астатняй глебы толькі колерам некалькі цёмных плямаў на градзе. Той, хто ня ведаў, нізавошта не здагадаўся б, што пад гэтымі чорнымі плямамі хаваюцца расьлінкі, а вакол крыюцца пасткі. А вось чалавек, сьляды якога я адшукала па градзе, — ведаў. Ланцуг ягоных сьлядоў меў разрывы па спаржавай плянтацыі — ён скакаў, як леапард, каб не пашкодзіць калівы і ня трапіць у пасткі! Толькі адзін чалавек мог паводзіць сябе так. Толькі адзін чалавек ведаў, што пад чорнымі плямамі хаваецца каштоўны гатунак, які ахоўваецца падступнымі пасткамі, і толькі адзін мог напінацца, каб не наступіць на іх. Чаму Кержыч бегаў па нашай дзялцы ў адлігу перад тым, як я знайшла мерцьвяка ў прыбіральні? Якая халера насіла яго там? Гэта мне і хацелася сёньня высветліць.

У канцы гэтага лета хата Кержыча згарэла — ён зь недагляду пакінуў агонь у печы, — і цяпер сусед атабарыўся ў глыбокім цокальным памяшканьні, да якога не дабраўся агонь. Раней у яго тут была лазьня. Калі я прыйшла, ён, прыгорбіўшыся ля стала, піў гарачую гарбату, якая паравала ў шклянцы, як серная кіслата. У маленькай жалезнай печцы чырванела вугольле.

Ня думала я, што ён сустрэне мяне з такім выразам твару. Агіда, спалох, нянавісць? Прывітаўшыся, я чакала адказу, запрашэньня прайсьці, прысесці, прапановы выпіць гарбаты, але ён маўчаў і толькі паглядаў з-пад ілба з такім дзіўнаватым выразам... Я спачатку зьбянтэжылася, але потым вырашыла, што без размовы ўсё роўна адсюль не пайду.

— Мікалай Іванавіч, я да вас па сур'ёзнай справе, — сказала я, няветліва, без запрашэньня прайшла да стала і села насупраць згорбленага Кержыча.

Нянавісць у ягоным позірку акрэсьлілася выразьней.

— Навошта вы прыходзілі на наш агарод тыдзень таму? Што вы там рабілі?

Кержыч зьбялеў, жаўтлявыя плямы пад вачыма зрабіліся шэрымі, і шклянка ў руках задрыжала.

— Нікуды я не хадзіў, нічога не рабіў. Пакіньце мяне ў спакоі! Я нічога ня знаю!

— Я знайшла вашыя сьляды на градах — вы беглі, абмінаючы спаржу. Чаму вы адпіраецеся? Зрабілі нешта нядобрае?

Ён дзіка паглядзеў на мяне і слаба, ледзь чутна вымавіў:

— Я... я ня быў на вашым гародзе. Ты памыляесься.

— Не, не памыляюся. І сляды дасюль ёсьць на градах, можна зрабіць экспэртызу, калі хочаце. Праўда, я пакуль што не давяла гэты факт да ведама міліцыі... Але сама хачу пачуць вашыя тлумачэньні.

— Гэта не мае сляды, я не...

— Вашыя, — настойліва перабіла я. — І гэта лёгка даказаць нават афіцыйна. Што вы рабілі на нашым агародзе?

І тут раптам з Кержычам пачалася гістэрыка. Ён зірнуў зацкавана, з шумам уцягнуў паветра і... Нават цяжка ўявіць, што такое магло здарыцца зь немаладым спакойным настаўнікам. Ён плакаў, калаціў даланёй па стале, слёзы цяклі па яго шараватым твары, ён душыўся імі і паміж усхліпамі вішчаў:

— Я нічога ня знаю! Пакіньце мяне ў спакоі! Ня знаю нічога!

Гэта было страшна. Я ўскочыла і пярэмутам кінулася з Кержычавай халупы пад акампанемент крыкаў аматара экзатычных расьлінаў.

У электрычцы я трохі ачуняла. Што ж, зьезьдзіла не дарма. Мікалай Іванавіч мае дачыненьне да зьяўленьня мерцьвяка ў прыбіральні. Я ў гэтым не сумнявалася. Як не сумнявалася і ў тым, што нехта яго сьмяротна запалохаў. Не, я ня буду даносіць на гэтага няшчаснага чалавека следчаму. Занадта добра я да яго стаўлюся. Кержычу і так апошнім часам не шанцуе — цяжка захварэла каханая жонка, і хоць

у Навінках змаглі, як яны кажуць, стабілізаваць становішча, будучыня вельмі няпэўная. Хата вось згарэла...

«Думай, Яня, — гаварыла я сама сабе, утаропіўшыся ў акно вагона. — Думай. Трэба знайсьці нешта агульнае паміж табою, памерлым Мянцеем, Кержычам, стрэлам у інстытуце. Ёсць нейкі пункт, які ўсё гэта лучыць. Нейкая вось. Нейкі агульны інтэрас. Калі яго адшукаць, калі пацягнуць за патрэбную вяровачку — усё вытлумачыцца. На Андрэя зь ягонай службовай таямніцай спадзявацца не выпадае. Таму думай. Думай».

Усю дарогу дамоў я думала.

З нагоды нядзелі бацька быў у фартуху і чытаў на кухні газэту. Яго ральмопсы, заўсёды дасканалыя, гэтым разам падаліся мне боскімі. (Notabene: калі не перастану жэрці, як у апошнія дні, растлусцею, як цэбар!) Падчышчаючы скарынкай соўс на талерцы, я спытала:

— Слухай, тата, а можа, табе нехта помсціць? Ну, падкінуўшы Мянцея ў прыбіральню?

Тата з гатовасьцю адклаў скамечаную «Свабоду».

— Ды я ўжо мазгаваў на гэты конт, — ён паціснуў плячыма. — Хто ж яго ведае! Здаецца, заклятых ворагаў не нажыў за жыцьцё, але хто ж яго ведае?

— А калі помсьцяць, то за што?

Тата зноў перасмыкнуўся.

— Калі на тое, то юрысту можна помсьціць практычна за кожную справу, якую ён вёў, — заўсёды ж ёсьць бок, які выйграў, і бок, які прайграў. Задаволены твой кліент — незадаволены яго апанэнт, і наадварот... Ну, звычайна... Але каб мерцвякоў падкідваць?! Не, ня думаю...

— А на працы як у цябе?

— А што на працы? На працы як на працы. Ты ў сэнсе помсты? Ну, накрычаў на Яўсеіча... Ну, зьняў прэмію з Кацюбінскай... Галіна Казіміраўна магла пакрыўдзіцца, што дасюль не жанюся, — ён скоса паглядзеў на мяне.

— Вось як! А ты зьбіраесься жаніцца? — Тата зьбянтэжана кіўнуў. — А дай жа я цябе пацалую! — сказала я і нахілілася да яго.

— А я баяўся, як ты гэта ўспрымеш, — з палёгкай адзначыў тата.

— Ну, як я магу гэта ўспрыняць? Радая за вас.

Хоць я многае, прызнаюся шчыра, зрабіла дзеля татавай жаніцьбы, горла маё здушылася. Другая жонка таты... О мама, мама, навошта ты пайшла ад нас...

Здаецца, падобныя думкі прыйшлі і да таты, і ён зьвесіў чубатую сваю галаву...

...На гэтым тыдні сны мне сьніліся адзін горшы за другі. У чадзе плавалі ашмёткі рэчаіснасьці, перафарбаваныя на чырвонае або атрутна-блакітнае... Цікава, аднак, што ні сьвежае, з крывёю, мяса, ні зьмеі скруткамі ў пад'езьдзе, ні грошы, ні іншыя прывідныя рэчы, якія я зь незайздроснай рэгулярнасцю бачыла па начах, не прынеслі мне нічога благога ў дзённым жыцьці. Наадварот: я энэргічна здавала іспыты, і нават супрамат, якога ўся група страшылася больш за апраметную, прайшоў на «віват».

Дзеля перамогі ў апошнім баі (курсам з тэхналёгіі) мы спараваліся з Дубам: я павінна была зрабіць разьлік тэхпрацэсу, а ён па выніках разьлікаў накрэсьліць рысункі. Аддаўшы яму разьлікі, якія занялі ў мяне чатыры гадзіны напружанай працы, я ўстала на сцяжыну вайны і ўшчыльную занялася расьсьледаваньнем.

Як кліентка, якая не дачакалася званка ад Міхаіла Міхайлавіча, я наведала мянцееўскі офіс, дзе апранутая ў чорнае і нацкаваная на адлоў кліентаў сакратарка сустрэла мяне зь нечалавечай добразычлівасцю. Гэтае смаркатае дзяўчо (маіх гадоў) у кароткай спадніччы аглёдзела мяне з галавы да ног, прыгатавала распушчальную каву і затарахцела, як з кулямёта. Здаецца, тут сьмерць шэфа была ўспрынятая як эфэктыўная рэкляма, здольная прыцягнуць кліентаў ня горш, чымся відэаролік у прайм-тайм. Сакратарка трашчала пра адпяванне й памінальны стол, пра тое, як нейкі немалады родзіч Мянцея грымнуў ля магілы непрытомны... Я наўздагад задавала ёй пытаньні, але безвынікова — нічога цікавага... Раптоўна яе голас зьмяніўся настолькі, што я зьдзіўлена ўзьняла вочы:

— А вось і наша дырэктарка, — сціхнуўшы на паўслове, ліслівa прагаварыла дзяўчына, і мёд зь яе вуснаў, здавалася, накапаў калюжыну на падлозе.

Я азірнулася і ледзьве не праліла гарачую каву сабе па калені. Я ведала гэтую высокую жанчыну ў чорным! Бачыла яе раней!

У кабінеце яна прапанавала мне сесьці.

— Слухаю вас. Пасьля сьмерці мужа справы вяду я, — яна прыгледзелася да мяне і, ветліва пасьміхнуўшыся, дадала: — А мы ж бачыліся! Памятаеце, на дачы ў майго дзядзькі Мікалая?

Я кіўнула, намагаючыся, каб на маім твары можна было пабачыць толькі дзяжурную ўсмешку. Кержыч і Мянцей сваякі! Вось табе і маеш! Мінулым летам пляменьніца Мікалая Іванавіча зь дзіцём нейкі час жыла ў яго на дачы, я бачыла яе амаль штодня, і вось высьвятляецца, што гэтая жанчына — жонка Мянцея!

Седзячы як на вугольлі, я выказала ёй свае спачуванні. Сакратарка, калі я з адпаведнай выпадку поснай мінай пацікавілася прычынай сьмерці шэфа, адгаварылася сардэчным прыступам... Жонка, пэўна ж, ведала, што, апроч прыступу, не апошнюю ролю адыграў і нож даўжынёй з чвэрць мэтра. Я трохі баялася, што яна зараз кінецца на мяне з кулакамі або, чаго добрага, і з аналягічным нажом... Але яна спакойна й прыязна запыталася, што прывяло мяне ў агенцтва нерухомасьці. Значыць, усё ж такі ня ведала, што яе няшчаснага мужа знайшлі ў нашай прыбіральні? А можа, справы ішлі ня вельмі добра, і яна хапалася за любога кліента — пакінуўшы мёртвых мёртвым, займалася справамі жывых і працавала на свайго карапуза з чырвонымі шчочкамі й кудлатай белай галоўкай, лавіла кліентаў, не зважаючы ні на што?.. Я выдала падрыхтаваную наперад легенду: зьбіраюся замуж, хачу загадзя пашукаць кватэру. Ні словам яна не дала зразумець, што неяк зьвязвае мяне з пагібельлю мужа. Запыталася, на якую суму я разлічваю, і я назвала ўзятыя са столі трыццаць тысяч — на самай справе ў нас з татам было толькі пяць, а ў Андрэя, наколькі я ведала, наагул нічога, але дзеля легенды... На тым мы й рассталіся: яна паабяцала днямі падабраць варыянты. І я злавіла сябе на думцы, што мне сапраўды хочацца дапамагчы гэтай жанчыне ў чорным, купіць кватэру менавіта праз яе агенцтва...

...Ледзь я пасьпела вярнуцца дамоў, як да мяне ўварваўся разьюшаны Дуб.

— Ты чым думаеш, халера? Галавой ці адным месцам? — накінуўся ён на мяне замест прывітаньня, тыкаючы ў твар аркушамі з разьлікамі для курсача. — Ты хоць глядзела, што ты тут наваяла?

— Што такое? Я ні сном ні духам... — спалохалася я, адбіваючыся ад паперак.

— То ж бо то, што ні сном ні духам! Глядзі сюды, каб цябе!

Я паглядзела, і мяне праняло цыганскім потам. Амэгачкі! Замест зыходнай тэмпэратуры траўленьня 75 градусаў Цэльсія я, быўшы заглыбленая ў перажываньні, машынальна ўзяла мінус 75 градусаў, з прычыны чаго працэс вытворчасці тыповай мікрасхемы МДП 38-02Т, паводле маіх падлікаў, склаў 400 гадоў! І я гэтага не заўважыла!

— А дубочак мой зялёненькі! Прабач засранку! — толькі й магла сказаць я.

— Хутчэй! — Дуб выхапіў калькулятар, як шаблю, і рынуўся ў пакой. — Трэба паспець! Так, я вазьму тленне, ты — траўленьне. І з плюсам, з плюсам тэмпэратура!

На працягу наступных дзьвюх гадзінаў мы лічылі, як дзьве звар'яцелыя ЭВМ, прычым Дуб перыядычна кантраляваў мяне, асьцерагаючыся новых выбрыкаў маёй неўтаймоўнай натуры.

Нарэшце ўсё было гатова, і ён узяўся за рысункі, з фэнамэнальнай хуткасьцю крэслячы лініі, а я прыгатавала вячэру.

Апоўначы Дуб апошні раз трыюмфальна ўзмахнуў лінейкай і абвясьціў:

— Усё!

Цяпер я села за кампутар — трэ было надрукаваць і аформіць курсач. Працы было да чорта. Я біла па клявішах, Фабіян мірна драмаў на канапе.

— Дуб! — прагаварыла я такім страшным голасам, што ён умомант прахапіўся.

— Асьпід ты безгаловы! Зьмей! Глядзі сюды!

Дуб вылупіўся на рысункі. Гэты крывасмок замест трох праекцый тапалёгіі намаляваў тры разы адну й тую! Ён застагнаў. Мы аднначасова ўскінулі позіркі на гадзіньнік. Адтуль адразу ж вылецела зязюля і пракукавала два разы.

— Так, ты — выгляд зьлева, я — выгляд зьверху, — Дуб хутка ачомаўся і быў поўны рашучасці здаць заўтра курсач або памерці. — Наперад!

Час цёк. Сонца не зьбіралася ўставаць, і «птушыныя галовы» на рысунках, акуратна вымалеваныя мяккім кох-і-норам, драпежна трэсьлі дзюбамі. Мы тройчы пілі моцную каву, пяць разоў вастрылі алоўкі і адзін раз, пад раніцу, ушчэнт рассварыліся, прысвоіўшы адно аднаму ганаровыя найменні «гістэрычнай дуры» і «крывога ідыёта»...

Калі па вуліцы разьезьдзіліся машыны, а мацяркі павалаклі сваіх нашчадкаў, якія раўлі дзікімі галасамі, у дзіцячыя садкі, я выцягнула з прынтара апошні аркуш...

Падпіраючы адно аднаго плячыма, каб не зваліцца, і час ад часу перагаўкваючыся, мы дабраліся да аўдыторыі. Чырвоныя вочы й бледныя твары красамоўна сьведчылі, што многія з нашых таксама правялі ня самую лепшую ў сваім жыцці ноч...

Напружаньне расло. Валяр'янку дзяўчаты глыталі жменямі. І ўрэшце што? Сьвежы, як чэрвеньскі агурок, Руды Панько, які сваімі лютымі патрабаваньнямі за год сапсаваў нам больш крыві, чым усе астатнія выкладчыкі разам узятыя, агледзеў нас сакалінымі вачыма і, ускудлаціўшы рэшткі рудой шавялюры, абвясціў, што ў гонар нараджэння ўнучкі ставіць усім залік аўтаматам...

## Бо я цябе кахаю...

Пасьля сямі ці васьмі начэй жахаў я нарэшце спала спакойна. Мне снілася рака, брунатная вада якой цячэ імклівa й магутна. Сонца сядала справа, працінаючы паветра промнямі, як бывае толькі ў снах. Я ішла берагам па жвіры, і на мае босыя падэшвы зь вялікімі косткамі наліпалі зямля і ракавіны. За купкаю дрэваў, там, дзе камлі старых берастаў зваліліся ў ваду, мяне чакаў мужчына, які ніколі не хадзіў боса, і чые перакрыжаваныя партупэямі плечы былі не шырэйшыя за мае...

Я ўскочыла ў ложку. Я ўсё зразумела і не хацела верыць. Голас прашаптаў мне, і я ведала, што ўсё так і ёсць, я матляла галавой, каб пазбыцца гэтай упэўненасці... Ня вельмі добра памятаю, як я дачакалася раніцы, але ў той момант, калі сонца на ўсходзе расьсеяла цемру, мой плян быў гатовы.

Я ледзьве не ашалела ад нецярплівасці, пакуль нарэшце зноў не апынулася на парозе Кержычавай халупы. Чамусьці я была ўпэўненая, што ў гэтую зімовую суботу Мікалай Іванавіч павінен сюды прыехаць. Не памылілася. Пасёлак маўчаў, толькі здалёк даносіўся брэх Балоніка. Як мне было страшна! (І было чаго баяцца, дадам, апераджаючы падзеі!) Сабраўшыся з духам, я адчыніла дзьверы.

Напаўцёмны пакойчык зноў асьвятляўся толькі вугольлем, якое палымнела ў печы. Мікалай Іванавіч корпаўся ля стала зь нейкім старым радыёпрымачом. На грукат дзьвярэй ён узьняў галаву. Выраз ягонага твару быў спакойны і задуменны. Затое я сёньня хвалявалася за дваіх.

— Праходзь, Янечка, сядай, — сказаў Мікалай Іванавіч. — Ты, пэўна, зноў хочаш запытаць нешта пра забойства Мішы. Пэўна, нешта зноў раскапала. Наколькі я цябе ведаю, не супакоішся, пакуль не даможашся праўды... Толькі навошта табе гэтая праўда? Кінь. Забудзь. Мае сляды на вашым гародзе даўно змылі дажджы.

— Вы страцілі прытомнасць на пахаваньні сваяка, — я вырашыла ісьці ва-банк. — Чаму?

Кержыч цяжка ўздыхнуў.

— Я стары знерваваны чалавек. Раптоўная сьмерць маладога, поўнага сілаў сваяка — цяжкое відовішча. Ня вытрымаў.

— Усякая сьмерць — відовішча малапрыемнае. Рэч ня ў гэтым, а ў тым, што вы ведаеце, як загінуў Мянцей. І вы прыклалі да гэтага руку, — дадала я, аблізнуўшы засмяглыя вусны.

Кержыч уздрыгнуў.

— Адзіным доказам, дый тое вельмі сумнеўным, маглі служыць мае сляды. Але іх больш няма. Ёсьць толькі твая ўзбуялая фантазія.

— І ваш мёртвы сваяк.

Кержыч зноў уздрыгнуў — пэўна, яму цяжка было чуць гэтае словазлучэнне — «мёртвы сваяк». Я вырашыла біць у гэтую кропку.

— Доказаў у мяне, Мікалай Іванавіч, сапраўды няма. Дый каб былі — не пабегла б зь імі ў міліцыю, вы ж мяне знаеце. Але я хачу ведаць, як выйшла так, што ваш Міша скончыў жыцьцё ў нашай прыбіральні, — заўважыўшы, што Кержыч адмоўна хітае галавой, я дадала. — Калі не дзеля праўды, як вы кажаце, дык хоць бы дзеля сваёй жа бяспекі. Майму бацьку шыюць крымінальную справу, у мяне самую стралялі. І, галоўнае, я абсалютна не разумею, хто і навошта! Я хачу зразумець, што адбываецца, хоць бы дзеля таго, каб ведаць, як сябе паводзіць.

— А ў цябе навошта ж страляць? — зьдзівіўся Кержыч.

— Вось і я хачу гэта ведаць, — адказала я, пільна назіраючы за ягоным выразам твару. Раскажыце мне ўсё, што ведаеце, прашу вас! Хочаце, на калені стану?

Кержыч на хвіліну задумаўся. Потым узьняў пабляднелы твар, зноў уздыхнуў і адклаў убок шрубоўку, якую дасюль круціў у руках.

— Калі Соф'і Міхайлаўне паставілі дыягназ, я думаў, страчу розум. Ня мог спаць начамі. Кідаўся да розных знахароў, гатовы быў зрабіць што заўгодна, абы толькі дапамагчы ёй. Загадчык аддзялення, калі даведаўся пра гэта, вылаяў мяне і сказаў: «Не рабіце глупстваў! Жонцы не дапаможаце, страціце толькі час, грошы ды, напэўна, веру ў чалавецтва. А калі вас ня стрымваюць грашовая выдаткі, тады вось што: існуюць ангельскія лекі, не панацэя, але ў многіх выпадках вельмі эфэктыўныя. Афіцыйна мы іх прызначаць ня можам — вельмі дарагія, а прымаць трэба вельмі доўга, можа, і ўсё жыцьцё, але калі б вы змаглі дастаць прыватным чынам, было б вельмі добра. Яны ёсьць і ў некаторых аптэках у Мінску». Я, канешне, адразу ў «Белфарм»... І што ты думаеш? Ужо праз два месяцы загадчык з задавальненьнем адзначыў, што «ў дадзеным выпадку прэпарат падабраны правільна, можна спадзявацца на ўстойлівую рэмісію». Я плакаў, схаваўшыся ў сталоўцы...

Але гэты цудоўны прэпарат сапраўды вельмі дарагі — на месяц патрэбны пакунак, які каштуе 200 даляраў... Нашы грашовыя запасы — якія яны там былі? — вельмі хутка скончыліся. Я спадзяваўся прадаць дачу — і на табе, дом згарэў... — Кержыч памаўчаў. — І вось, калі надыходзіў час купляць лекі чарговы раз, а ў мяне элемэнтарна не было за што, я сустрэў яго на вуліцы. Яго, гэтага чалавека...

Я напружана слухала.

— Ён ведаў пра Соф'ю Міхайлаўну і пра мае праблемы. Сказаў, што можа дастаць патрэбныя лекі, прычым бясплатна — з гуманітарнай дапамогі. І сапраўды прынёс, нам хапіла на паўгоду... А праз паўгоду, калі я прыйшоў да яго, каб папрасіць яшчэ, паставіў умову: «Добра, я дапамагу вам, але ж і вы мне таксама». Растлумачыў, што мае патрэбу пагаварыць сам-насам пра пэўныя бізнэсовыя справы з мужам маёй пляменьніцы, які пазьбягае яго. А патрэба пільная. Папрасіў, каб я паклікаў яго на дачу — пад маркай, прыкладам, дапамогі ў будаўніцтве... Я абсалютна не здагадваўся пра тое, што мела здарыцца...

Пляменніца на той час была ў адпачынку, зь дзіцём у санаторыі, той чалавек, пэўна, пра гэта ведаў. Словам, як я разумею, пра запрашэньне так ніхто й ня ведае, акрамя мяне, яго і вось цябе...

Міша прыехаў. Прыйшоў і гэты чалавек, з бутэлькай гарэлкі, прапанаваў выпіць па чарцы. Усё выглядала натуральна — за чаркай, як вядома, пра бізнэсовыя справы гаворыцца лягчэй... Пасля першай жа я адключыўся. Страціў прытомнасць. Ачуняў — цямнее, нідзе нікога. Я расхваляваўся, ускочыў і да вас... — ён скоса паглядзеў на мяне.

Яго словы шуганулі мяне, як напруга ў 220 вольт. Я была гатовая да іх, ведала, што пачую, але ж, але ж...

— Вы пайшлі да нас, бо чалавек, які прасіў вас запрасіць Мянцея на дачу, — Андрэй-Накрый-Мяне-Андаракам, — сказала я, і ў маіх словах амаль не было пытальнай інтанацыі. Прынамсі, Мікалай Іванавіч яе не заўважыў і страшэнна зьдзівіўся.

— Ты ведаеш?! Адкуль?

— Ня ведаю. Дакладней, ня ведала, пакуль вы не сказалі. Здагадвалася. Расказвайце далей.

— Дык вось, далей... Мне было не па сабе — атрутная гарэлка, цішыня вакол, цямнее... Я прыхапіў з сабой сякерку і пайшоў. Калі ўжо падыходзіў, пачуў жахлівы жаночы крык — твой. Мала ня страціў прытомнасці зноўку — вельмі ж жудасна ты раўла, трэба сказаць. Я пабег на крык, але нейкае шостае пачуцьцё падказала мне не высоўвацца адразу ж, а асцярожна вызірнуць з-за рогу хлеўчука.

Што я пераджыў! Валасы дыбарам сталі. Тысяча думак прамільгнула ўмомант. Хоць я і разумеў цяпер, што нешта нячыста з гэтай «размовай па бізнэсовых справах», але ж пабачыць Мішу з нажом у грудзях было поўнай нечаканасцю. Я зразумеў: гэта заплянаванае, падрыхтаванае забойства і я зрабіўся ў ім саўдзельнікам! І раптам сярод віхуры разанула: у яго ж у кішэні маё насеньне! Таго самага

рэдкага гатунку. Я аддаў яго Мішу раніцай, яшчэ да таго, як прыйшоў той, трэці... І зараз гэта — доказ супраць мяне. Мяне выкрыюць і пасадзяць! А што будзе з жонкай? Я не вагаўся ні хвіліны: насеньне трэба забраць. Падкрасьціся да цябе ззаду было няцяжка, як да глушца на такавішчы, — ты, здаецца, нічога ня чула. Ну, — Кержыч зьбянтэжыўся, — ну, прыйшлося цябе трохі... Ну, мне ж трэба было цябе неяк выключыць...

— Вядома, трэба было, — падбадзёрыла я яго. — Што далей, дзеля Бога, што далей?

— Ты, калі ласка, прабач мяне, не крыўдуй... Не крыўдуеш? Ну, вось, я... хм... выключыў цябе, дастаў з кішэні курткі насеньне, не адразу, праўда, адшукаў... Тут пачуўся гук калатушы, ён хутка набліжаўся — вуліцай бег вартаўнік. Мне нічога не заставалася, як кінуцца да сябе агародам... Ведаеш, я нават не ўсьвядоміў, што стараўся не наступіць на спаржу, — неяк само сабой атрымалася, пэўна...

Потым былі жахлівыя дні. Ня дай Бог нікому! Колькі разоў я зьбіраўся заявіць у міліцыю пра ўсё, што ведаў! Але што гэта дасьць? Ты ж ведаеш, дзе працуе твой Андрэй, ты ж бачыш, як прафэсійна ён зрабіў усё, каб застацца ўбаку. Я быў упэўнены, што ён зможа абвергнуць мае словы, даказаць, што ў час забойства быў за сотні кілямэтраў адсюль або неяк інакш давесьці сваё алібі... Ніводнага неабвержнага доказу яго ўдзелу ў забойстве, такога доказу, які нельга праігнараваць, у мяне не было...

Потым ён прыйшоў да мяне сам. Прынёс лекі на год і па-сяброўску так, разумееш, па-сяброўску параіў не высоўвацца. Я зразумеў, што калі хачу застацца жывым, мушу маўчаць...

— Тым ня менш, вы не скарысталіся маёй парадай, — пачуўся раптам знаёмы голас, дзьверы, якія вялі ў былую парылку, расчыніліся, і ў дзьвярным праёме ўзьнікла постаць Андрэя.

— Пакіньце яе ў спакоі, — працягваў ён, заўважыўшы, што зблянелы ў палатно Кержыч пацягнуўся па шрубоўку. — Ня трэба гонкі ўзбраеньняў.

— Адкуль вы тут узяліся? — разгублена спытаў той. — Як вы трапілі ў мой дом?

— Я прафэсіянал, як вы слушна заўважылі. Падазраваў, што сёньня тут мае адбыцца пэўная размова, вось і вырашыў узяць удзел, — спакойна адказаў Андрэй, набліжаючыся да стала, абапал якога мы сядзелі. — Эх, Мікалай Іванавіч! Калі язык з-за зубоў выбіваецца, гэта можа стацца прычынай небяспечнага калецтва...

Раптоўным кароткім і моцным рухам ён выхапіў з кішэні пісталет і дзяржальнам ударыў Кержыча па галаве. Той бяз слова расплас-

таўся на стале. Я ўскрыкнула. Андрэй павольна павярнуўся да мяне. Які ён быў прыгожы! Якім глыбокім, прыхаваным агнём палалі ягоныя шэрыя вочы... З гэтым чалавекам я спала, яму я расказвала свае сны, цяпло ягонага цела, пах яго скуры замянілі мне пошукі...

— Тыповы інтэлігент ні два ні паўтара. Слабак.

— Андрэй, — прашаптала я асьмяглымі вуснамі, — ты што, здурэў? Навошта ты гэта рабіў?! Навошта?

Ён падышоў да мяне ўсутыч і рыўком узьняў з крэсла. Яго бяздонныя вочы палалі зусім блізка ад майго твару.

— Бо я цябе кахаю, — прашаптаў ён.

Сэрца маё калацілася, перад правым вокам круцілася вясёлкавае кола. Я ледзьве ня страчвала прытомнасць.

— Шалею ад цябе, — шаптаў ён, і рука яго гладзіла мае валасы, сьпіну, ногі, і плавілася ў паветры яго каханне, атрутным газам пранікаючы ў лёгкія. — Ты думаеш, я ня ведаў пра твае шашні з тым жыдком? Ведаў, таму яму й падпалілі дзьверы. Усё ведаў і гатовы быў дараваць. Але ж ты паводзіла сябе невыносна... Круціла хвастом. Мне трэба было, каб мы пажаніліся, а ты, як дурніца, сьмяялася, пазьбягала адказу, цябе трэба было прымусіць даць згоду...

— Андрэй...

— Так, трэба было прымусіць... Ты не разумела мяне, калі я казаў, што нам трэба пажаніцца як мага хутчэй, дый не магла зразумець... Што ты ведаеш пра жыцьцё? Бавіла век, як Адам у раі: бацька — юрыст, зарабляў дай Божа, жыла ў прыгожым доме, у багатай кватэры... Сьмяесься, дзе трэба і дзе не, па піцэрыях ходзіш... Хіба ты магла зразумець, што такое жыць у галечы? Хіба магла зразумець, што значыць, калі бацька заўсёды п'яны, а маці, змучаная і худая, п'е толькі па нядзелях, каб трохі адпачыць... Ты ніколі не жыла ў інтэрнаце, а я перабіваўся там апошнія дзесяць гадоў — прусакі, ваніты па калідорах пасьля святаў, чужыя смярдзючыя шкарпэткі пад носам...

Ты ніколі ня думала пра будучыню, а я думаў заўсёды. Ты не магла зразумець, што такога шанцу можа больш не надарыцца, а я добра бачыў, што губляць яго нельга...

Калі выйшаў указ аб падтрымцы маладых сем'яў, я ўпершыню паспрабаваў пагаварыць з табой — памятаеш? Ты абяцала падумаць... Час жа не чакаў, а паводле гэтага ўказу пазыку можа атрымаць толькі сям'я, дзе і ён, і яна маладзейшыя за дваццаць пяць гадоў. Ты хоць разумееш, што такое атрымаць пазыку ад дзяржавы? Дзе табе! Ты на «Абсалют» для двух хрычоў, якім месца ў турме, даляры выкідаеш!

Калі ў райкаме пачалі запісваць членаў саюзу на льготную чаргу, я апынуўся другім, пасьля Мянцея. Ваш Кароста, які запраўляе ў аргаддзеле, сказаў мне па сяброўстве, што фонды будуць вылучацца для кіраўніцтва райкаму і аднаго чалавека з чаргі. Калі б мне ўдалося нейтралізаваць Мянцея і настаяць на нашым шлюбе, то мы маглі б атрымаць пазыку, цалкам дастатковую, каб пабудаваць кватэру ў Малінаўцы... Туды мог бы пераехаць твой бацька, а мы засталіся б у цэнтры... Усё магло быць так добра, калі б не тваё легкадумства. Ты на ўсе мае ўгаворы толькі смяялася. А я хацеў атрымаць сваё жытло, хацеў жыць як чалавек — і жыць з табой. Ды мне дастаткова было толькі пальцам кіўнуць — любая дзяўчына з нашага інтэрнату, любая дзяўчына з райкаму, любая, кажу, дзяўчына пабегла б за мной. Але ж прыкіпела маё сэрца да цябе, прываросла, і мне заставалася толькі зубамі рыпець па начах...

Больш чакаць было нельга час падганяў. Я ведаў, што змагу распрацаваць і пранесці апэрацыю «Жытло» — я ж прафесіянал. Мянцея трэба было забіць, а цябе — напалохаць і тым самым прымусіць скарыцца. Зь Мянцеем усё ўдалося, а з табой... Мой агент сачыў за табой, і хоць зялёны ён яшчэ, памылак нарабіў, але ж з заданьнем справіўся, напалохаў, і я сам стрэліў у твой бок у калідоры зь люку ў столі, ты была амаль гатовая... І ўсё было б як мае быць, калі б ня гэтая халерная спаржа, ня гэтая пастка для крата...

Усё магло быць так добра... Лёс павярнуўся інакш, але такой бяды... Бяды няма, — яго рука ўсё гладзіла мяне па сыпне, а вочы паціху рабіліся вар'яцкімі, — бяды няма... — Ён захапіў мае валасы ў прыгаршчы і, рэзка пацягнуўшы ўніз, нагнуўся над маім тварам, які закінуўся ўверх. — Любая мая, апошні раз будзьма разам?

Руляй свайго пісталета ён папіхаў мяне пад рабрыну, прыціскаючы да сябе... Матка Боска! Вось не шанцуе мне з мужыкамі! Той уцякае ў Амэрыку, гэты, калі я правільна разумела сітуацыю, зьбіраецца згвалціць і забіць... О кара!

— Я ж не зрабіла табе нічога кепскага, — сказала я ціха, адчуваючы ягонае дыханьне на сваёй шчацэ. — Калі ласка, Андрэй, не забівай мяне! Я нікому нічога не скажу, абяцаю. Давай проста пакінем адно аднаго ў спакоі — ты мяне, а я цябе...

— Ты кажаш «калі ласка»... Запозна. Нельга пакідаць сьведкаў — гэта правіла. Зараз ты — сведка...

Я толькі чакала, каб ён адвёў пісталет ад рабрыны, бо калі б я зрабіла рэзкі рух на восі рулі, ён, канешне, адразу націснуў бы курок. Разумеючы сьмяротную небясьпеку, якая мне пагражала, я, тым ня менш, не магла адвесьці позірк ад ягоных вачэй — такога жадання я

ня бачыла ў іх ніколі, і нешта ўва мне адказвала яму, адгукалася... Ён прымушаў мяне легчы спінай на стол. Я мякка правяла рукой па яго калючай шчацэ.

— Як жа я цябе кахала... Прыбяры са стала прымач, — прашаптала я.

У той момант, калі ён скідаў рукой зь пісталетам прыёмнік на падлогу, я з усёй моцы заехала яму, самі разумееце куды, каленам і ў той жа момант схапіла са стала шрубоўку і наўздагад, куды прыйдзецца, саданула па руцэ зь пісталетам. Ён закрычаў, сагнуўшыся, зброя выпала, і я нагой адфутболіла пісталет як мага далей. Тым ня менш, хватка другой ягонай рукі не аслабла, ён не адпусьціў маіх валасоў і, калі сагнуўся ад болю, прымусіў і мяне нагнуцца да падлогі. Тут ужо закрычала я, паспрабавала вырвацца, але ён наваліўся на мяне і з размаху ўдарыў. Я амаль ня ўмею пераносіць боль, няма ў мяне да яго звычкі. Андрэй ведаў гэта, і, пэўна, разьлічваў прымусіць мяне скарыцца. Але мяне раптам апанаваў такі амок! Забіць — няхай сабе, форс-мажорныя абставіны прымусілі, але ўдарыць мяне па твары! Мяне, слабую жанчыну! Уся магія былога каханьня, якая нібыта аблытала мяне па руках і нагах, увесь мой сантымэнт да Накрый-Мяне-Андаракам ад гэтай плюхі разьвеяўся, як туман. Вось падла! І я такому расказвала сны! Завішчаўшы, як парсюк на снежаньскім падвор'і, я ўпялася кіпцюрамі ў ягоны твар, ён адпусьціў мяне, але толькі дзеля таго, каб адскочыць да пісталета, і не паспела я ўзьняцца з падлогі, як ён ужо зноў стаяў нада мною са зброяй.

— Ты ўсё мітусісься, — цяжка дыхаючы, ён трымаў пісталет у левай, тым часам як правая рука, скрываўленая, вісела, як пуга. А я табе ўжо даўно казаў, каб ты гэтага не рабіла. Бывай, каханая, — ён прыцэліўся, я сцялася пад пісталетам, ня маючы сілаў адвесьці позірк ад чорнай дзіркі. Крычаць? Кінуцца яму ў ногі? Матлянуцца ўбок? Я адчувала, як сцякаюць апошнія імгненні майго жыцьця. Стук, стук сэрца, стогн — Кержыч на стале. Андрэй зноў падняў пісталет, зараз, зараз ён стрэліць...

— Кінь зброю! — прагрымела раптам, дзьверы пхнулі нагой, і ў пакой убег Збышак са сваёй дубальтоўкай. Дуброўскі і Сьлёзка выбеглі з-за ягонай сьпіны, бразнула разьбітае шкло: Анупры зь нейкім абрэзам, якога я ніколі ня бачыла (пэўна, усё ж такі ёсьць нешта закапанае — мільганула ў мяне ў галаве), высунуўся з маленькага акенца ля столі.

— Кінь зброю, кажу, бо хата абкружана, — тут Збышак прыпячатаў такое словазлучэнне, якое ў кнізе не дапускаецца.

Я схапілася з падлогі і кінулася да Фабіяна. У гэты момант я даравала яму і «гістэрычную дуру», і сапсаваную тапалёгію, і ўсе яго магчымыя і немагчымыя правіны перада мной аж да скону... У жыцьці ня бачыла больш надзейнага прытулку, чымся яго касьцістая грудзіна, на якой я рыдала, учапіўшыся ў штрыфлі яго марынаркі...

Сьлёзка спакойна падышоў да Андарака, забраў, тузануўшы за рулю, пісталет, адразу ж перакінуў Фабіяну і прабурчаў, абшукваючы:

— Прафэсіянал, прафэсіянал... А мы што, аборай хлеб кроім? — ён забраў з кішэняў абшуканага нейкія паперы і перайшоў да Кержыча. Вэрдыкт:

— Зараз ачуняе, нічога сур'ёзнага. Пайшлі, паны-брацьця! — На парозе ён азірнуўся і зьвярнуўся да Андарака, які ашалела працягваў стаяць з паднятай рукой. — А ты, васпане, не рабі лішніх рухаў. Займіся вось рукой пакуль што, папраўляйся. З табой яшчэ будзе размова, — і, падміргнуўшы, дадаў: — Сарока сароку бачыць здалёку, праўда?

## Сыход у зямлю запаветную

Наколькі я ведаю, размова тая сапраўды адбылася. Мелі, мелі размову з Андаракам нейкія людзі, зь якімі Сьлёзка пазнаёміўся ў Менску... Абяцана было яму маўчаньне ў абмен на пэўныя рэчы... Шантаж — вось як гэта называецца, але мяне гэта ўжо не датычыць...

Папойка ў гонар выбаўленьня адбылася ў той самы вечар, і на ёй ужо Сьлёзка сабе трохі дазволіў, а я па-ранейшаму — не. Тут мне й была расказаная перадгісторыя цудадзейнага зьяўленьня на дачы ўзброенага аддзелу пад кіраўніцтвам абачлівага ўкраінца. Алена і Фабіян расказалі яму пра мае прыгоды, Андарака ён пабачыў на дні нараджэння й зрабіў пэўныя высновы, пасьля рабіць яму ў Менску не было чаго — правёў асабістае невялічкае расьследаваньне, там прасачыў, тут пасядзеў у засадзе... У сваім УНСО ён узначальвае аддзел контравыведкі, вось што. Звыклай, словам, справай заняўся чалавек...

Пакуль я біла каханага шрубоўкай і чакала сьмерці, Фабіян і Тарас бегма беглі з электрычкі, Анупры сьпехам даставаў з вышак абрэз, а кантужаны Кержыч ляжаў на стале, Алена, якая, канешне, ня ведала ўсіх гэтых падрабязнасьцяў, спакойна дастала з паштовай скрынкі ліст у вялікім пакеце, надпісаны па-ангельску. Вечарам яна расказала мне пра яго, і ліст гэты павярнуў маё далейшае жыцьцё новым бокам.

Пэўны час таму мы з Аленай паслалі дакументы ў Масачусэцкі ўнівэрсытэт гэтая навучальная ўстанова практыкуе набор замежных

студэнтаў. І вось прыйшоў адказ: маем гонар паведаміць, што прапануем пачаць вучобу з новага семестру, які пачнецца праз месяц...

Алена, праўда, вырашыла ехаць не ў Масачусетс, а ў Львоў, а вось я з запалам узялася за афармленьне дакументаў.

Гэты новы абарот падзеяў дапамог мне хутка ачомацца і забыцца на ўсе мае прыкрыя перажываньні... Толькі час ад часу, калі я раніцай бегла куды-небудзь па справах, мяне агартаў нейкі страх: я глядзела на людзей, што ішлі насустрач і абганялі мяне, і думала, хто зь іх здольны забіць чалавека дзеля атрымання пазыкі? Вось гэты тлусты з жоўтай скурай? Таваразнаўца на абцасах з нафарбаванай пысай? Шэрая настаўніца малодшых клясаў? Прышчавы пэтэвэшнік? Страх рос, расла агіда, я сыходзіла з тратуару, абдымала першую-лепшую бярозу або асіну на газончыку, і мяне ванітавала, моцна, жоўцю, а людзі беглі міма, я старалася на іх не глядзець, і хутка мне рабілася лепш...

Паколькі я мела афіцыйнае запрашэньне, то беспраблемна атрымала студэнцкую візу. Я баялася, што адправяць мяне на якую мэдкамісію, але абышлося бяз гэтага. І вось настаў дзень, калі я ехала ў Менск-2, і навакольныя кравіды і песьня, якую слухаў кіроўца, зьліваліся ў маёй душы ў нейкую велічную сімфонію радасьці. Хутка, хутка я ўзмыю ў чыстае блакітнае неба, хутка пакіну мінулае так далёка. Я папрасіла мяне не праводзіць. Разьвіталася з усімі раней — з бацькам, Аленай, нашымі ў групе, Фабіянам, Збышакам і Анупрыем... У цудоўнай адзіноце я дайшла да самалёта. Улезшы ў адно вуха гэтага сучаснага Канька-Гарбунка і вылезшы з другога, я перамянюся. Новай Янінкі ніхто не пазнае. Чакае мяне новае жыцьцё, куды ад старога не вазьму я нічога — толькі дзіця.

Так, я чакаю дзіця. Прыступы голаду, якія я не магла ўцяміць, тлумачыліся цяжарнасцю. Хацела маё дзіця есьці, вось што! Вось чаму мяне ванітавала раніцамі, вось чаму я баялася мэдкамісіі і ўзрадавалася, калі абышлося безь яе.

Напаўпусты самалёт «Белавія» скіраваўся на Шэнан. Эўропа ўнізе, аблокі ўнізе, а я неўпрыкмет трымаюся за жывот. Ён яшчэ зусім роўны, але ў ім, і гэта ведаю толькі я, жыве маё дзіця. Гэта нічога, што твой бацька — або бессаромны забойца, або палахлівая ахвяра. Нічога, што твая мама, шлёндра, ня ведае дакладна, хто менавіта твой бацька. Усё роўна ты будзеш самым цудоўным дзіцём на сьвеце. Сядзі сабе пакуль у маім жываце, а я буду карміць цябе цудоўнай амэрыканскай ежай: малаком бяз стронцыю й пэстыцыдаў, сокамі, свежай садавіной, якой там заваліся і ўся па баксе за фунт, sea foods, свежынай з суседняе крамкі, стронгай, далікатэсамі ў кітайскім рэс-

таранчыку... А калі прыйдзе час, ты зьявішся на сьвет у амэрыканскім шпіталі, дзе ні парадзіхі, ні дзеці ня ведаюць, што такое боль. Мы ня вернемся ў Беларусь. Твая мама не з дурнейшых і, канешне, зможа знайсці сабе працу. Зямлю будзе носам рыць, але так ці інакш атрымае від на жыхарства. Ты будзеш мець усё. Мы будзем жыць у прыгожым доме, і, пакуль я буду працаваць, з табой будзе baby sitter. Я буду пільна выбіраць табе няню і знайду такую, якую ты будзеш любіць, — лепш за ўсё негрыцянку сталага веку, з тых, што так прыгожа рухаюцца і ў карых вачах носяць мудрасць афрыканскіх продкаў. Але мяне ты будзеш любіць нашмат, нашмат больш. А ў адпачынак мы будзем выбірацца з табой на мора, у Мексіку... Ты мой цудоўны камячок! Я люблю цябе і ўсё дзеля цябе зраблю! Ты будзеш шчаслівым, ты будзеш жыць у справядлівым свеце, і з табою я буду шчасьлівая.

У Шанане я перасела на амэрыканскі «боінг». Тут людзей было нашмат больш — вялікі салён быў поўны. Маёй суседкай выявілася бабка-мурынка са шматлікімі чыста прамытымі зморшчынкамі на твары — якраз з такіх, якія мне падабаюцца. Яшчэ на зямлі я адчула нейкую млявасьць, а зараз мне рабілася ўсё горш. Суседка, пэўна, патлумачыла маю бледнасць эмігранцкімі перажываннямі і ласкава патрапала мяне па руцэ:

— Нічога, нічога. Нью-Ёрк — гэта такі вялікі кацёл, у якім усё перакіпае і атрымліваецца някепская ежа.

Я адказала ўсьмешкай на яе ўсмешку і закрыла вочы. Самалёт набіраў вышыню.

Раптам я адчула, як кроў хваляй хлынула зь мяне. Цёплая вадкасць палілася па нагах. Я паварушылася — пада мной хлюпнула.

— Мадам, — прашаптала я.

Заклапочаны чорны твар нахіліўся нада мной.

— Мадам, здаецца, я страчваю дзіця і ня ведаю, што рабіць...

— О Божа!

Старая жанчына некалькі разоў энэргічна націснула кнопку выкліку стуардэсы.

Пад намі былі зеленаватыя пусткі Ірляндыі, паплямаваныя белымі кропкамі — безьліччу авечак, якіх па-старому пераганяюць упоперак вострава ў пошуках пашы. Сланцавыя скалы паблісквалі пад сонцам, адлівалі блакітам азерцы. Як у тумане, бачыла я людзей, што нахіліліся нада мной. Стуардэсу, мурынку, нейкага мужчыну, які хутка закасваў рукавы белай кашулі...

Калі хто глядзеў зь неба, бачыў, як вялікі ляйнэр, крыху прылягаючы на крыло, рабіў над Ірляндыяй вялікую пятлю, каб зноў сесці ў Шанане...

*2001*

**Зьмест**